

*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 22 верасня 1989 г. № 38 (3500) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.


## 700073

**Гэта — нумар адкрытага ў мінскім аддзяленні Белжылсацбанка рахунка, на якім збіраюцца сродкі ў фонд перасялення з радыяцыйна забруджаных раёнаў Гомельшчыны і Магілёўшчыны.**

**Мы паведамлялі ўжо, што калектыў рэдакцыі «ЛіМа» вырашыў ганарар аднаго з нумароў газеты пералічыць у гэты фонд, названы «чарнобыльскім».**

**Такое рашэнне знайшло зацікаўленую падтрымку нашых аўтараў. На працягу двух тыдняў мы атрымлівалі прапановы аб іх удзеле ў дабрачынным нумары «ЛіМа».**

**Вось ён, перад вамі. На яго старонках з вершамі, апавяданнямі, артыкуламі выступаюць Р. Барадулін, Д. Бічэль-Загнетава, В. Жуковіч, Л. Тарасенка, І. Ласкоў, А. Рогалеў, З. Азгур, Г. Каржанеўская, М. Арочка, М. Гіль, А. Каско, С. Панізнік, А. Разанаў, Д. Сімановіч, Б. Сачанка і іншыя.**

**На жаль, у гэтым, як і ў іншых лімаўскіх нумарах, усяго шаснаццаць палос. Вось чаму сёння на старонкі газеты не трапілі некаторыя з прапанаваных нашымі аўтарамі матэрыялаў. Тым не менш — усім вялікі дзякуй.**

**Засталося паведаміць, што ганарарны фонд аднаго нумара «Літаратуры і мастацтва» складае 1600 рублёў.**




Відушчы.



Рэквіем.

## «...І сказана ім, каб яны супакоіліся...»

**«Чарнобыльскі цыкл» Міхаіла САВІЦКАГА**

Гэтыя словы са Свяшчэннага пісання Міхаіл Савіцкі ўвёў у палатно «Відушчы» свайго «Чарнобыльскага цыкла». Ідуць людзі, прыкрыўшы галовы ад радыяцыйнага дажджу з аблокаў, якія асядалі на зямлю Беларусі. Яны — сляпыя, бо не ўсведамляюць усяго жаху свайго становішча. Радыяцыя не мае паху і колеру, да таго ж ім сказалі, каб яны супакоіліся, не турбаваліся... Відушчы толькі павадыр — у спецыяльным камбінезоне, з дазіметрам у руках...

Здаецца, што сышла са сцяны храма і рухаецца на гледача фрэска з выявамі святых пакутнікаў. Хто адкажа за іх пакуты?

Калісьці славу мастаку прынесла карціна «Партызанская мадонна» — роздум пра лёс народа ў Вялікай Айчыннай вайне. І вось выпала Міхаілу Савіцкаму напісаць Мадонну Чарнобыльскую.

«Рэквіем». Рэпрадукцыя гэтага палатна была надрукавана ў чэрвеньскім нумары «Беларусі». З таго часу мастак перарабіў карціну. Тады ў анёлаў былі белыя крылы, цяпер — чорныя. «Рэквіем» гучыць яшчэ больш трагічна.

«...І сказана ім, каб яны супакоіліся...». Мы не можам супакоіцца і чакаць, пакуль павялічыцца колькасць ахвяр і дасягне страшнага «Чысла»; мы павінны спыніць Апакаліпсіс на нашай зямлі, — нібыта гаворыць мастак.

**П. ВАСІЛЕЎСКІ.**



Чарнобыльская мадонна

# ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ПАВЕДАМЛЕННЕ
# аб Пленуме Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Савецкага Саюза

**19—20 верасня 1989 года ў Маскве праходзіў чарговы Пленум Цэнтральнага Камітэта КПСС. На разгляд Пленума былі ўнесены наступныя пытанні:**

**1. Аб скліканні чарговага XXVIII з'езда КПСС.**

**2. Аб нацыянальнай палітыцы партыі ў сучасных умовах.**

**Па першым пытанні Пленум заслухаў выступленне Генеральнага сакратара ЦК КПСС М. С. Гарбачова і прыняў пастанову аб скліканні чарговага XXVIII з'езда КПСС у кастрычніку 1990 года.**

**У спрэчках выступілі: Р. Х. Хабібулін — першы сакратар Башкірскага абкома КПСС, Я. Я. Сакалоў — першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі, А. М. Масаліеў—першы сакратар ЦК Кампартыі Кіргізіі, Ю. Н. Ельчанка — сакратар ЦК Кампартыі Украіны, Н. А. Назарбаеў — першы сакратар ЦК Кампартыі Казахстана, Ю. С. Карабасаў — сакратар Маскоўскага гаркома КПСС, Ю. М. Пракоп'еў — першы сакратар Якуцкага абкома КПСС, Р. Н. Нішанаў — Старшыня Савета Нацыянальнасцей Вярхоўнага Савета СССР, В. Р. Афанасьеў — галоўны рэдактар газеты «Праўда», В. І. Варатнікоў—Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета РСФСР, Г. Р. Гумбарыдзе — першы сакратар ЦК Кампартыі Грузіі, У. І. Патапаў — першы сакратар Іркуцкага абкома КПСС, А.-М. К. Бразаўскас — першы сакратар ЦК Кампартыі Літвы, Ю. Д. Маслюкоў — першы намеснік Старшыні Савета Міністраў СССР, старшыня Дзяржплана СССР, С. Г. Аруцюнян — першы сакратар ЦК Кампартыі Арменіі, А. М. Гірэнка — першы сакратар Крымскага абкома Кампартыі Украіны, Б. І. Алейнік — пісьменнік, намеснік Старшыні Савета Нацыянальнасцей Вярхоўнага Савета СССР, С. К. Гросу — першы сакратар ЦК Кампартыі Малдавіі, В. І. Вяляс — першы сакратар ЦК Кампартыі Эстоніі, С. А. Ніязаў — першы сакратар ЦК Кампартыі Туркменістана, Д. Г. Заўгаеў— першы сакратар Чэчэна-Інгушскага абкома КПСС, І. А. Карымаў — першы сакратар ЦК Кампартыі Узбекістана, Г. І. Усманаў — першы сакратар Татарскага абкома КПСС, Я. Я. Вагрыс — першы сакратар Кампартыі Латвіі, А. І. Вольскі — старшыня Камітэта асобага кіравання Нагорна-Карабахскай аўтаномнай вобласцю, М. Ф. Нянашаў — старшыня Дзяржаўнага камітэта СССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні, Н. В. Гелерт — механізатар саўгаса імя Амангельды Казахскай ССР, А. А. Уласенка — першы сакратар Смаленскага абкома КПСС, М. Ю. Юсупаў — першы сакратар Дагестанскага абкома КПСС, А.-Р. Х. Везіраў — першы сакратар ЦК Кампартыі Азербайджана, К. М. Махкамаў — першы сакратар ЦК Кампартыі Таджыкістана, Д. Ц. Язаў — міністр абароны СССР, Я. А. Елісееў — першы сакратар Кабардзіна-Балкарскага абкома КПСС, Б. Л. Карсунскі — першы сакратар абкома КПСС Яўрэйскай аўтаномнай вобласці, Хабараўскі край, В. В. Бакацін — міністр унутраных спраў СССР, Р. Ч. Шыршын — першы сакратар Тувінскага абкома КПСС, В. М. Мішын — сакратар ВЦСПС.**

**Ад Рэдакцыйнай камісіі, утворанай на Пленуме, выступіў член Палітбюро, сакратар ЦК КПСС В. А. Мядзведзеў.**

**Пленум адобрыў дапрацаваны з улікам паступіўшых прапаноў, заўваг і прайшоўшага абмеркавання праект платформы КПСС «Нацыянальная палітыка партыі ў сучасных умовах» і прыняў па гэтым пытанні пастанову, якая публікуецца ў друку.**

**Пленум заслухаў паведамленне Генеральнага пракурора СССР А. Я. Сухарава аб выніках разгляду заявы члена Палітбюро, сакратара ЦК КПСС Я. К. Лігачова, з якой ён звярнуўся ў ЦК КПСС і Пракуратуру СССР наконт абвінавачанняў яго следчымі Т. Х. Гдлянам і М. В. Івановым у хабарніцтве. Праведзенае Пракуратурай СССР расследаванне паказала поўную беспадстаўнасць гэтых сцвярджэнняў.**

**На Пленуме выступілі Я. К. Лігачоў і кандыдат у члены ЦК КПСС В. І. Смірноў. Пленум прыняў па дадзеным пытанні пастанову.**

**Пленум ЦК разгледзеў арганізацыйнае пытанне.**

**Пленум вызваліў В. П. Ніканава і В. М. Чэбрыкава ад абавязкаў членаў Палітбюро і сакратароў ЦК КПСС у сувязі з іх заявамі аб выхадзе на пенсію.**

**Пленум вызваліў У. В. Шчарбіцкага ад абавязкаў члена Палітбюро ЦК КПСС у сувязі з яго заявай аб выхадзе на пенсію.**

**Пленум вызваліў Ю. П. Салаўёва і М. У. Талызіна ад абавязкаў кандыдатаў у члены Палітбюро ЦК КПСС у сувязі з выхадам на пенсію.**

**Пленум выбраў старшыню Камітэта дзяржбяспекі СССР У. А. Кручкова членам Палітбюро ЦК КПСС.**

**Пленум перавёў Ю. Д. Маслюкова з кандыдатаў у члены Палітбюро ЦК КПСС.**

**Пленум выбраў Старшыню Савета Саюза Вярхоўнага Савета СССР Я. М. Прымакова і старшыню Камітэта Партыйнага Кантролю пры ЦК КПСС Б. К. Пуга кандыдатамі ў члены Палітбюро ЦК КПСС.**

**Пленум выбраў першага сакратара Арлоўскага абкома КПСС Я. С. Строева, першага сакратара Ліпецкага абкома КПСС Ю. А. Манаенкава і першага сакратара Татарскага абкома КПСС Г. І. Усманава сакратарамі ЦК КПСС.**

**Пленум перавёў з кандыдатаў у члены ЦК КПСС першага сакратара Крымскага абкома Кампартыі Украіны А. М. Гірэнку і выбраў яго сакратаром ЦК КПСС.**

**У заключэнне на Пленуме выступіў Генеральны сакратар ЦК КПСС М. С. Гарбачоў.**

**На гэтым Пленум ЦК КПСС закончыў сваю работу.**

## М. С. ГАРБАЧОЎ:
# «Асноватворны прынцып — права нацый на самавызначэнне»

Тэрміны правядзення Пленума ЦК КПСС, прысвечанага нацыянальнаму пытанню, пераносіліся, як вядома, некалькі разоў. Ужо адзін гэты факт гаворыць аб важнасці і надзвычайнай складанасці пытання. Вераснёўскі Пленум сабраўся на фоне няпростай сацыяльна-палітычнай сітуацыі ў краіне. Забастоўкі на прадпрыемствах Малдавіі і ў Абхазіі... Перманентны канфлікт вакол Нагорнага Карабаха...Ярасныя спрэчкі вакол законаў аб нацыянальным суверэнітэце і эканамічнай самастойнасці рэспублік, законаў аб мове...

Усведамленне неабходнасці глабальных пераўтварэнняў у галіне нацыянальнай палітыкі партыі адбылося не адразу. Але логіка перабудовы, само жыццё, як адзначыў у самым пачатку свайго даклада на Пленуме Генеральны сакратар ЦК КПСС М. С. Гарбачоў, паказала неабходнасць такіх усеахопных пераўтварэнняў. На падставе шырокіх дыскусій і аналізу грамадскіх працэсаў, а таксама з улікам сусветных тэндэнцый была выпрацавана платформа КПСС, якая была вынесена на ўсенароднае абмеркаванне.

Адным з важнейшых для партыі было і застаецца пытанне аб суадносінах нацыянальнага і інтэрнацыянальнага, падкрэсліў М. С. Гарбачоў.

Дэфармацыі, звязаныя са звышцэнтралізмам і бюракратызмам, несправядлівасць у адносінах да розных народаў можна і трэба крытыкаваць без аніякіх замоўчванняў. Але, працягваючы і нават паглыбляючы аналіз, крытыку скажэнняў ленінскай нацыянальнай палітыкі, сказаў Генеральны сакратар ЦК КПСС, мы не павінны дапусціць, каб месца адной няпраўды або паўпраўды заняла іншая.

Стварэнне і развіццё Саюза ССР — аб'ектыўна факт унікальнай гістарычнай важнасці. І дружба народаў заўсёды была для савецкіх людзей не лозунгам, а рэальнасцю.

Пытанне аб тым, што дала нашым народам нацыянальная палітыка КПСС, развіццё савецкай федэрацыі, паводле слоў Генеральнага сакратара ЦК, трэба вымяраць у палітычным, эканамічным і духоўным плане.

У выніку гістарычнага развіцця склалася адзіная саюзная сацыялістычная шматнацыянальная дзяржава са складанай структурай, прадстаўленай рэспублікамі і аўтаноміямі. Але, гаворыцца ў дакладзе, функцыяніраванню гэтай сістэмы і тым самым—рэалізацый разнастайных інтарэсаў народаў, якія пражываюць у нашай краіне, велізарны ўрон нанеслі унітарызм, каманднa-адміністрацыйныя метады кіраўніцтва. Гэта вяло на практыцы да актаў несправядлівасці і беззаконня супраць цэлых народаў, да масавых дэпартацый і рэпрэсій, прымусовага перасялення. Парушаныя правы народаў і народнасцей павінны быць сёння цалкам аднаўлены, як бы цяжка гэта ні было зрабіць.

З эканамічнага пункту гледжання ў СССР была дасягнута высокая ступень інтэграцыі рэспублік, склаўся агульнасаюзны гаспадарчы комплекс. Канечне, адзначалася ў дакладзе, пакуль нельга гаварыць аб арганічнасці ўзаемасувязі ўсіх элементаў народнай гаспадаркі краіны і яе рэгіёнаў. І ўсё ж, дасягнутая шчыльнасць узаемасувязей у народнай гаспадарцы літаральна паўстае супраць любых спроб іх парушыць, зазначыў М. С. Гарбачоў. І гэта трэба ўлічваць, каб пазбегнуць памылак у рашэннях.

Нельга пакінуць без увагі і рост узаемасувязі нацыянальных культур у нашай краіне, фарміравання савецкай культуры, багатай сваёй разнастайнасцю, шматколернасцю нацыянальных традыцый. Але і тут ёсць свае нявырашаныя праблемы. Асабліва вострыя характар набылі праблемы развіцця моў і ўсяго, што з імі звязана, навучання, выдавецкай дзейнасці, магчымасцей выкарыстання ў розных сферах дзяржаўнага і грамадскага жыцця. Пад уплывам эканамічных, сацыяльных і дэмаграфічных фактараў адбывалася пэўнае скарачэнне сферы дзеяння нацыянальных моў, што трактавалася на карысць распаўсюджаных у мінулым тэарэтычных пастулатаў аб фарсіраваным зліцці нацый, якія былі падняты на ўзровень праграмных установак. І хоць гэтыя працэсы выклікалі законную трывогу і занепакоенасць у грамадства, цвярозыя спробы больш глыбока ў іх разабрацца і знайсці рацыянальнае рашэнне нярэдка кваліфікаваліся як нацыяналізм. Сёння важна выпрацаваць дакладную пазіцыю, заснаваную на ўліку ўсіх справядлівых патрабаванняў, на агульнай згодзе.

Ключ да рашэння праблемы — рэалізацыя ленінскага прынцыпу самавызначэння нацый. Як сказаў М. С. Гарбачоў, партыя будзе паслядоўна праводзіць у жыццё ленінскую нацыянальную палітыку, уключаючы такі яе асноватворны прынцып, як права нацый на самавызначэнне.

На парадку дня сёння стаіць значнае пашырэнне правоў рэспублік, умацаванне іх палітычнай самастойнасці, напаўненне нацыянальнага суверэнітэту рэальным зместам, а таксама пашырэнне ўплыву саюзных рэспублік на агульнасаюзную палітыку.

З асаблівай увагай і далікатнасцю трэба падыходзіць да ўсяго, што звязана з духоўнай сферай. Карэннае насельніцтва ўсіх рэспублік мае безумоўнае права зацвердзіць сваю мову ў якасці дзяржаўнай, падкрэсліваецца ў дакладзе. Разам з тым, многія прапануюць надаць рускай мове статус агульнадзяржаўнай у маштабе СССР. Павінны мець права на карыстанне роднай мовай і прадстаўнікі ўсіх нацыянальных меншасцей.

Наша новая нацыянальная палітыка заклікана забяспечыць шырокія магчымасці для задавальнення спецыфічных інтарэсаў кожнага народа і разам з тым умацавання гарантый правоў грамадзян незалежна ад іх нацыянальнай прыналежнасці, сказаў М. С. Гарбачоў.

Неабходна паўсюдна ўзмацніць абарону правоў грамадзян СССР, адзначаецца далей у дакладзе. Аб гэтым тым больш важна сказаць, што прымнажаюцца выпадкі дыскрымінацыі людзей па нацыянальнай прыкмеце. Усё часцей мы сутыкаемся са спробамі праціўнікаў перабудовы, антыграмадскіх элементаў і груп разыграць «нацыяналістычную карту», перакінуць незадаволенасць людзей, якая збіралася дзесяцігоддзямі, у сферу міжнацыянальных адносін. Для нас непрымальныя любыя праяўленні нацыяналізму і шавінізму, распальванне варожасці да любога народа.

Важнейшая роля ў пераўтварэнні савецкай федэрацыі належыць Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, зазначыў М. С. Гарбачоў. Перабудова партыі, важнай вяхой якой будзе XXVIII з'езд КПСС, сказаў ён, дазволіць выканаць тыя надзвычай адказныя задачы, якія паўсталі на сучасным этапе развіцця нашага грамадства.

Адна з важнейшых задач—аднавіць у поўным аб'ёме ленінскае разуменне прынцыпу дэмакратычнага цэнтралізму, які прадугледжвае актыўнае, паўнакроўнае жыццё ўсіх партарганізацый, іх рэальную самастойнасць. І зусім не казарменная дысцыпліна, не бясспрэчная паслухмянасць патрабуюцца сёння ад членаў партыі, падкрэсліў М. С. Гарбачоў, але адзінства дзеянняў, заснаванае на выпрацоўцы агульных палітычных і ідэйных пазіцый.

*Пастанова Пленума Цэнтральнага Камітэта КПСС ад 20 верасня 1989 года*

# Аб нацыянальнай палітыцы партыі ў сучасных умовах

**Абмеркаваўшы даклад Генеральнага сакратара ЦК КПСС М. С. Гарбачова і разгледзеўшы праект платформы КПСС «Аб нацыянальнай палітыцы партыі ў сучасных умовах» з улікам вынікаў яго абмеркавання ў партыі і народзе, Пленум пастанаўляе:**

**1. Прыняць платформу КПСС «Аб нацыянальнай палітыцы партыі ў сучасных умовах» і лічыць паслядоўнае яе правядзенне ў жыццё задачай усіх партыйных арганізацый, кожнага камуніста.**

**Пленум лічыць, што ідэі і палажэнні платформы, якія сустрэлі шырокае адабрэнне ў грамадстве, адпавядаюць надзённым патрэбнасцям перабудовы і могуць стаць палітычнай асновай для абнаўлення савецкай федэрацыі, развіцця ўсіх нацыянальна-дзяржаўных утварэнняў і вырашэння іншых нацыянальных праблем у інтарэсах усіх народаў Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.**

**2. Пленум даручае Палітбюро ЦК КПСС, ЦК кампартый саюзных рэспублік, крайкомам і абкомам партыі распрацаваць канкрэтныя планы дзейнасці партыйных арганізацый па рэалізацыі ідэй, выкладзеных у платформе КПСС «Аб нацыянальнай палітыцы партыі ў сучасных умовах».**

# ДА СВЯТА СЛАВЯНСКАЙ ПІСЬМЕННАСЦІ І КУЛЬТУРЫ

**З пасяджэння калегіі Міністэрства культуры БССР**

Волагда, Ноўгарад, Кіеў... Такая геаграфія набыўшага шырокую папулярнасць Усесаюзнага свята славянскай пісьменнасці і культуры. У наступны раз Свята мае адбыцца на Беларусі, у Мінску.

Пытанне аб падрыхтоўцы і правядзенні Свята славянскай пісьменнасці было разгледжана на пасяджэнні калегіі Міністэрства культуры, якое адбылося ў мінулую сераду. У абмеркаванні, на якім старшынстваваў міністр культуры Я. Вайтовіч, прынялі ўдзел члены калегіі, кіраўнікі міністэрства, запрошаныя — У. Гілеп, У. Матвееў, Н. Загорская, Л. Караічаў, В. Мулярчык, М. Бірыла, В. Тураў, С. Законнікаў, П. Краўчанка, І. Чыгрынаў, М. Громаў, М. Казінец. Вызначаны тэрмін Свята — 24—27 мая 1990 года, разгледжаны розныя аспекты падрыхтоўкі і правядзення Свята.

НАШ КАР.

---

# ЁСЦЬ У БЕЛААЗЁРСКУ СЯБРЫНА...

*Называецца яна паэтычна-сімвалічна «Агмень» і ўзнікла ў гарадку восенню мінулага года — на хвалі перабудовы і адраджэння. Пагаварыла, параілася Ніна Мацяш са сваімі сябрамі, і вырашылі яны стварыць сваё культурна-асветніцкае таварыства — сябрыну, акрэслілі яго мэты, тут жа вызначылі яго назву.*

— Ніна Іосіфаўна, добрая слава пра ваш «Агмень» дайшла ўжо і да Мінска. Хто, скажыце, складае актыў сябрыны, яго ядро?

**— Перш за ўсё школьныя настаўнікі, выкладчыкі беларускай мовы і літаратуры Г. Скарына, Р. Жмачынская, Н. Бухта, а таксама загадчыца дзіцячага садка Л. Якута, інжынер-тэхнолаг энергамеханічнага завода С. Амяльчук, выкладчыца ГПТВ Г. Пыж'янава, настаўнік матэматыкі М. Валошчык. Сябрыне ўсяляк спрыяюць, удзельнічаюць у нашых пасяджэннях дырэктар музычнай школы В. Скарына, эканаміст саўгаса «Белаазёрскі» М. Барычэўская, дырэктар энергамеханічнага завода М. Бразоўскі і галоўны інжынер М. Тараненка...**

— Некалькі слоў пра мэты вашага «Агменю».

**— Мы імкнёмся актывізаваць грамадскае жыццё горада, узбагачаць яго духоўна, спрыяць абуджэнню нацыянальнай самасвядомасці белаазёрцаў.**

— Што ўжо ўдалося зрабіць? Якія добрыя справы на рахунку агменеўцаў?

**— Пры непасрэдным удзеле сябрыны быў праведзены вялікі беларускамоўны вечар, прысвечаны 70-годдзю БССР і Кампартыі Беларусі, наладжаны творчыя сустрэчы з вядомым літаратуразнаўцам, прафесарам Брэсцкага педінстытута Уладзімірам Калеснікам і маладой паэтэсай з Барысава Таццянай Зіненкай. Праведзены вечар памяці заўчасна загінуўшай Яўгеніі Янішчыц. Па нашай ініцыятыве адбыліся чытацкая канферэнцыя па аповесці Васіля Быкава «Аблава» і вечар паэзіі Пімена Панчанкі. Заўважу, што колькасць чытачоў беларускай літаратуры пасля гэтых сустрэч адразу павялічвалася... Што яшчэ? Па нашай прапанове ў былой лекцыйнай зале Палаца культуры працуе «Мастацкая гасцёўня», дзе пастаянна дэманструюцца працы беларускіх жывапісцаў і графікаў. З вялікім поспехам прайшлі выставы карцін брэсцкіх мастакоў Міколы Чурабы і Сяргея Казака, сустрэчы белаазёрцаў непасрэдна з імі. У «Мастацкай гасцёўні» былі паказаны таксама дакументальна-графічна-прасторавая экспазіцыя, прысвечаная сталінскім рэпрэсіям, і выстава графікі на тэму «Гістарычныя помнікі архітэктуры Беларусі». Не можам не паганарыцца і такім фактам: актывіст сябрыны М. Бразоўскі прыняў удзел у рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі «Народ. Культура. Перабудова», а Л. Якута і Р. Жмачынская былі дэлегатамі Ўстаноўчага з'езда Таварыства беларускай мовы...**

...Да тых імпрэзаў, пра якія расказала кіраўнік культурна-асветніцкай сябрыны «Агмень», лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. Куляшова Ніна Мацяш, дадалася гэтымі днямі яшчэ адна падзея. У мінулую нядзелю, 17 верасня, па ініцыятыве сябрыны ў Белаазёрску адбылося свята беларускай мовы, прымеркаванае да 50-годдзя ўз'яднання Усходняй і Заходняй Беларусі. Свята пачалося ў гарадскім парку і потым працягвалася ў «Мастацкай гасцёўні». Гучалі прамовы, выступленні, песні, музыка. У літаратурнай сустрэчы прынялі ўдзел Н. Мацяш, А. Вярцінскі, В. Жуковіч, а затым вядомыя ў раёне самадзейныя спявачкі сёстры Крук з вёскі Гнілец выканалі беларускія народныя песні.

НАШ КАР.

---

**Рыгор БАРАДУЛІН**

## Жалоба

Пасля чарнобыльскае навалы
На Беларусь прыпала
Сем — з дзесяці —
Хірасім.
Хапіла ўсім.

Атам
Зрабіў Беларусь удавою.

А ва ўдавы
Не зачыняюцца хлявы,
Павыпушчана гавяда.
Статак пасвіць бяда.
А ва ўдавы
Някошаны паплавы
І пожні някошаны.
Госці запрошаны
З ласкі бяды.
На Дзяды.

Маўклівы кат
Не мыліць пятлі.

На нашай зямлі
Ці паўторыцца наш працяг?
Ці ў жарстве захаваецца след?

Як стронцый трашчыць
У нашых касцях,
Ці чуе свет?

●

Адабралі дажджы,
Адабралі снягі,
Адабралі святыя крыніцы,
Адабралі ў цябе, чалавек,
Не багі.
Ты калі гэта ўстаў
Не з тае нагі,
Што дазволіў такому ўчыніцца?

Сам сябе абабраў,
Абакраў, абкрыўдзіў
І застаўся, як дрэва сухое:
Над табою абвал,
Пад табою абрыў.
Пыл ляціць
У вятроў з перасохлых грыў.
Вочы сплакалі хмары-ізгоі.

Пачынаеш баяцца ўсяго па чарзе,
Што раджала цябе,
Што спрыяла:
Можа ў неба ўрасці
На таўсматай назе
Грыб не той, што ў загадцы
Стаіць у лазе.
І праявіцца жахам праява.

Вінаваціць каго?
У жабрацтва
Сам сабе
Дапамог ты сабрацца.

## Памінаю

На вачах маіх знікла стагоддзе,
У якім дазвалялася есці
Усё азярное, рачное, лясное
І стаяць пад дажджом з босаю
галавою,
Каб крыху падрасці.
На вачах маіх знікла стагоддзе,
У якіх не былі гэтак людзі
Апраменены злосцю, маною,
А хацелі яшчэ спачуваць
І спрыяць падобным да сябе
пры жыцці.

На вачах маіх знікла стагоддзе,
Дзе называлі па даўніх імёнах
Кожную птушку, травінку, суседку,
Дзе ўмелі душой весяліцца
І апошнім дзяліцца ў бядзе,
Дзе мядзведзь не з музея
Задзіраў на лясіне метку
І мёд цёк у казачніка
Па вусах і па барадзе.

Добрым словам любой парою
Пры нагодзе
Памінаю добрае старое
Стагоддзе.

## Коні сытыя

Нешта верныя сталінцы
Невясёлыя сёння,
Кожны сціШыўся ў стаенцы.
Прытаміліся коні.

Ён жа з размеркавальніка
Той авёс,
Што ў дыяту
Ўведзены —
Ад начальніка
Да сексота —
Дагэтуль.

Дзе аброці каляныя?
Дзе жалезныя цуглі?
Парадняліся кланамі.
Ды заўчасна патухлі.

Вочы б а ц ь к і налітыя
Гневам.
Точыць туга.
*Кони сытые бьют копытами.*
*Встретим мы по-сталински*
*врага!*

## Паўсюль наш клопат

Сёння, пэўна, болей касманаўтаў,
Чым нядаўна ордэнаў у Брэжнева.
Ды жыццё палепшала не надта.
Мы зямлю не ўладкавалі грэшную,

А ўжо маемся рабіць парадак,
Як і дома,
У гасподзе богавай.
Там бліжэй да манны,
І аладак
Напячэм з нябеснай дужа многа мы!

І накормім той нябеснай маннай,
Як маной пра будучыню светлую,
Жыхароў краіны ашуканай.
Абплакацім шлях у апраметную.

І, вядома, наш арыентыр на
Курс —
Каб мечы сталіся араламі.
Мы за атам і за космас мірны.
Толькі касманаўты — генераламі.

## Мы

Мы не баяліся вучыць вучонага,
Сапселых ідалаў лізалі лізма,
Не шкадавалі колеру чырвонага,
Каб уцвяліць быка капіталізму.

Фанерна гаварылі,
А фанерыны,
Каб шыбу выбітую замяніць
Не мелі.
Фанера ўся —
На лозунгі зняверания,
Яны за нас крычалі,
Мы нямелі.

Палацы, цэрквы з босымі галовамі
Стаялі,
Цынк ішоў на труны тыя,
Што небам слалі —
Аж душа халодала —
З перадавой панурыя святыя.

Калі мы ўжо навучымся,
Калі,
Як людзі,
Жыць па-людску на зямлі?

## І я

Я хадзіў дэманстраваць адзінства
У калонах шчыльных, як сцяна,
За сваё шчаслівае дзяцінства
Дзякаваў звідна і дацямна.

Дзякаваў таму,
Хто пыхкаў піпкай,
Быццам крэматорыем ручным.
Густа віўся над усмешкай хліпкай
Лагерных кастроў ахвярны дым.

Маразы змяняліся адлігай,
За адлігай следам — маразы.
Час усё мудрыў над чорнай кнігай
І галіў па-свойму — ў два лязы.

Я лічу,
Шануючы турботы,
Да сівой дажыўшы барады,
Лепей шыць знава
Дыхтоўна боты,
Чым мяняць халявы,
Перады.

## Дазвол

На час галоснасці
Мы атрымалі дазвол
Галасіць бабрамі па роднай мове.
Няхай лебядой зарастае падзол,
Няхай там народ будзе гол як сакол,
Мы боб сваіх слёз збіраць у прыпол,
Як піянеры, заўжды наўзгатове.

А карта рэспублікі ў плямах,
Нібы
Бруцэлёзная
Прыгнаная з Прусіі па вайне карова.
Ёсць карта,
Дзе нельга збіраць грыбы,
Дзе могуць магілы выпростваць
гарбы,
Дзе ўчуем голас
Архангельскае трубы.

Зямля маўчыць,
Як народ, сурова.
Ад радыяцыі
Беларусь гарыць.
Ці будзе, наогул,
Каму гаварыць?

---

**Данута БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА**

## Цудадзейнасць

На злом галавы ўцякаць не прымусяць—
высею краскі па ўсёй Беларусі.
Зеллечка ўзыдзе і на Украіне,
ў сэрца зялёнае радый укіне.

Высее зялёным раточкам атруту,
зніме распад смертаноснага бруду.
Дзетак-бязлетак яшчэ падгадуе
ды на асуджаных не засярдуе...

Мята, расходнік, чаборык і лютнік
знікаюць у сонны атрутнік.
Сончык з вачэй несвядомай сіротцы
высмакча польсцый, расейцый
і стронцый.

Янак-ды-Мар'я на сцежцы ляснон
не вінавацяць віной-жаўцізной.
Чыстае зелле праз яд прарасце,
цудам малітвы смерць адвядзе.

●

Заходзьце, адчынены насцеж вароты
*пад страху бацькоўскую неба*
ў хаціну белага свету!

Па Птушыным гасцінцы
на чыстым гваздзістым кіліме
пагрэйцеся пры цяпельцы
маладзіка.

Пад Божай страхою неба
ў хаціне белага свету,
дзе кожны і ўсе не сагрэты,
без надзеі выгрываць нельга.

**Васіль ЖУКОВІЧ**

## На сумежжы

На Гомельшчыне я.
Стаю ля зоны забароннай,
ля вёскі, адгароджанай ад свету,
анямелай,
гляджу на поўдзень
(там,
адсюль непадалёк,— Чарнобыль
з яго АЭС, вулканам рукатворным)
і моўчкі гавару з табою, Украіна.
У нас цяпер з табой, сястра,
быль чорная і чорны боль і скруха.
Жахлівая рэальнасць:
раптоўна сталі мёртвымі паселішчы
і землі,
жывыя, жыццядайныя нядаўна,
і вецер дзьме, нячутна-смертаносны.
І гора нашага гару
не ўтопіць Прыпяць, не размые
не пахавае ў моры Чорным
Сястрыца Украіна!
Гавораць праўду, што адна бяда
не ходзіць:
Чарнобыль — выбух мноства бед,
што выспелі ў маралі тупіковай,
жывыя носьбіты якой
лічылі закрыццё радзімых школ
не, не ганебнаю — прэстыжнай з'явай.
Падрэзаны
у садзе моў славянскіх
дзвюх нашых моў святыя карані,
смяецца сатана праклятьі...
Як сумна, любая сястра, як горка
нам бачыць дэградацыі плады!

## ВЫБАРЫ І НАШ ВЫБАР

**Водгукі на праекты законаў аб змяненнях і дапаўненнях Канстытуцыі БССР, аб выбарах у Вярхоўны Савет БССР і аб выбарах у мясцовыя Саветы складаюць у гэтыя дні значную частку нашай рэдакцыйнай пошты. Пасля апублікавання на старонках «ЛіМа» падборкі пісьмаў (25 жніўня) і агляду пошты «Не паўтараць памылак» (1 верасня) рэдакцыя атрымала яшчэ дзесяткі і дзесяткі лістоў на гэту тэму. І паток іх, па ўсім відаць, не змяншаецца. Пішуць асобныя грамадзяне, выказваюць сваю думку цэлыя працоўныя калектывы.**

**Агульны настрой нашых чытачоў у дачыненні да абмяркоўваемых законапраектаў — востракрытычны.**

**Напрыклад, калектыў участка рамонтнага цэха Віцебскага тэлевізійнага завода прапануе адмяніць акруговыя перадвыбарчыя сходы і выбары ад грамадскіх арганізацый, зрабіць выбары Старшыні Вярхоўнага Савета БССР і старшынь мясцовых Саветаў усеагульнымі прамымі і тайнымі, выбары ўсіх дэпутатаў праводзіць толькі на альтэрнатыўнай аснове. Такія ж патрабаванні (з тымі ці іншымі варыянтамі) выказваюць група работнікаў ДСКБ з Брэста, савета працоўнага калектыву інстытута «Гроднасельбудпраект», прафсаюзны сход аддзела галоўнага тэхнолага Гомельскага станкабудаўнічага камбіната імя Кірава, работнікі Барысаўскага хімзавода, мінчане С. Шломін, А. Паран, С. Александровіч і іншыя, А. Мельнік з Бабруйска, дыспетчар Лепельскага завода шасцерань У. Шушкевіч, вадзіцель аўтобуса з Ліды Ю. Карнялюк і многія іншыя.**

**Як сведчыць наша пошта, незадаволенасць выклікае таксама ананімнасць прапанаваных законапраектаў. Многія нашы аўтары прапануюць вынесці іх на рэферэндум. За радыкальна абноўленыя, сапраўды дэмакратычныя выбарчыя законы выступаюць, сярод іншых, калектыў гомельскага канструктарска-тэхналагічнага бюро грамадзянскай авіяцыі, начальнік сектара інстытута «Белдзяржпраект» Г. Уласаў, ветэран партыі з Мінска В. Арцем'еў, рабочыя МВА імя Кірава А. Трухан і Ю. Сончык.**

**Апошнім часам у друку выказваецца думка, быццам бы ў абмеркаванні праектаў выбарчых законаў пакуль што пераважаюць эмоцыі і мала канструктыўных прапаноў. Пісьмы нашых чытачоў пераконваюць у адваротным. Водгукі, якія мы сёння друкуем, сведчаць аб сапраўднай зацікаўленасці і палітычнай сталасці іх аўтараў.**

# ПАДУМАЕМ ЯШЧЭ РАЗ

Шырокая дыскусія, якая разгарнулася ў апошні час вакол будучага Закона аб выбарах, кранае, як кажуць, за жывое. Нічога дзіўнага — вельмі многае залежыць ад таго, які парламент мы будзем мець.

Як вынікае з анкет, якія праводзілі газеты «Звязда» і «Знамя юности», абсалютная колькасць чытачоў супраць такіх палажэнняў праекта закона, як акруговыя перадвыбарчыя сходы, прадстаўніцтва ад грамадскіх арганізацый, абмежаванне ў вылучэнні кандыдатаў невялікімі калектывамі, канструкцыя накшталт «як правіла», «любое» і многае іншае. Але пры азнаямленні з нататкай «Ці залежыць выбар ад нас?» («Звязда», 10.09.89) высвятляецца, што нават у самых непапулярных артыкулаў ёсць прыхільнікі і абаронцы.

Каб не займаць шмат часу, давайце засяродзім увагу на двух самых прынцыповых артыкулах 84 і 89, якія тычаць квоты ад грамадскіх арганізацый і акруговых перадвыбарчых сходаў.

Які асноўны аргумент прыхільнікаў захавання канстытуцыйна замацаваных квот у Вярхоўным Савеце ад грамадскіх арганізацый? Забяспечыць шырокае прадстаўніцтва самых розных слаёў грамадства.

А ці ёсць сэнс у непасрэдным прадстаўніцтве, напрыклад, аб'яднання філатэлістаў, прыхільнікаў цвярозага жыцця, ветэранаў вайны і працы ў вышэйшым органе ўлады? Ці змогуць 1—3 дэпутаты ад той ці іншай арганізацыі адстаяць інтарэсы сваіх аднадумцаў (ужо не кажучы аб тым, якія там такія асобныя інтарэсы)? Ці ўдасца ім «працягнуць» свой закон? Адказ адзін — безумоўна, не! Застаецца толькі магчымасць выступіць, каб прыцягнуць увагу да праблемы. Але гэта можна зрабіць і ў друку, па тэлебачанні. І ўпэўнены, з тым самым поспехам.

Далей, каго будзе прадстаўляць «фракцыя» з 13 чалавек ад КПБ, калі, як паказала практыка выбараў у Вярхоўны Савет СССР, сярод дэпутатаў 85 працэнтаў складаюць члены КПСС? Яшчэ больш своеасаблівае становішча ў прафсаюзаў, бо практычна ўсе дэпутаты — члены прафсаюза. Можна яшчэ гаварыць пра асобныя інтарэсы камсамола, бо звычайна сярод дэпутатаў няшмат маладзейшых за 30 гадоў. Але ж і Вярхоўны Савет, мабыць, не тое месца, дзе патрэбен юнацкі максімалізм.

Нарэшце, будзем шчырымі: а ці не апынуцца сярод 13 дэпутатаў ад КПБ тыя, хто прайграў выбары мінулай вясной? І як гэта будзе расцэнена грамадскасцю?

Каб мяне не западозрылі ў «антыграмадскіх» закідах, скажу, што мне як аднаму з кіраўнікоў рэспубліканскай грамадскай арганізацыі новы Закон нават выгадны, бо ён забяспечыць прамое прадстаўніцтва Беларускага экалагічнага саюза ў Вярхоўным Савеце БССР. Але як грамадзянін я лічу, што нам патрэбны ў Вярхоўным Савеце не абаронцы карпаратыўных інтарэсаў, а прадстаўнікі народа. Для мяне, звычайнага выбаршчыка, не мае значэння, хто будзе прадстаўляць акругу, у якой жыву, — рабочы, вучоны, пісьменнік ці работнік партыйнага апарату. Галоўнае, каб ён быў сумленным і разумным чалавекам, каб ён мог разабрацца, што добра, а што дрэнна. Нарэшце, каб ён быў даступным дэпутатам, а не «ганарыстым парсюком», як пісаў К. Крапіва. І тады я буду ўпэўнены, што ў сваёй дзейнасці ён не забудзе і маці-адзіночку, і ветэрана, і інваліда, і рабочага. Ён не забудзе людзей, якія даверылі яму ўладу!

Што датычыць акруговых перадвыбарчых сходаў, то тут асноўны аргумент «за» такі: раптам будзе 20—30 кандыдатаў? На гэта, па-першае, ёсць контраргумент: а раптам не будзе?

Практыка паказала, што такая колькасць хутчэй выключэнне, чым правіла (дарэчы, у Ленінградзе Іваноў, кажуць, прайшоў у першым туры з 30 кандыдатаў). З другога боку, у Мінску былі выпадкі, калі пасля фільтру акруговага сходу заставаліся кандыдаты, якія не атрымалі потым падтрымкі выбаршчыкаў і прыйшлося ўсё, пачынаючы з вылучэння, праводзіць у другі раз. А гэта абышлося, між іншым, у капеечку!

Акрамя маральных і палітычных страт, звязаных з «забалаціраваннем» таго ці іншага кандыдата ў кандыдаты (звярніце ўвагу на абсурднасць спалучэння), акруговыя сходы маюць той вялікі мінус, што практычна немагчыма ажыццявіць на іх справядлівае прадстаўніцтва выбаршчыкаў акругі. Адзінае выйсце — выбары выбаршчыкаў па норме 1 чалавек ад 800 — 1000 выбаршчыкаў акругі. Але гэта цяжка ажыццявіць.

Зразумела, што заканадаўца павінен прадугледзець экстрэмальныя сітуацыі, калі колькасць кандыдатаў будзе празмерна вялікай. На мой погляд, заслугоўвае ўвагі прапанова народных дэпутатаў, якая была змешчана ў «Советской Белоруссии». Маецца на ўвазе неабходнасць падтрымкі кандыдата пэўнай колькасцю выбаршчыкаў акругі. Гэта лічба можа быць ад 2 да 5 тысяч. І ў такім выпадку няма патрэбы абмяжоўваць колькасць працуючых на прадпрыемствах, якія маюць права вылучэння кандыдатаў (у праекце — 300 чалавек). Упэўнены, што такім чынам можна будзе «збіць» колькасць прэтэндэнтаў да 10—15 чалавек. Далей, каб пазбегнуць таго, што ў другім туры могуць апынуцца кандыдаты, якія набралі 10—15 працэнтаў галасоў (думаю, што лічба 5—8 працэнтаў, якую называе сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР т. Сырaегіна, нават тэарэтычна малаверагодная), можна абмеркаваць магчымасць правядзення выбараў у тры туры. Гэта азначае, што калі кандыдаты ў першым туры набралі менш, чым, скажам, 25 працэнтаў, праводзіцца другі тур, да ўдзелу ў якім дапускаецца 3—5 чалавек, якія набралі больш галасоў. А да ўдзелу ў 3-м туры — 2 пераможцы другога тура. Гэта можа падацца занадта складаным, але ўсё роўна гэта танней, чым праводзіць дзве перавыбарчыя кампаніі, і больш дэмакратычна, чым адсякаць значную частку кандыдатаў з дапамогай сходаў.

Акруговыя перадвыбарчыя сходы можна было б праводзіць, але толькі з мэтай азнаямлення выбаршчыкаў з платформамі кандыдатаў. У такім выпадку можна і трэба праводзіць па некалькі сходаў у кожным раёне. І няхай будзе спаборніцтва, дзесяткі пытанняў, тэлебачанне, прадстаўнікі прэсы.

Зразумела, гэтыя прапановы маюць сэнс, калі заканадаўца шчыра зацікаўлены ў дэмакратычных выбарах.

**Л. ТАРАСЕНКА,**
**віцэ-прэзідэнт Беларускага экалагічнага саюза,**
**кандыдат біялагічных навук.**

## Радкі з пісьмаў

□

**Праект Закона аб выбарах** у Вярхоўны Савет БССР не адпавядае патрабаванням часу, імкненню народа да дэмакратызацыі нашага жыцця. Антыдэмакратычнымі ўяўляюцца арт. 13 і арт. 42 гэтага закона. Паводле арт. 42 праграма кандыдата ў дэпутаты не павінна супярэчыць Канстытуцыі СССР і Канстытуцыі БССР, савецкім законам. А арт. 13 дае права выбарчай камісіі адмяніць рашэнне аб рэгістрацыі кандыдата, калі той, паводле меркавання камісіі, парушыў закон. Такім чынам, выключаецца магчымасць крытыкі існуючых законаў, хоць больш часць іх прымалася ў часы сталінізму і застою.

Ідэі перабудовы патрабуюць альтэрнатыўных законапраектаў. У якасці аднаго з іх, мы лічым, трэба абнародаваць «Праект Закона аб выбарах у Вярхоўны Савет БССР», які быў прыняты на ўстаноўчым з'ездзе БНФ «Адраджэнне».

**Ю. ПАЛЬЧЭЎСКІ, С. НЕСЦЯРОЎСКІ, Л. БЕЛАХВОСТАВА, С. ХАНДОЖКА, А. КЛІМОВІЧ і іншыя, усяго 30 подпісаў.**

г. Мінск.

□

**Мяркуючы па публікацыях** рэспубліканскага друку, пераважная колькасць насельніцтва рэспублікі супраць акруговых перадвыбарчых сходаў, супраць выбараў ад грамадскіх арганізацый. Гэта пацвярджае і «Зварот групы народных дэпутатаў СССР», апублікаваны ў «Советской Белоруссии» 1 верасня, з якім я цалкам згодны. Не лічыцца з меркаваннем народных дэпутатаў нельга! А наогул, па такім важным пытанні неабходна аб'явіць усенародны рэферэндум. Па-мойму, такое права рэспубліка мае, і трэба яго скарыстаць.

**М. НАВІЦКІ,**
**ветэран вайны, ветэран Узброеных Сіл СССР.**

г. Мінск.

□

**Прапаную** ў арт. 1 Закона аб выбарах народных дэпутатаў БССР скасаваць увесь тэкст, пачынаючы са слоў «З мэтай забеспячэння...» Лічу, што ўсе дэпутаты павінны выбірацца па аднамандатных выбарчых акругах на аснове ўсеагульнага, роўнага і прамога выбарчага права пры тайным галасаванні.

У арт. 13 прапаную скасаваць у другім абзацы тэкст: «заклікалі або агітавалі за байкатаванне выбараў». У выбаршчыкаў павінна быць права на байкот выбараў у якасці крайняй формы пратэсту супраць магчымых злоўжыванняў з боку апарату.

**Я. ШМЫГАЛЁЎ,**
**пенсіянер.**

г. Мінск.

□

**Мая прапанова** тычыцца выбараў у вайсковых часцях. Паколькі прадстаўнікі працоўных калектываў і грамадскасці не могуць пракантраляваць колькасць ваеннаслужачых і ход выбараў на тэрыторыі воінскіх часцей, можа ўзнікнуць спакуса маніпуляцый з вынікамі выбараў. Таму было б мэтазгодна ў Беларускай ваеннай акрузе праводзіць выбары па асобных выбарчых акругах у адпаведнасці з нормай выбаршчыкаў.

**С. ГЛОБА,**
**інжынер.**

г. Мінск.

**Калі мы хочам** лепш жыць, калі хочам бачыць нашу рэспубліку дэмакратычнай — наш грамадзянскі абавязак сёння выказацца за радыкальную дэмакратызацыю законапраектаў аб выбарах.

Мы выступаем супраць правядзення акруговых перадвыбарчых сходаў і супраць выбараў ад грамадскіх арганізацый.

Акрамя таго, мы лічым, што ваеннаслужачыя вайсковых часцей павінны галасаваць толькі на месцы сваёй пастаяннай дыслакацыі і толькі за тых кандыдатаў, якія пражываюць у той жа мясцовасці. Тады ні ў каго з высокапастаўленых работнікаў не будзе спакусы дабавіць сабе лішніх галасоў за кошт тэрміновага перамяшчэння воінскіх часцей у адпаведную выбарчую акругу.

**Па даручэнні прафсаюзнага сходу цэха № 11 завода «Электроніка» рабочыя С. ТРАХІМЧЫК, В. ШАРКО, В. УСЦІНОВІЧ, М. ПАТЛАСАЎ (на сходзе прысутнічала 136 чалавек).**

г. Мінск.

□

**Лічу,** што дэпутатам можа быць чалавек, які пражыў на тэрыторыі выбарчай акругі не менш як пяць гадоў. Гэта неабходна для таго, каб будучы дэпутат дасканала ведаў патрэбы сваіх выбаршчыкаў.

**А. ХЛАНЬ.**

г. Мінск.

□

**Такой важнай справе,** як унясенне змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю, павінна папярэднічаць вялікая работа не толькі камісій Вярхоўнага Савета і яго Прэзідыума, але і шырокіх мас. Пры цяперашнім парадку падрыхтоўкі законапраектаў мы маем магчымасць рабіць нейкія заўвагі ці ўносіць свае прапановы, але няма ніякай упэўненасці, што яны будуць улічаны ў прынятым законе.

Чаму б не пазнаёміць грамадскасць са зместам законапраектаў аб выбарах у іншых рэспубліках, каб была магчымасць запазычыць у іх усё лепшае?

**Л. КАЗЛОЎ,**
**настаўнік гісторыі.**

Вёска Нямойта,
Сенненскі р-н.

□

**Усе запісы** ў законапраектах, накшталт «пры неабходнасці», «як правіла»,— неабходна канкрэтызаваць або адкінуць. Трэба ўдакладніць, якімі дакументамі павінны быць засведчаны паўнамоцтвы прадстаўнікоў працоўных калектываў. Важна ўдакладніць таксама, кім ствараюцца акруговыя выбарчыя камісіі.

Няма неабходнасці «загадзя інфармаваць акруговую выбарчую камісію аб праводзімых сходах, мітынгах выбаршчыкаў і іншых перадвыбарных мерапрыемствах». Агітацыя павінна дапускацца паўсюдна ў любых зручных для выбаршчыкаў формах, якія не пярэчаць закону.

**М. ТАРАНДА, М. АМЯЛІШКА, А. СТУПЕНЬ, І. НАВУМАЎ, У. ЛЕАНЮК, С. БУГАР і іншыя, усяго 27 подпісаў.**

г. Гродна.

**Пятро ПРЫХОДЗЬКА**

## *Двое з адной зоны*

Праз тры краі
пралегла зона тая,
Якую ўсе Чарнобыльскай
завём.
Сюды і птах ужо не залятае;
А мы па ёй
Усё ідзём, ідзём.
Прабілі ў звон.
Бацькоўскія парогі
Нам пакідаць
пад цяжкаю журбой.

Сышліся двое
пасярод дарогі
І пачалі гаворку між сабой:
— Я — з Брагіна. А ты адкуль?
— З Нароўлі.
Іду вось, паглядаю
на бальшак.

А ў вас там як?
— Ат, ведаеш, няроўна
Чамусьці лёс нас падзяляе
так...

Жылі мы,
здабывалі хлеб надзённы.
Ды аднаго я ўцяміць не магу—
Чаму я з зоны гэтае бягу,
А іншыя —
вяртаюцца да зоны?
Стаяць сябры
Адзін супроць другога,
Ад родных хат
пазваньваюць ключы:
«Ад гэтай зоны
можна мо ўцячы —
А як жа, браце,
ад сябе самога?»
Вось так балюча,
ў роспачы, знямозе
У сябе саміх пытаюць землякі.
Яны сышліся на адной дарозе,
Хаця ішлі мо ў розныя бакі?

На плечы іх зваліліся нягоды,
Хоць шмат спазналі
на сваім вяку.
Чаму ж мы ў цяжкім горы
не заўсёды
Сваім сябрам працягваем руку?

— Падумай сам,—
адзін другому кажа,—
Мы ў гэтай зоне —
ужо тры гады.
Цяпер нібыта кожны крок
узважан,
Чаму ж пра нас замоўчвалі
тады?..

І я стаяў там побач
з землякамі,
Гаворку чуў,
што нарадзіў сам час.
Калісьці мы былі
франтавікамі,—
Цяпер завуць
чарнобыльцамі нас...

**Павел ПРУДНІКАЎ**

●

Адступаць не хочуць
бюракраты,
Не здаюць пазіцый, хоць забі.
Прадаўжаюць жыць і
казнакрады
І «Айчыну горача любіць».
Іх усіх яднаюць цені культа
І застою цёмнага, як ноч.
Селі нам на плечы яны гуртам.
Груз такі нам больш не
павалоч.
Мы павінны скінуць яго ў
прорву —
Развітацца з брудам
назаўжды!
А інакш ён схопіць нас за
горла...
І тады —
паўкрока да бяды.

●

Мы ж усе тут пад адзіным
дахам —
На планеце з назваю Зямля:
Жыццялюбы ў плоці і манахі —
Хто ў кіпенні,
хто і спакваля.
Ёсць адно для ўсіх у нас
жаданне:
Жыць у згодзе, раіцца,
тварыць.
І не казка гэта, не паданне —
Як адзін,
мы ўсе гаспадары.
І таксама ўсе мы у адказе
За таго, хто корміць нас —
за дол.
А таму павінны мы ўсе
разам
Берагчы ад полымя свой Дом!

*Перабудова і міжнацыянальныя адносіны*

Іван ЛАСКОЎ

# ПІШУ З ДАЛЁКАЙ ЯКУЦІІ...

Вось ужо семнаццаць гадоў я жыву ў Якуцку, прыглядзеўся да якутаў, іх стаўлення да роднай мовы і культуры. І думаю, што не шкодзіла б нам шмат у чым павучыцца ў гэтага невялікага народа.

**Якуцкая мова, як лінгвісты кажуць — младапісьменная. Літаратурная мова склалася толькі ў паслярэвалюцыйныя гады. Першы верш на якуцкай мове быў напісаны ў 1900 годзе.**

**Лексічны склад якуцкай мовы не надта шырокі. Найбагацейшы слоўнік, складзены нашым земляком Э. Пякарскім, налічвае каля трыццаці тысяч слоў. Шмат запазычанняў з рускай мовы. Яшчэ на пачатку 1920-х гадоў пачынальнік якуцкай літаратуры Аляксей Кулакоўскі налічыў у якуцкай мове болей за 2 300 запазычаных рускіх слоў. Сярод іх і такія простыя, як «стол», «вилка», «ложка», «здорово», «пока» (у сэнсе «да пабачэння»), «спасибо», «пожалуйста». Але ніводзін якут не лічыць з гэтай прычыны сваю мову горшай, чым руская.**

**Якуцкая мова гучыць на вуліцах Якуцка гэтак жа часта, як і руская. Можна сказаць болей: якуты, якія валодаюць роднай мовай, між сабой размаўляюць выключна па-якуцку, не зважаючы на тое, колькі побач іншамоўцаў: адзін або дваццаць.**

Не ведаю ніводнага якута з кіраўнікоў рэспублікі, які б не валодаў роднай мовай. Пры сустрэчах гэтых кіраўнікоў з пісьменнікамі гутарка вядзецца звычайна па-якуцку.

Непакой за лёс мовы (часам нават празмерны) тут уласцівы не толькі кожнаму пісьменніку ці журналісту, але і шырокім масам. Да якутаў, якія ў выніку нейкіх прычын не валодаюць роднай мовай, стаўленне падкрэслена адмоўнае. Ведаю такі выпадак, калі аднаго маладога якута, супрацоўніка рускай газеты, прымаючы ў партыю, абавязалі за час праходжання ім кандыдацкага стажу авалодаць якуцкай мовай. Не сумняваюся, што авалодае, бо іначай у члены партыі не перавядуць.

Нацыянальнай мовай карыстаюцца не толькі літаратура, тэатр, журналістыка. Нешматлікія прафесійныя і шматлікія самадзейныя кампазітары пішуць песні выключна на якуцкія тэксты. На якуцкія тэксты традыцыйна пішуць музыку і спецыяльна запрошаныя кампазітары з Масквы і іншых мясцін, ствараючы оперы, кантаты і г. д. Свой даробак уносіць у развіццё нацыянальнай культуры і выяўленчае мастацтва. У яго творах пераважаюць сюжэты з нацыянальнай літаратуры, гісторыі і фальклору. На графічных лістах або жывапісных палотнах амаль не ўбачыш неякуцкіх твараў (у якутаў манголоідны тып твару). Мастацкая самадзейнасць выконвае амаль выключна якуцкія песні, скокі. На роднай мове развіваецца і эстрада.

Як гэта ўсё ўплывае на культурны ўзровень народа?

Жывучы ў Якуцку, мне ўдаецца час ад часу друкавацца ў Мінску, выдаваць кніжкі. Гэтыя кніжкі і часопісы мне проста сорам паказваць маім якуцкім калегам. Сорам — з-за тыражоў. Да чаго ж мы дайшлі, дзевяцімільённы народ! Тыражы «Полымя» і «Маладосці» — вакол дзесяці тысяч, кніжак мастацкай прозы — таксама. Якутаў — трыста тысяч, у трыццаць разоў меней, чым нас. Колькі ж яны чытаюць? Вось тыражы сапраўды адукаванага народа: літаратурна-мастацкі часопіс «Хотугу сулус» — 33 тысячы («Полымя», Маладосць» і «Беларусь» разам — каля 40 тысяч). Орган абкома КПСС газета «Кыым» — 58 тысяч (відаць, не нашмат меней, чым «Звязда»). Маладзёжная газета «Бэлэм буол» — 33 тысячы, дзіцячы часопіс «Чуоранчыык»—35 тысяч. Можна з упэўненасцю сказаць, што партыйную газету чытае амаль што кожная якуцкая сям'я, літаратурна-мастацкі часопіс — больш за палову, дзіцячую газету і часопіс выпісвае кожная сям'я, дзе ёсць дзеці адпаведнага ўзросту. Тыраж мастацкай прозы — строга 15 тысяч. Мог бы быць і большым, ды справа ў тым, што асноўны выдавецкі тыраж на якуцкай мове такі ж, як і на рускай — гэтыя пятнаццаць тысяч (на беларускай — шэсць!). Калі тыраж перавышае 15 тысяч хоць бы на адну, выдавецтва вымушана плаціць другі ганарар. На гэта яно не ідзе, таму і абмяжоўвае тыражы. Калі ж ганарар плаціць не трэба (пісьменнікам, якія даўно памерлі), тыражы сягаюць і да 25 тысяч, нават зборнікаў вершаў.

У Якуціі якутаў удвая меней, чым неякутаў. Але якуцкай мове і нацыянальнай культуры нішто не пагражае. Гэтую маладую культуру — адметную, своеасаблівую — няблага ведаюць не толькі па краіне, але і за мяжой. І спароджана гэта перш за ўсё шанаваннем роднай мовы.

**Ну, а якія адносіны да ўласнай мовы ў нас?**

**Памятаецца, яшчэ гадоў дваццаць назад спытаў я аднаго карэспандэнта «Піянера Беларусі», чаму яны ўжываюць на старонках газеты слова «рабяты». У беларускай мове ж няма слова «ребенок», множным лікам якога з'яўляецца «ребята». Таму па-беларуску «рабяты» перш-наперш выклікае асацыяцыю са словам «рабы»: «рабяты» — «рабыя». Трэба пісаць замест гэтага «рабяты» «хлопцы», «дзяўчаты», калі стасуецца па сэнсе, нарэшце, «дзеці»... «Што зробіш, — уздыхнуў журналіст, — так начальства сказала!»**

**Яшчэ падобнае слова —«буквар». Адкуль яно ў нас узялося? У беларускай жа мове няма слова «буква». Хто знішчыў сваё «лемантар», замяніўшы чужым словам?**

**Такіх «буквароў» ды «рабят» у нас аж занадта.**

**Летась Якуцкі дзяржаўны рускі драматычны тэатр выязджаў на гастролі ў Бабруйск і Мінск. Гастролі прайшлі з поспехам, што мяне, па шчырасці, здзівіла: тэатр гэты я ведаю няблага. Зрэшты, два-тры выдатныя акторы ў ім ёсць. З адным мы нават сябруем. І вось, вярнуўшыся з Беларусі, гэты актор папрасіў мяне перакласці, што напісала пра яго газета «Рабочы» аб'яднання «Бабруйскдрэўпром».**

**Божухна, што гэта быў за жах! Не кажу ўжо пра тое, што добрая палова слоў у палосным артыкуле аказалася рускай. Рускай была ўся ГРАМАТЫКА! З перапісанымі быццам бы па-беларуску «причастными оборотами». Хочаце верце, хочаце не, але мяне дагэтуль трасе, як прыгадаю гэтыя неверагодныя «мятушчыйся», «найшоўшыйся», «суюшчыйся».**

**Адкуль узяўся чалавек, з беларускім прозвішчам, што пісаў гэты артыкул, дзе ён вучыўся? Навошта піша на мове, якой не ведае ані на кроплю?**

Калі збярэш разам такія факты, міжволі высноўваеш, што да сваёй мовы мы ставімся не як да сваёй, а як да варожай, як знішчальнікі ўласнага народа, саміх сябе.

Выгадаваны цэлыя пакаленні беларусаў, што не ведаюць нацыянальнай мовы. Дык вось давайце падумаем: ці прынесла карысць гэтым пакаленням рускае аднамоўе, ці павысіла іх культуру, іх прыстасаванасць да жыцця?

На гэтыя пытанні можна даць толькі адмоўны адказ. Няўжо хто-небудзь будзе аспрэчваць, што веданне дзвюх моў робіць чалавека ўдвая культурнейшым? Веданне моў узбагачае чалавека, робіць яго мысленне болей прыстасаваным, гнуткім, дае магчымасць рабіць болей нечаканыя і абгрунтаваныя заключэнні. Я, напрыклад, німала не шкадую, што ў жыцці давялося хоць нейкім чынам даткнуцца такіх моў, як нямецкая, іспанская, французская, польская, якуцкая. Хай я мала што памятаю з нямецкай і іспанскай, якія вучыў у пятым класе. Але і тое невялікае веданне дапамагае арыентавацца ў мовах наогул. Асабліва ж я ўдзячны памяці чалавека, які вучыў мяне польскай мове. Веданне польскай адначасова з беларускай і рускай дазваляе мне, напрыклад, зусім свабодна чытаць па-ўкраінску, хоць украінскай мовы я ніколі не вывучаў. А яшчэ дапамагае лепш ведаць месца ўласнай мовы. З радасцю ўпэўніўся ў абсалютнай лухце мяшчанскага сцвярджэння, нібыта ў беларускай мове ўсё, што не рускае, — польскае. Зразумела, запазычанні з польскай у нашай мове ёсць, але, аказваецца, не меней іх і ў польскай мове з нашай. Гэта, пры жаданні, не цяжка прасачыць.

Але вернемся да рускамоўнага беларуса. Ён нават не падазрае, што гаворыць не зусім па-руску. Ягоная руская мова — сурагат сапраўднай рускай. Ён заўважае гэта толькі тады, як едзе куды-небудзь у Пскоў або Іркуцк, дзе з яго вымаўлення і лексікі смяюцца.

Іншая справа — беларус двухмоўны, які ўсюды прама абвяшчае, што ён беларус і пацвярджае гэта. З такога беларуса ніхто не смяецца. Наадварот, ён мае нават перавагу перад аднамоўным рускім, бо багацейшы на цэлую культуру: можа беларускую прымаўку ўставіць, песеньку праспяваць, задавальняе цікавасць тых, хто побач, да беларушчыны. Такіх людзей у рускім асяроддзі паважаюць як прадстаўнікоў іншага народа. Аднамоўны ж беларус подобны да рускага ў горшым варыянце, гэта нібыта рускі ніжэйшага гатунку.

Якое ўвогуле адчуванне ў рускамоўнага беларуса? Што ён — чалавек, за плячамі якога няма нічога: ні гісторыі, ні культуры. Усяго, што зрабіў ягоны народ да яго з'яўлення на свет, ён не ведае (ні верша, ні байкі, ні песні, ні прымаўкі). Зразумела, ён карыстаецца рускай культурай, але гэтая культура ідзе каранямі не праз яго продкаў, і ў ім узнікае комплекс непаўнацэннасці: мова ў яго чужая, культура чужая, гісторыя — чужая. А адкуль жа ён сам ўзяўся? Не ведае. Ён адчувае сябе прыблізна так, як адчуваюць людзі, кінутыя немаўлятамі і выгадаваныя ў дзіцячым доме. Вырастаючы, яны спрабуюць знайсці хаця б маці, шукаюць, бывае, дзесяткі гадоў, але як яе знойдзеш, калі, можа, яе ўжо і на свеце няма! У такіх вось падкідкаў і ператвараюць беларусаў хвацкія функцыянеры...

**Беларуска-рускае двухмоўе, пакуль яно існавала, давала нярэдка адукаваных людзей і рускай культуры. З галіны літаратуры, якая мне бліжэйшая за іншыя, нагадаю хоць бы імёны паэтаў Д. Кавалёва, Н. Кісліка, І. Бурсава, І. Шкляраўскага. А каго дало рускай літаратуры новае, рускамоўнае пакаленне беларусаў? Нешта не чуваць... Сёння «на экспарт» даём футбалістаў ды хакеістаў. Маладых рускамоўных беларусаў, можа, у тры-чатыры-пяць разоў больш, як двухмоўных, а маладая беларуская літаратура па-ранейшаму на галаву вышэйшая за маладую рускую, што ствараюць беларусы. Але і беларускай літаратуры, без карысці для рускай, нанесены страшныя страты. Звужэнне сферы карыстання беларускай мовай прывяло да таго, што нешматлікія літаратары, якія валодаюць мовай, хай сабе і графаманы, не сустракаюць канкурэнцыі і без перашкод займаюць крэслы ў выдавецтвах, часопісах, газетах. Родную мову графаманы ведаюць слабавата, няма ў іх і моўнага густу, але з-за таго, што і ў такіх ёсць патрэба (лепшых жа няма!), гэта даруецца. Дыялогі мастацкай прозы ў іх напалову рускія (маўляў, так народ гаворыць). І зусім такім аўтарам не ў галаве, што на іх публікацыях, можа, хтосьці наважыцца вывучаць мову, будзе вучыцца размаўляць па-беларуску.**

Рускамоўныя беларусы не толькі не прыносяць ніякай карысці рускай культуры, але і прычыняюць ёй вялікую шкоду. Я ўжо казаў, што руская мова, якой яны карыстаюцца, — на самай справе сурагат. Рускую мову яны псуюць. Умяшанне такіх людзей у працэс развіцця рускай культуры выклікае ў яе дзеячаў законнае раздражненне. «Предположим, — казала Мая Ганіна 1 сакавіка 1988 года на пленуме СП СССР, — что грузинский язык либо литовский, узбекский стали вместо русского государственным, главным языком (тут М. Ганіна памыляецца. Руская мова з'яўляецца дзяржаўнай толькі для РСФСР, для іншых яна — **агульная** мова. — **І. Л.**). Мое великорусское самолюбие от этого нимало не пострадало бы. Напротив. Старательно изучив пятьсот слов и необходимую грамматику, я много утешилась бы мыслью, что зато мой родной русский язык сделался бы наконец заповедной зоной и стал бы первозданно чистым, как чисты, допустим, и ныне грузинский, армянский языки. Никто более не посягнул бы тогда на сложность русского языка, на присутствие в нем древних слов, непонятных тому, кто из двухсот тысяч знает пятьсот и считает, что остальные не нужны».

Сярод тых, хто сваё веданне пяцісот рускіх слоў лічыць дастатковым, каб «посягать» на ўдзел у рускамоўным будаўніцтве, немалую нядобрую ролю адыгрываюць і рускамоўныя беларусы. Памятаецца, яшчэ гадоў пятнаццаць назад вельмі ж рэзка і, я сказаў бы, ядавіта крытыкавала «Литературная газета» наш рускі часопіс «Нёман» за псаванне рускай мовы. А вось і болей свежы прыклад — з артыкула «Что защищаем?» («Известия», 1988, 5 чэрвеня), напісанага ў адказ на ліст некалькіх кандыдатаў навук з Мінска. Паважаныя вучоныя ўжылі ў лісце, надрукаваным у часопісе «Наш современник», слова «шильда». «К сожалению, — з сарказмам заўважыла газета, — ни у Даля, ни у Ожегова, ни в Советском Энциклопедическом Словаре этого слова мы не нашли».

Зразумела, вынішчаючы беларускую мову яшчэ больш паслядоўна, праз тры-чатыры пакаленні можна будзе дасягнуць і такога становішча, калі і грузчыкі ў крамах не ўжывуць «шыльду» замест «вывески». Але якая і каму будзе з гэтага карысць?

(Працяг на стар. 12).

# Канец старога міфа

**Роздум над кнігай гісторыка**

МІФЫ ўзнікаюць па-рознаму. Адны нараджаюцца спакваля, на працягу многіх дзесяцігоддзяў, а то і стагоддзяў як адлюстраванне спробы народа асэнсаваць незразумелыя, таямнічыя прыродныя з'явы або гістарычныя падзеі, якія адбываліся так даўно, што сапраўдныя іх падрабязнасці ўжо пакрыліся туманам, і толькі нейкія іх праявы накшталт старых курганоў, каменных крыжоў ці велізарных камянёў бударажаць чалавечую памяць, прымушаюць шукаць адказы на адвечныя пытанні: «Адкуль мы? Дзе нашы вытокі?»

Іншыя міфы нараджаюцца штучна. Яны як быццам таксама прызваныя для тлумачэння адпаведных падзей. Але ў адрозненне ад першых будуюцца не на аб'ектыўнасці разумнага светаўспрымання, служаць не мэтам асэнсавання спадчыны, а зусім карыслівым жаданням нярэдка з палітычным падтэкстам.

Першыя міфы трэба збіраць, захоўваць і вывучаць. Другія трэба даследаваць, каб абвяргаць іх асновы.

Бадай адным з найбольш трывалых міфаў другога роду, які дайшоў да нашых дзён як ісціна, што замацавалася ў навуковых працах і падручніках па гісторыі БССР, было перакананне аб утварэнні дзяржавы Вялікага княства Літоўскага ў другой палове XIII стагоддзя ў выніку заваявання беларускіх зямель.

Варта толькі задацца пытаннем: Вялікае княства Літоўскае — што гэта за краіна, чаму яна так названа? І адказ як быццам будзе амаль што гатовы. **Літоўскае** — значыць яго стварылі літоўцы. Калі яно ўключала сучасныя беларускія землі — значыць гэтыя землі былі заваяваны, падпарадкаваны ваеннай сілай.

Адказ гэты тым больш лагічны, што за ім стаіць традыцыя, шматвяковае перакананне ў справядлівасці менавіта такой, а не іншай інтэрпрэтацыі сапраўды «цьмяных», маладаследаваных, заблытаных, а ў не такім далёкім мінулым і непрэстыжных для навуковых прац пытанняў, якія датычыліся гісторыі зямлі Беларускай. Ці задаваліся вядучыя навукоўцы пытаннем аб справядлівасці ўсталяванага бачання падзей на заранку айчыннай гісторыі?

Цяжка сказаць. Магчыма, у высокіх навуковых кабінетах і думаць не маглі, каб узяцца за грунтоўную «расчыстку» супярэчлівых звестак, нагрувашчаных у так званых беларуска-літоўскіх летапісах і польскіх хроніках XVI стагоддзя, у гістарычна - публіцыстычных творах Маскоўскай дзяржавы гэтага ж часу. Ды і навошта гэта было рабіць, калі вынік усё роўна быў бы бесперспектыўны: панаваўшая нядобрай памяці ідэалагічная канцэпцыя перашкаджала паслядоўнаму і падрабязнаму абгрунтаванню сапраўды вялікай і слаўнай гісторыі многіх малых народаў.

І хоць беларусы — народ не такі ўжо і малы, а тэрыторыя рэспублікі гістарычна складалася ў «эпіцэнтры» галоўных падзей, што адбываліся ва Усходняй Еўропе на працягу многіх стагоддзяў, далёкае мінулае беларусаў уяўлялася вельмі непрывабным і незайздросным.

...Ішло сумнай памяці XIII стагоддзе. Татарскія конныя атрады, нібы чорныя хмары, якія гоняць шквальны вецер, знішчаючы ўсё на сваім шляху, рабавалі і палілі раздробленую феадальную Русь, у тым ліку і паўднёвыя раёны сучаснага беларускага Палесся. З паўночнага захаду «жалезнай сцяной» насоўваліся нямецкія крыжаносцы, «псы-рыцары». Гора і роспач разышліся па ўсёй рускай зямлі.

Усё гэта так. Але агульны сумны малюнак не павінен затушоўваць і іншай праўды. А яна заключаецца ў тым, што асноўная тэрыторыя старажытнай Беларусі, менавіта тая зямля, дзе яшчэ ў X стагоддзі ўтварылася магутнае дзяржаўнае аб'яднанне з цэнтрам у Полацку і дзе ў той час нарадзілася геаграфічнае паняцце **БЕЛАЯ РУСЬ**, не зведала мангола-татарскага пагрому і панавання. І хоць у XIII стагоддзі «Белая» Полацкая Русь ужо не была такой згуртаванай і адзінокай, як два стагоддзі назад, яна знаходзілася на дастаткова высокім эканамічным, ваенным і культурным узроўні, каб з годнасцю весці палітыку і не быць толькі «палігонам» для вайсковых «практыкаванняў» літоўскіх дружын. А такая думка, як мы бачылі, існуе.

Калі ў мінулым годзе на старонках часопіса «Маладосць» пачаў друкавацца гістарычны нарыс «Старажытная Беларусь» многім невядомага дагэтуль аўтара Міколы Ермаловіча, то ён (нарыс) з'явіўся, без перабольшання, адкрыццём для чытацкіх колаў. Адкрыццём — бо супярэчыў аднастайнасці навуковых канцэпцый, якія складаліся дзесяцігоддзямі, бо быў наватарскім і пошукавым, не дыктаваў «рэцэпты» і не навязваў аднабаковыя тлумачэнні, бо прымушаў думаць, разважаць. Такой і павінна быць навука — шчырай, смелай, прынцыповай. Такім і павінен быць даследчык — таленавітым, рашучым і аб'ектыўным. І яшчэ: ён не павінен баяцца змяняць погляды — свае і агульнанавуковыя, калі знаходзяцца новыя факты, калі прыадкрываюцца старонкі дагэтуль невядомага ці наўмысна сакрытага.

У гэтыя дні чытачы знаёмяцца з новай працай Міколы Іванавіча Ермаловіча — кнігай «Па слядах аднаго міфа», толькі што надрукаванай у выдавецтве «Навука і тэхніка». Відаць, няма неабходнасці каменціраваць змест кнігі, бо гэтыя нашы разважанні не пераказ і не строгая навуковая рэцэнзія. Ды і чытачы нашы дастаткова падрыхтаваныя да таго, каб самастойна разабрацца ў сутнасці прачытанага, тым больш што працы М. Ермаловіча чытаюцца лёгка, на адным дыханні.

У гэтым жа выпадку справа тым больш цікавая, што ў кнізе крок за крокам услед за аўтарам чытач раскрывае паходжанне і сутнасць таго міфа, аб якім мы ўжо нагадалі, міфа, які адлюстроўвае ў крывым люстэрку значную падзею беларускай гісторыі — утварэнне Вялікага княства Літоўскага. Нарэшце ў навуцы з'явілася альтэрнатыўная канцэпцыя, згодна з якой не заваяванне літоўцамі Беларусі, а, наадварот, эканамічнае, палітычнае і культурна-этнічнае збліжэнне беларускіх зямель з цэнтрам у Верхнім Панямонні, у Навагрудку, і далучэнне да гэтай тэрыторыі балцка-літоўскіх зямель сілай навагрудскіх князёў, якое адбывалася ў інтарэсах беларускіх, а не літоўскіх феадалаў, з'явілася галоўнай прычынай утварэння Вялікага княства Літоўскага. І няхай назва гэтай краіны не ўводзіць у падман — такое часта здаралася ў гісторыі. Галоўнае ў тым, што на пачатковым этапе развіцця новай дзяржавы пануючай у ёй была ўсходнеславянская культура, а дзяржаўнай — старабеларуская мова.

На наш погляд, добрай з'яўляецца тая кніга, якая не толькі дае нетрадыцыйны і абгрунтаваны адказ, згодна аўтарскай канцэпцыі, на разглядаемыя праблемы, але і задае пытанні, па якіх можна паспрачацца. Толькі спрачацца трэба з годнасцю, маючы «на ўзбраенні» важкія аргументы (тут мы маем на ўвазе аматараў ганіць усё тое, што не адпавядае іх уласным уяўленням).

Аўтар гэтых радкоў, напрыклад, таксама паспрачаўся б з Міколам Ермаловічам па некалькіх пытаннях, узнятых у кнізе «Па слядах аднаго міфа».

На наш погляд, М. Ермаловіч занадта катэгарычна адмаўляе факт літоўскіх набегаў на беларускія і рускія землі. Ён лічыць, што літва складала галоўны кантынгент полацкага войска і таму ўсе гэтыя набегі былі перш за ўсё зброяй полацкай палітыкі. Зразумела, гэта таксама факт. Але калі літоўскія князі за адпаведную ўзнагароду (рабаванне, захоп палонных, жывёлы) ахвотна ішлі на вайсковыя авантуры, калі іх аб гэтым прасілі полацкія ўладары, то чаму б ім не рабіць такія авантуры самастойна і не дзяліць пры гэтым перамогу з саюзнікамі? Ды і само паняцце «саюзнік» для тых, каму вайна прыносіць выгоды, з'яўляецца адносным.

Тут карысна было б прыгадаць полаўцаў, якія таксама наймаліся князямі Паўднёвай Русі, але ў той жа час рабілі рабаўніцкія набегі і на землі сваіх былых «саюзнікаў».

Што ж датычыць літоўскіх набегаў, то ў дадзеным выпадку ўсё ж такі даволі красамоўнымі выглядаюць радкі «Слова пра паход Ігаравы». «И Двина болотом течет оным грозным полочаном под кликн поганых».

М. Ермаловіч лічыць, што аўтар «Слова» меў тут на ўвазе падзеі 1167 года, калі мінскі князь Валадар Глебавіч пайшоў са сваім войскам, у склад якога ўваходзілі і літоўскія палкі, на Полацк, а затым на Віцебск. Таму, быццам бы, гэтае з'яўленне «паганых», гэта значыць язычнікаў-літоўцаў у 1167 годзе на Дзвіне, і адзначыў у сваім творы аўтар старажытнарускай паэмы. Але не самі «паганыя» прыйшлі на Дзвіну, на Полаччыну, іх прывялі князі для барацьбы паміж сабой. Кіеўскія князі ў міжусобіцы часта выкарыстоўвалі полаўцаў. За гэта «Слова», на думку М. Ермаловіча, асуджае і кіеўскіх, і полацкіх князёў: «Ярославичи и вси внуци Всеславли! Вы бо своими крамолами начястя наводити поганыя полки на землю Рускую...».

Усё гэта так. Але «Слова пра паход Ігаравы» — гэта паэтычны твор, і большасць яго выкладаў і назіранняў маюць вельмі глыбокі падтэкст і своеасаблівую, сапраўды мастацкую сімволіку. Спробы звесці іх да якой-небудзь адной канкрэтнай падзеі звычайна завяршаліся толькі парушэннем стройнасці і лагічнасці паэтычнага апавядання.

Вельмі перспектыўнымі выглядаюць версія М. Ермаловіча аб знаходжанні «летапіснай Літвы» паміж Навагрудкам і Мінскам з захаду на ўсход і паміж Маладзечнам і Слонімам з поўначы на поўдзень, а таксама меркаванне аб тым, што выто-

# ШТО Ж ТАКОЕ ПАЭЗІЯ?..

**ПОМНЮ, як у свой час Аркадзь Куляшоў, завітаўшы да мяне ў майстэрню або сустрэўшы недзе ў засені лазы над Свіслаччу, пасля агульнага прывітання казаў: «Хочаш, паслухай...» І дэкламаваў мне вершы, якія і сёння я не магу перачытваць (а некаторыя і ўспамінаць) без хвалявання і ўзрушэння. Тое спалучэнне жывога і непасрэднага пачуцця з неспакойнай і патрабавальнай да самога сябе і да ўсіх нас думкай, што ўласціва куляшоўскай лірыцы, захапляе і абуджае пэўны роздум аб няпростай нашай рэчаіснасці.**

**Гадоў дзесяць запар тыя вершы Аркадзь чытаў мне спачатку ў арыгінале, потым звычайна рабіў паўзу і прапаноўваў: «А як наш маскоўскі Жак пералапаціў гэта на рускі лад, ведаеш?..» — і дэкламаваў радкі ў перакладзе вядомага рускага паэта Якава Хялемскага. Прызнаваўся, што гэты «маскоўскі Жак» тонка адчувае паэтычнае суладдзе слова ў радку і мелодыі ў поступу радкоў. «Слова» і «музыка» арыгінала і сапраўды ў лепшых перакладах Я. Хялемскага з беларускай мовы зліваюцца ў тую гармонію, якая выглядае як нешта зусім нязмушана натуральнае і арганічнае, і падаецца «неперакладной».**

**Крыху зацягнуты ўступ да маёй размовы пра новую кніжку гэтага пісьменніка тлумачыцца тым, што я хачу падкрэсліць удзячную пашану да творчасці Я. Хялемскага, якую мелі да яго Я. Колас, П. Броўка і А. Куляшоў, якую захоўваюць М. Танк і П. Панчанка. Хоць вядомая формула аб тым, быццам перакладчык прозы — раб аўтара, а паэзіі — сапернік, мабыць, выглядае залішне катэгарычнай, але сутнасць яе ў нечым і вельмі справядлівая, асабліва калі тычыцца такіх блізкіх па лексічнаму фонду і па гучанню моў, як мова беларуская і мова руская. Тут надта спакуслівым бывае імкненне захаваць «літару» арыгінала. А на самай справе ўсё куды складаней.**

**Пагартаўшы кнігу Я. Хялемскага «Чистота звучания», выдадзеную «Мастацкай літаратурай», я адразу адчуў, што гэты пісьменнік добра ведае не толькі творчасць тых паэтаў, якіх перакладае на рускую мову, а і чалавечую адметнасць, духоўны лад майстроў беларускага мастацкага слова. І калі вы паспрабуеце адшукаць адказ на даволі банальнае пытанне, якое я зрабіў назвай гэтых сваіх нататак, дык ён будзе пэўны: паэзія — гэта паэт, яго асоба, яго духоўная энергія, замацаваная ў вершаваным маналогу, у споведзі, у закліку. Асоба складаная, я сказаў бы — засяроджаная на асабістым асэнсаванні ўсіх сваіх уражанняў ад навакольнага свету, ад сустрэч з людзьмі, ад сваіх радасцей і ад свайго гора, ад улюбёнасці і ад роспачы... Тое асабістае абавязкова перакрыжоўваецца з духоўнай культурай народа. А гэта, умоўна кажучы, з'явіўшыся на свет, не «пачынаецца», а як бы «працягваецца», бо, выказваючы сваё, паэт і штосьці падхоплівае з таго, што гучала і гучыць у культуры, працягвае дыялог паэзіі з рэальнасцю, чэрпаючы з рэальнасці існае.**

**Прыклад? Калі ласка, разгарніце і ўчытайцеся ў старонкі Я. Хялемскага, дзе размова ідзе пра творчую самабытнасць Максіма Танка. «Паэзіі хлеб надзённы» — так назваў гэтыя старонкі ў кнізе аўтар. І са здзіўленнем і сяброўскай павагай аглядае ён усё, што даў і дае нашай літаратуры гэты няўрымслівы паэт, казачнік, публіцыст. Я здагадваюся, што і сам Я. Хялемскі зусім не па службовых абавязках перачытвае напісанае М. Танкам, дзе ўсімі фарбамі пераліваюцца пафаснае слова і добрая ўсмешка, мудрая іронія і сюжэтная балада, лірычная споведзь і мітынговая рамантычная ўзнёсласць. Паглыбляючыся ў харашство і праўду паэтычнага слова М. Танка, Я. Хялемскі параўноўвае блізкія па тэматыцы і па настрою вершы Я. Коласа, абапіраецца на выказванні пра паэзію свайго сябра Р. Шырмы, Н. Тарас, М. Васілька, знаходзіць тыя «кладкі», якія звязваюць танкаўскую паэтыку з беларускім народным фальклорам.**

**Асабліва трапна і доказна, як мне падалося, вядзе ён гаворку пра адметнасць творчага пошуку М. Танка ў галіне верлібра.**

**Не, Я. Хялемскі не адбірае хлеб у крытыкаў і даследчыкаў. Ён вядзе гаворку пра М. Танка як чытач даўно любімых ім кніг і для многіх сваіх высноў знаходзіць абгрунтаванне ў дзённіках і выказваннях у друку самога паэта. Дарэчы, верлібр і сапраўды надзвычай капрызная форма верша. Асабліва тым, што ў ім лёгка бывае згубіць нацыянальны дух паэтычнай размовы. Калі прыслухоўваешся да таго, што думае пра верлібры М. Танка Я. Хялемскі, заўважаеш, што адкрываеш у іх і новыя якасці, на якія сам ты раней не звярнуў увагі, не ацэньваў належным чынам.**

**Размову пра творчасць і пра асобу П. Панчанкі аўтар кнігі пачынае, спасылаючыся на адно выказванне Міхаіла Святлова. Першая кніга, згаджаемся і мы, бывае неабавязкова кнігай пачаткоўца ў паэзіі: яна можа быць і кнігай майстра. Вось і я, прыгадаўшы сваё ўражанне ад першай кнігі Пімена Панчанкі, якую мне давялося адкрыць для сябе яшчэ недзе на пачатку трыццаць дзевятага года («Упэўненасць»), магу пацвердзіць: але, адразу ж загучаў на поўны голас самастойны паэтычны талент, які і ў рамястве вершаскладання выявіў трывалую руку. Аднаўляючы некаторыя факты біяграфіі і жыццёвыя пуцявіны П. Панчанкі, аўтар кнігі не блукае па даведніках, а ідзе ад верша да верша, нібыта гэта і сапраўды вехі вандраванняў і пакут паэта.**

**Хіба будзеш ты абвяргаць самыя катэгарычныя высновы, зробленыя Я. Хялемскім, пасля таго, як мы разам з ім зноў перабралі ў памяці нашы сустрэчы з тэмпераментнымі зборнікамі лірыкі — «Далёкія станцыі», «Гарачыя вятры», «Пры святле маланак», «Крык сойкі», «Вячэрні цягнік» і самую апошнюю яго кнігу «Горкі жолуд»: сапраўды, П. Панчанка, бадай, найбольш палымяны і найбольш сумленны мастак у беларускай сучаснай паэзіі.**

**Сказаўшы «найбольш», ці не прыніжаю я (разам з Я. Хялемскім) каго-небудзь з іншых паэтаў, што маюць свае безумоўныя поспехі і заслугі? Мабыць, такая думка і не з'явіцца ў сталага чытача паэзіі. Той, хто размаўляе пра паэзію, крытык гэта або даследчык, калега ці творчы пабрацім, міжволі робіцца максімалістам і бывае схільным да гіпербалізацыі ўласных уражанняў. Якаў Хялемскі зведаў паэзію «знутры», «з сярэдзіны», «з сарцавіны». Яму адкрываецца лабараторыя творчасці нашых творцаў. Таму ён размаўляе пра іх упэўнена, дасведчана.**

**Перакладчык часта нібыта сядзіць над аркушам паперы побач з аўтарам арыгінальнага твора і чуе, як б'ецца-грукае сэрца паэта. На старонках кнігі Я. Хялемскага адлюстраваны некаторыя моманты творчага ўзаемаразумення паміж менавіта такімі саюзнікамі ў творчых пошуках. Да таго ж аўтар шчодра дзеліцца з чытачом па-жыццёваму кала-**

Я. Хялемскі. «Чистота звучания». Кніга пра беларускую паэзію і яе сяброў. На рускай мове. Мінск. «Мастацкая літаратура». 1988.

## Алесь КАСКО

●

Які ні ёсць, а родны край — святыня,
ці райскі сад, ці жухлая трава;
камусьці дарагая і пустыня —
даволі месца ў ёй для харства...

Зрадняцца з краем і такім нашчадкі:
як нам — лясы і рэкі, ім любіць
абсяг зямлі, аголены і гладкі,
шнуры канаў, адкуль вады не піць.

Так, роднае не мае вымярэнняў,
блюзнерства — на калыску наракаць,
ды нас, знядбаўшых повязь пакаленняў,
нашчадкам нізашто не апраўдаць.

Пакаемся, ды аплаціць не зможам
бяздушнасці, трыумфаў напаказ...

О, як нам за наступнікаў трывожна!
О, як яны жахнуцца потым з нас!

●

Не, не знямелі Курапаты:
тут ные косць,
тут стогне дух
пад каранямі дрэў кашлатых,
пад жвірам, што крывёй набух.

Мацней ад сілы землятруса
тут сіла памяці.
Яна
мо ўрэшце здыме з беларуса
таўро цярпліўца-маўчуна?

Народ мой! Век пад прыгаворам
ты быў — і гнёту, і маны,
жыў ад вайны і да тэрора,
і ад тэрора — да вайны.

Не дзіва — сціснулася сэрца,
не дзіва — голас, бы ў травы...
Але зямля тут
расхінецца,
і выйдуць продкі да жывых.

Яны прымусяць разагнуцца
і разамкнуць бязгучны рот, —
і ўжо між намі застануцца,
бо толькі з імі мы — народ!

## Таіса МЕЛЬЧАНКА

### *Прыпяцкая вясна*

— Вясна прыйшла! — шпакі
ужо крычаць.
Ды радасць іх, нібы палын, гаркава.
Там вёскі па-над Прыпяццю маўчаць,
Бы сведкі найжахлівейшай расправы.

Над студняй стогне важка журавель —
Застыла ртуццю чыстая вадзіца.
Вужом віецца каля весніц хмель,
Каб падарожны не зайшоў напіцца.

А птушка-весялушка прыляціць.
Яе не насцярожыць слова: «Зона!»
Калі у горле смягне і гарыць,
Атрутнай кроплі будзе дастаткова.

Пашкадаваць і птушку, і звярка
Няма каму... Асуджаны на мукі.
Ад Прыпяці да сіняга Дняпра
Чарнобыль працягнуў агаркам рукі.

— Вясна прыйшла, — шпакі усё
крычаць.
І я крычу: — Чакайце! Не ляціце!
Ды не магу к сабе прыкальцаваць.
Каб бачыць гэта, лепей не радзіцца.

## Мікола АРОЧКА

### *Хмаркі лёсу*

А. КУЛЯШОВУ,
аўтару верша «Магілёўская хмарка»

1

Я ўспомніў хмарку вашую, Аркадзь.
Яна так звабна ў небе шыбавала!
Яна мяне самога падбівала
На дыбкі паэтычныя прыўстаць...
Але ж ілюзій сёння гэтак мала!

Уранку хмарку вашу расстралялі,
Нібы заложніцу...
І гром, і дым.
Агністым пылам, нібы шрот, крутым
Яе пераняли, раскрыжавалі...
Такое ці сасніш на свеце тым?

Прымусам пасадзілі ўсё ж яе.
Чарнобылем атручаную вільгаць
Ці не зручней на нівы нашы выліць!
Уявы чалавечай нестае...
То ж разам — і дзяцей пад корань
выцяць!
Ды за грахі чые?

Дзяцей — заложнікамі часу злога?
Людскі давер — «без панікі», на злом?
Не папярэдзіўшы нідзе, нікога
Дары Чарнобыля
раздаць цішком?
Ды не гнявіце болей Бога!

2

Нам суджана дзяліцца плёнам свежым,
Дарамі рук, лясоў...
Але ж, мой край,
Прыблудную бяду сваю за межы,
На землі пабрацімаў — не пускай!
Сам спажывай!

На ўсход скіруе—о, барані, божа!
На захад — ціха, толькі па рубеж!
Страсаем хмарны цэзій на Валожын,
На Івянец, на Слонім —
пі і еш!
Навек такое сёрбанкі — бязмеж...

Рэактар пахаваны — як калос,
Як джын прышчэмлены — сапе
ў спякоту.
Палае ў зоне лес, дымяць балоты,
Тарфянішчы — слупамі да нябёс!
Вятрыска іх пахопіць — і панёс...

3

Што на гарбе вы цягнеце там,
хмаркі?
Я бачу — рогі, пысы, капыты...
З якіх лугоў вы гоніце гурты?
Хто выкачаў у брудзе тыя статкі?
Прасвечваюць іх рэбры, жываты
Знутры —
радыяцыйныя ападкі...

Каму ў куток далёкі тых рагуль
З надоямі прыспешваеце ў ранак?
Гурты гусцеюць —
пугамі маланак
Куды пастух іх гоніць і адкуль?
Гасцінец — для дзятвы, матуль?

Хто хіжа гоніць вас у спёку, ў слоту
Дзяліцца дарам тым — за сотні вёрст?
Спатоліць трэба кожнага — да слёз...
Зняхаюць хмаркі —
вусцішнасць іх лёту
Над родным краем —
як лятальны лёс.

*Мікола Гіль*

# Несцерка ў спадніцы

**Апавяданне. З цыкла «Інтэлігенты»**

ВЕРА Уладзіміраўна перабралася з сям'ёю ў гэты дом гадоў восем назад, але неяк так сталася, што і дасюль мала з кім з суседзяў знайшла добрае паразуменне. Знешне дом быў амаль такі ж, як і той, дзе яна жыла раней: пяціпавярховы, цагляны, з балконамі і падвалам. Вось толькі дух у доме панаваў іншы. У тым, ранейшым, дух быў у многім, калі можна так сказаць, вясковы — у тым сэнсе, што суседзі не цураліся адзін аднаго, жылі ў добрай згодзе і нават паяднанасці. Большасць, а можа, і ўсе жыхары былі гараджанамі ў першым калене, прынеслі з сабою ў горад звычкі і ўяўленні родных вёсак і мястэчак, дзе сусед, асабліва блізкі, быў амаль што сваяком. Апынуўшыся разам у новым пяціпавярховым доме на сто дваццаць кватэр (цэлая вёска, і нават не малая, як для цэнтральнай Беларусі), яны хутка пазнаёміліся між сабою, разам агледжвалі і даводзілі да ладу двор, дружна абсталёўвалі падвальныя каморкі, ад чаго яшчэ больш зблізіліся, пасябравалі, а сёй-той з цягам часу і парадніўся — карацей кажучы, неўзабаве ўсе пачувалі сябе між суседзямі так, быццам здаўна, ці не з маленства жылі і гадаваліся разам.

У тым, ранейшым, доме людзі ведалі не толькі адзін аднаго, але і сваякоў, што прыязджалі да таго ці іншага суседа. Тут жа, у новым доме, Вера Уладзіміраўна адразу ўлавіла нейкую адчужанасць між новымі сваімі суседзямі. І чым даўжэй жыла, тым больш пераконвалася, што першае ўражанне яе не падманула. Новыя суседзі быццам знарок унікалі кантактаў. Сёй-той не тое што не выяўляў жадання прыпыніцца і пагаварыць, абмяняцца меркаваннямі наконт надвор'я ці навінамі, а нават і вітаўся без ахвоты: маўляў, адчапіся, чалавеча, я цябе не чапаю, дык і ты — «ступай себе мимо». Ад усяго гэтага Вера Уладзіміраўна засмучалася. Яно, вядома, ніхто не напрошваецца, не набіваецца ў сябры, але ж прывітацца, сутыкнуўшыся на лесвічнай пляцоўцы, абавязвае элементарная прыстойнасць. Гэта ж проста нейкая дзікая, пячорная нявыхаванасць — прасунуцца моўчкі міма, угнуўшы галаву ў плечы, як злодзей.

Бадай, толькі з адной Надзеяй Міхайлаўнай больш-менш кантактуе Вера Уладзіміраўна. Надзея Міхайлаўна жыве паверхам ніжэй, і Вера Уладзіміраўна неяк сама прыпыніла ніжнюю суседку (яшчэ на самым пачатку, неўзабаве пасля пераезду) і пацікавілася, ці не занадта дакучаюць ёй дзеці. «Чые дзеці?» — здзівілася Надзея Міхайлаўна. «Мае хлопцы. Большы і меншы. Ведаеце, прашу не гарэзаваць, але ж, мусіць, усё роўна грукаюць у вас над галавой. Гэта ж усё майструюць, кляпаюць і паяюць нешта... Дык я і непакоюся: вы, часам, не надта злуяцеся?» Надзея Міхайлаўна супакоіла Веру Уладзіміраўну: «Вы не хвалюйцеся, лішне на сваіх хлопцаў не нагаворвайце. Хай майструюць сабе. Гэта ж дзеці. У мяне вунь унук расце, малы, праўда, яшчэ, каб майстраваць, але ж затое тупаціць па падлозе, як вожык. Дык што, я яго навязваць буду? А суседзі ніжнія бурчаць...».

Потым яны зноў нечага прыпыніліся, пасля трэці раз, чацвёрты. Пакрысе пазнаёміліся бліжэй. Вера Уладзіміраўна даведалася, што Надзея Міхайлаўна загадвае інстытуцкай бібліятэкай, што муж яе — узначальваў упраўленне міністэрства — некалькі гадоў назад памёр, што жыве яна з дачкою і ўнукам. Вера Уладзіміраўна расказала пра Надзею Міхайлаўну мужу, нават пазнаёміла іх, і муж пагадзіўся, што суседка — жанчына, па ўсім відаць, прыстойная, інтэлігентная.

Аднак жа знаёмства гэтае так і заставалася знаёмствам, у сяброўства не перарасло. Добрай раніцы — як маецеся? — што новенькага ў вас? — усяго вам добрага! — вось і ўся абегласць суседскіх узаемаадносін. Вера Уладзіміраўна пакрысе звыклася з іх характарам у гэтым доме і ўжо недзе ці не пачала думаць пра тое, што мо так і трэба ў горадзе, што, бадай, інача і нельга, і ўжо сама не надта раскрывалася насустрач памкненням той жа Надзеі Міхайлаўны перайсці мяжу звычайнага знаёмства і па-сяброўску зблізіцца. Не, яна па-ранейшаму лічыла суседку чалавекам ва ўсіх адносінах інтэлігентным, тым не менш ад душэўнага збліжэння ўстрымлівалася.

А час бег. Надышла пара старэйшаму сыну ісці на армейскую службу. Для маці — першае цяжкае выпрабаванне: на два гады (а мо і на ўсе тры) развітацца з сыночкам! Вера Уладзіміраўна, як і ўсе маці, перажывала. Непакоілася: дзе, як давядзецца служыць яе сыночку? Будучыню ягоную з арміяй не звязвала, значыць, добра было б, каб дзе-небудзь ціха і спакойна адслужыў, аддаў свой мужчынскі доўг дзяржаве. А дзе той у арміі спакой і зацішак? Сяброўкі па рабоце, супакойваючы, столькі ўсяго нагавораць, што хоць ты плач: і пра нейкую дзедаўшчыну, якая каростай ліпучай завялася ў вайсковых казармах, і пра іншыя так званыя нефармальныя адносіны ў арміі. Наслухаецца Вера Уладзіміраўна ўсяго гэтага і ходзіць сама не свая. Раней ніколі не задумвалася, што ў нашай арміі могуць быць нейкія іншыя адносіны, акрамя афіцыйных службовых адносін, а тут — дай веры! У дадатак да ўсяго шчыміць душа і ад іншага: каб жа куды далёка не паслалі служыць, каб дзе бліжэй сынок аказаўся, каб хоць пад'ехаць, пабачыць, як ён там. А найбольш жахалася, калі натыкалася думкаю на слова «Афганістан»...

Ішла яна аднойчы дадому ў гэтым сваім неспакойным одуме і напаткала суседку. Надзея Міхайлаўна, зірнуўшы на Веру Уладзіміраўну, не прамінула спытацца:

— Што з вамі, дарагая? Вы ж зблажэлі — не пазнаць! Бяда якая?

Вера Уладзіміраўна з натугаю ўсміхнулася:

— Як вам сказаць. Бяда — не бяда... Сашу ў армію забіраюць. Вось і перажываю. Не за сябе — за яго непакоюся. Як там будзе хлопчыку майму?

Надзея Міхайлаўна ўзяла Веру Уладзіміраўну пад руку, прыціснула яе локаць да свайго боку:

— Я вашу бяду рукамі развяду, — шапнула ўпэўнена і ганарліва. — Верце і не сумнявайцеся, дарагая! Многім памагала і вам памагу.

Вера Уладзіміраўна недаверліва паглядзела на суседку:

— Як вы паможаце, Надзея Міхайлаўна? Як вы можаце памагчы? І чым?

— А гэта ўжо мая невялічкая тайна, Вера Уладзіміраўна. Вы адно ведайце: памагу. І каштаваць гэта будзе няшмат.

Вера Уладзіміраўна збянтэжылася.

— Каштаваць? Хабар некаму даваць? Не, Надзея Міхайлаўна, нам гэта не падыходзіць. Не, ні я, ні муж... Не, у такім разе дзякую вам на добрым слове, толькі...

**Сяргей ПАНІЗНІК**

## *Камандзіроўка ў раён*

**Вясна 1989 г.**

Не, я не «вораг», не «агент»,
хоць і «гнілы» інтэлігент.
І мне наказ упарты:
— Пра «Талаку» не ўспамінаць,
«Мартыралог» не памінаць,
маўчаць пра Курапаты!

Жыву ў эпоху выбару,
са словаў соль я выпару,
і людзям так скажу:
— Хто кулакамі грукае,—
таму не быць ля рупара,
не прычашчаць душу.

І ўсё ж, хто я і мы хто ўсе?
Няўжо нас нечы цень пасе
яшчэ ад школьнай парты?
Што ж, чын раённы на пасту.
Але я з кожным днём расту:
мне варта жыць без варты.

Са словаў соль я выпару.
Жыву ў эпоху выбараў
з платформаю такой:
— Сяляне і рабочыя —
саюзнікі прарочыя.
А працаваць ахвочыя
усе мы — талакой!

І я, не «вораг», не «агент»,
зайду ў чыноўны кабінет,
свае раскрыю карты:
— Не мафіёзі я... Паэт...—
І азірнуся на партрэт.—
І Ленін быў паэтам. Партыі.

Жыву ў эпоху выбару.
Са словаў соль я выпару.
Пастрашку не сцярплю:
— Люблю уладу родную,
Савецкую! Народную!
Зямлю, ужо бясплодную,
гаротную люблю...

Я веру: на свае харчы
пяройдзе мой раённы чын
і будзе ён, лабаты,
«Мартыралог» успамінаць,
Народны фронт не прамінаць,
крычаць пра Курапаты.

**Віктар ШНІП**

## *1 мая 1986 года*

На выцвілых сценах хрушчоўскіх дамоў
Вісяць, як у Храме іконы, партрэты.
І людзі глядзяць на часовых багоў
Без яўнай пашаны. І толькі паэты
Чытаюць узнёслыя оды ў эфір —
Ім грошы заплацяць, што выйшлі
на свята.
У цеснай кватэры пракіслы кефір
Смакуе стары, даядае салату.
Глядзіць тэлевізар і злосна плюе:
— Якая няпраўда! Якая халтура!
А горад, нібыта здурэлы, пяе
І хваліцца свету адсталай культурай.
За сценкаю жонка пры смерці ляжыць—
А лекаў няма і, гавораць, не будзе.
А над Беларуссю са смерцю дажджы...
Якое вы свята святкуеце, людзі?!
Ідуць піянеры: «Трыбунам салют!»
Стаяць на трыбунах іудавы ўсмешкі.
І сеецца стронцый на родны наш кут.
Да могілак з траў праразаюцца сцежкі.
І ў жылах ад сонца бунтуецца кроў...
Ідзём на праспекце за сцягам
чырвоным...
На выцвілых сценах хрушчоўскіх дамоў
Партрэты вісяць, як у пекле іконы.

Надзея Міхайлаўна зноў узяла яе пад руку, зашаптала:

— Вы не гарачыцеся. Нікому і нічога вы даваць не будзеце. Я ўсё, што трэба, зраблю сама. У мяне ёсць знаёмы. З ваенкамата. Скажу яму адно слова, і ён зробіць усё. Пашле туды, куды вы скажаце. У Брэст, напрыклад, ці ў Гродна. А то і ў самім Мінску пакіне.

Вера Уладзіміраўна, вызваляючы сваю руку, пакруціла галавою:

— Няўжо гэта так робіцца? Не веру. Там жа глядзяць, што за хлопец, што ён умее, на што здатны, — у залежнасці ад гэтага і пасылаюць служыць у тую ці іншую часць. Ну, у авіяцыю ці на флот, скажам.

Надзея Міхайлаўна паблажліва ўсміхнулася:

— Наіўны вы чалавек, суседачка! Што, у арміі не людзі, а робаты? Ці анёлы? Такія ж самыя людзі, як і ўсюды. А ў людзей ёсць знаёмыя. Дык хіба чалавек для знаёмага не зробіць таго, аб чым ён папросіць? А вы кажаце! І ўсё гэта будзе каштаваць... І сотні рублёў не пацягне! Дзве палкі сухой кілбасы і дзве пляшкі каньяку...

— А не, не, не! — замахала рукамі Вера Уладзіміраўна. — Як вы можаце, Надзея Міхайлаўна, і гаварыць такое? Ды за гэта ж пад суд! Чалавека за бутэльку каньяку каб разжалавалі? Не! Вы мне нічога не казалі і я нічога не чула!

І пайшла ад Надзеі Міхайлаўны прэч. Ля дзвярэй пад'езда яе дагналі словы Надзеі Міхайлаўны:

— Не трэба свой гонар паказваць, дарагая! Вам дабро робяць, а вы нос адварочваеце! Глядзіце, каб не шкадавалі пасля!

Не хацела Вера Уладзіміраўна расказваць аб гэтай гаворцы мужу, ды не стрымалася, расказала. Муж пасміхнуўся:

— Так і сказала? Я вашу бяду рукамі развяду? Іш, Несцерка ў спадніцы! За дзве палкі кілбасы і дзве пляшкі каньяку?! Ай-яй-яй! Хто ж там у яе знаёмы такі? Якія пагоны на ім? Нешта ж вельмі танныя — усяго таго, што і на сто рублёў не цягне...

Вера Уладзіміраўна пагаджалася з мужам, але ўсё ж уздыхнула:

— Ліха яго ведае, можа, і праўду кажа. Як падумаеш... Ты ж паглядзі. Сашаў аднакласнік Вадзік Цюрын служыць у Мінску, кожны тыдзень дома бывае. І другі аднакласнік, Ігар Салееў, таксама недзе блізка, амаль штодня звоніць дадому... І Дзіма Шаплыка...

Муж запярэчыў:

— Гэта ўжо не служба! Прызвалі, дык павінен салдацкую школу прайсці. Не зашкодзіць. Мужчынамі стануць.

Вера Уладзіміраўна засярдавала:

— Ну дык ідзі і папрасі, каб на Курылы паслалі. Ці ў Афганістан. Іншыя бацькі так не гавораць, а нешта робяць, каб дзіцяці добра было.

Муж таксама пачынаў злавацца:

— Дык што, прасіць твайго Несцерку ў спадніцы? Даваць ёй сто рублёў? Не грошай жа шкада! Як мы самі сабе ды і сыну ў вочы глянем пасля?

Вера Уладзіміраўна памяркоўна ўздыхнула:

— Я ж не кажу пра тое. Я пра тое, каб Саша абы-куды не трапіў, каб лішне не перажываў, не мучыўся хлопчык.

— Аднак жа і трагедыі рабіць не трэба, — сказаў муж.— Не адзін жа ён. Як усе, так і ён. Тут гэта прымаўка якраз і падыходзіць. На тое і армія. У страі ўсе роўныя, усе павінны ісці ў нагу.

Вера Уладзіміраўна прамаўчала. Мужа яна не пераканае. Ды і не стане пераконваць. Бо яна, урэшце, і сама так думае. Прынамсі, думала. А зараз, калі справа тычыцца сына, завагалася. Яно, вядома, брыдка і думаць пра нейкі... хабар. Сам сябе перастанеш паважаць. Але ж, з другога боку, хацелася б і зрабіць нешта, каб хлопчыку лягчэй адслужылася. Толькі ж — што прыдумаеш? Думай ці не думай, а ўсе думкі вяртаюцца да таго, што сказала Надзея Міхайлаўна. Ніколі не думала, што пачуе ад яе такое. Выдавала зусім іншым чалавекам. «Гэта ж трэба — дзве палкі кілбасы і дзве пляшкі каньяку!.. Як пра нешта зусім звычайнае!.. А мо наіўныя мы людзі? Мо гэта робіцца куды часцей, чым думаем? Ну і што, калі робіцца? Кепска, калі сапраўды робіцца. А спрыяць подласці — яшчэ большая подласць!..»

Тым не менш, калі да тэрміну, указанага ў позве, заставалася крыху больш за суткі, Вера Уладзіміраўна пазваніла ў дзверы Надзеі Міхайлаўны. Суседка не здзівілася, убачыўшы яе. Яна не папытала ні аб чым. Прапусціўшы Веру Уладзіміраўну ў кватэру, Надзея Міхайлаўна сказала:

— Што ж, дарагая, так доўга думалі? Цяпер наўрад ці можна што зрабіць! Я, канечне, паспрабую... Але і каштаваць гэта зараз будзе даражэй. Дзвесце рублёў, не меней, самі разумееце...

— Разумею, — ціха і похапкам прамовіла Вера Уладзіміраўна. — Вось грошы. Зрабіце што-небудзь. Толькі мужу не прагаварыцеся. Хай ён не ведае. Добра?

Надзея Міхайлаўна, хаваючы грошы, адказала:

— Вы, дарагая, самі не прагаварыцеся, а я то не скажу, не сумнявайцеся.

— Дзякую вам,— выціснула з сябе Вера Уладзіміраўна, адчыняючы дзверы. — Буду спадзявацца...

Яна не чула, што сказала напаследак Надзея Міхайлаўна. Нешта, здаецца, сказала, а што? «Спадзявацца нікому не забаронена»? Ці, можа, так: «Спадзявайцеся, канечне, спадзявайцеся»? Ліха яго ведае! Паможа ці не паможа, а цяжар з сэрца зняла. Бо хіба ж яна вораг свайму дзіцяці?.. А гонар... Можа, і праўду кажуць, што з гонару кашы не зварыш. Можа, і праўду...

## ПЕРАКЛАДЫ

**Спаўнілася 70 гадоў з дня нараджэння ўкраінскага паэта Пятра Гарэцкага. Даўняя дружба звязвае яго з нашай літаратурай. На родную мову ён пераклаў вершы Я. Купалы, П. Броўкі, П. Глебкі, М. Танка, А. Бялевіча, А. Астрэйкі і многіх іншых беларускіх аўтараў.**

**Сваю любоў да Беларусі, да яе гераічнага народа ён засведчыў зборнікам лірыкі «З дняпроўскіх круч», які ўбачыў свет у выдавецтве «Беларусь», а таксама наступнымі кнігамі паэзіі «Зачараванасць» і «На быстрыні».**

**Прапаную ўвазе чытачоў «ЛіМа» некалькі новых твораў юбіляра ў сваім перакладзе.**

**Юрась СВІРКА.**

**Пятро ГАРЭЦКІ**

### *Пазіцыя*

Нялёгка мне было ў жыцці маім:
Журбы хапала, радасці і болю.
Як ёсць, і застаюся я такім,
Адыгрываць не трэба іншай ролі.

Сабе удачы лёгкай не прысню,
Для славы слоў я не шукаю модных.
З салодкіх губ не раз я чуў хлусню,
Ёй у адказ не пляскаў у далоні.

Для іншых не шкадую дабрыні,
І гэтым жыць павек не перастану.
На іншых не гляджу я з вышыні,
Хоць нехта і глядзіць як з п'едэсталу.

Люблю да рубяжоў крутых ісці,
Люблю людзей гарачых, а не кволых.
Такім, як ёсць, і буду я ў жыцці,
Бо ў ім не адыграю іншай ролі.

●

Рака бярэ выток з крыніцы чыстай,
Разгон узяўшы, плыні не змялець,
Каб потым ёй у берагах квяцістых
Сярод палёў кацінца і звінець.

Адкуль жа сілу набірае колас? —
З абуджанага зернятка яна,
Калі світанкамі магутны голас,
З праменнем сонца, падае вясна.

Пачатак усяму ёсць. І канешне,
Вядома з незапамятных вякоў:
З пупышак — ліст зялёны,
Ну а песня? —
З калыханкі і пяшчотных слоў.

●

Я ў стэпе быў, калі у неба клінам
Агонь узвіўся, зырка палыхнуў,
Тады дыхнула ў мае грудзі дымам,
Што мы ўдыхалі ў страшную вайну.
Ён закрываў нам сонца на світанку,
Калі, як смерць, раз'юшана паўзлі
Крыжастыя па нашых нівах танкі,
Зямлю апусташалі і таўклі,
Тады гарэлі каласкі — не жнеўнік,
І горкі попел дыхаць не даваў...
Боль невымоўны у згарэлым зерні
Нам гневам лютым сэрца напаўняў,
Палі, палі...
Люблю я сінь над імі,
Як хваляў бег, плывуць па збажыне...
З гадоў ваенных ненавіджу дым я —
Суровы час нагадвае ён мне.

**У выдавецтве «Мастацкая літаратура» выходзіць (1990) анталагічны зборнік «Славацкая паэзія». Яго склалі творы каля 80 аўтараў — паэтаў канца XIX і XX стагоддзяў. Прадмову да зборніка напісаў вядомы славацкі крытык і літаратуразнаўца Станіслаў Шматлак.**

**Ніжэй друкуем творы славацкіх паэтаў розных пакаленняў у перакладзе Хведара Жычкі.**

**Людміла ПАД'ЯВАРЫНСКА**

### *Май*

Зноў май, бы фокуснік, прыбраў лясы,
палі і пашы, горы і даліны, —
увесь мой край ахутаў зеляніной;
воч не адвесці ад смарагдавай красы.

Як і ва ўсе спрадвечныя часы,
салоўка песняй славіць куст каліны,
і расцвітае ружа, бы дзяўчына,
і не змаўкаюць птушак галасы.

Зноў май... Зноў май... І зноў спявае
сэрца,
няма ў ім болей месца паняверцы —
ёсць вера ў блізкае здзяйсненне мрой.

Хвала табе, салодкае чаканне
вялікага, прыгожага кахання!
Хвала табе, вясновы мой настрой!

**Гэлена КРЫЖАНАВА-БРЫНДЗАВА**

●

Сустрэліся мы так: зляжалы снег
цямнеў на стрэхах, раставаў паціху,
і самі вы былі як жарт і смех,
так гаварылі складна і дасціпна!..

Ды раптам змоўклі. Мокрыя ад слёз
патухлі вочы, сумам набрынялі,
адлюстраваўся ў іх увесь ваш лёс.
Дзівосныя адкрыліся мне далі:

убачыла душу я вашу ўсю як ёсць,
напоўненую жальбай і бядою,
схаванымі пад слоўнай мішурою.

Вясна дарыла людзям прыгажосць,
са стрэх спадала срэбра на зямлю...
І зразумела я, што вас люблю.

**Юліус ЛЕНКА**

### *Санет студэнткам*

Калі прыходзіць восень у наш край,
кранае пазалотай клёнаў шаты,
злятаецеся зноў сюды, дзяўчаты,
у горад слаўны, дзе цячэ Дунай.

Куды б вы ні зайшлі гурмой стракатай:
у парк ці ў перапоўнены трамвай, —
ператвараеце іх у міфічны рай,
нібы Дзіяны з залатых дукатаў.

Вартуе кожную Амур, напяўшы лук.
Каму ж параніць сэрца ён стралою?
Хацеў бы зноў я паспытаць тых мук...

Ды і без вас прабіты навылёт
І крылы, што мне дадзены ў палёт,
я па зямлі цягаю за сабою.

**Мілаш КРНО**

### *Гідра*

І задрыжыць зямля —і гідра злая
сканае. Спыніцца крывавы здзек.
І чалавека зноў палюбіць чалавек,
усмешкай шчырай брата прывітае.

І ўстане сонца яснае над краем,
абвесціць новы — спорны працы — век
і слёзы промням збярэ з павек.
Ад гневу чалавецтва ачуняе.

Вясной у квецень прыбярэцца сад.
Узнімецца жаўрук над полем раннем.
У кожным доме будзе хлеб і лад.

І ў кожным сэрцы песня загучыць.
Сагрэтыя пяшчотай і каханнем,
па-людску на сваёй зямлі пачнём мы
жыць.

# Валавая арыфметыка

**Палемічныя развагі пра творчы і фінансавы крызіс, які пагражае філарманічнаму жыццю**

ЗВЯРНУЛА на сябе ўвагу публікацыя ў «Вячэрнім Мінску» артыкула карэспандэнтаў БЕЛТА А. Вальвачова і Р. Новікава «Хто заказвае музыку?» (нумар за 10.08.89 г.) і гэтага ж, толькі падкарочанага, матэрыялу ў «Советской культуре» пад назвай «Відовішчы і кааператывы» (12.08.89 г.). Мабыць, узнікла патрэба растлумачыць у друку прычыны крытычнага фінансавага становішча, у якім апынулася Беларуская дзяржаўная філармонія. Але ж зараз, калі ў рэспубліцы акрэсліваецца вырашэнне пытання наконт аддзялення эстрады ад філармоніі (неабходнасць дыферэнцыяцыі канцэртнай дзейнасці паводле жанраў мастацтва наспела даўно, і ўзнікненне кааператываў толькі пацвердзіла гэта, агаліўшы праблемы!) — зараз выратаванне ў тым, каб паспрыяць вырашэнню гэтага пытання, а не заблытваць яго.

Артыкул закранае працэсы, звязаныя пераважна з эстраднай службай БДФ, перадусім — з масава - пацяшальным напрамкам эстрады. Аднак адчуванне такое, быццам у развагах аб праблемах канцэртнай дзейнасці ў цэлым пераважаюць рыначныя катэгорыі. Не засцерагае ад гэткага адчування і пафас радкоў: «Калі мы не хочам канчаткова разлажыць культуру, трэба неадкладна ахаваць яе ад рынку з яго спецыфічнымі законамі і адносінамі». У кантэксце пошуку здаровай канкурэнцыі, якая ўключае вытворча - фінансавы яе аспект, гэты заклік успрымаецца зусім не як праява дыялектычнага падыходу. (Дарэчы, наконт канкурэнцыі: наданне роўных правоў для вядзення гастрольнай дзейнасці дзяржаўным і кааператыўным арганізацыям аўтаматычна не вырашае ўсіх наяўных пытанняў, скажам, пытання сцэнічных пляцовак для вялікіх калектываў і груп. Апроч таго, калі ў адным месяцы «все флаги в гости будут к нам», а ў другім будзе «тишь, да гладь, да божья благодать», дык у першым выпадку і пляцовак усім не хопіць, і прыбыткаў... Думаецца, сітуацыяй удалося б кіраваць пры ўтварэнні каардынацыйнага савета. У гэтым выпадку на змену манаполіі адной арганізацыі павінна прыйсці... манаполія супольнасці, бо стыхія ў канцэртнай справе не дасць карысці ні гледачам, ні артыстам, ні арганізатарам).

Ёсць у тым артыкуле і шкадаванні з прычыны выцяснення афіш філармоніі рэкламай кааператываў. Але не трэба думаць, што філармонія, калі валодала манаполіяй, праводзіла для забеспячэння планавых паказчыкаў нейкія іншыя канцэрты. Не. Гэта ўсё тыя ж «экстрасэнсы, фокуснікі, сатырыкі, жанглёры», стадыёны, палацы спорту, а яшчэ — незлічоныя цыганскія ансамблі, шоу ліліпутаў, цыркі на сцэне. І... арганізацыя так званых камерцыйных гастроляў тэатраў (па лініі філарманічнай службы). Роля ўсёй гэтай дзейнасці БДФ у стасунках з яе спрадвечным прызначэннем — далучэннем людзей да філарманічнага мастацтва — досыць сумная, бо прывяла, і даўно, да крызісу цікавасці да яго.

БДФ магла сабе дазволіць не зважаць на ой які няпросты (у параўнанні з «ускінутым» на сябе) клопат пра ажыццяўленне сваёй першачарговай функцыі, бо лідэрскія месцы, пераходныя сцягі, прэміі і да т. п. забяспечваліся ёй выкананнем знакамітых валавых паказчыкаў (мільён на банкаўскім рахунку — не жартачкі!). А заглушанае громам пераможных фанфар філарманічнае мастацтва марнела ў багне абыякавасці (ці безадказнасці), з кожным годам усё больш непажаданае, адчужанае (ці адлучанае).

Выкананне паказчыкаў вытворча-фінансавага плана, праблемы «з пакрыццём выдаткаў на сімфанічныя, харавыя калектывы» за кошт «даходаў раней самаакупнай эстрады», пра што трывожацца аўтары артыкула, зрабіліся для БДФ самамэтай. (Падкрэслю, што гэты ж прынцып ацэнкі плёну дзейнасці канцэртных арганізацый быў з самага пачатку закладзены ў названы ў артыкуле дакумент — праект новага Палажэння аб умовах і аплаце працы работнікаў у канцэртных арганізацыях. Ды гэта — тэма для асобнай гаворкі). Валавая арыфметыка дазваляла філармоніі існаваць насуперак эканамічным недарэчнасцям, на якіх трымаецца яе структура. Уяўленні А. Вальвачова і Р. Новікава пра «стройную арганізацыйную і гаспадарчую структуру буйнейшай канцэртнай арганізацыі рэспублікі» памылковыя. А што ж у сапраўднасці?

**Вось — прыклад арганізацыйнага і эканамічнага становішча бюро камернай музыкі ў сістэме службаў Белдзяржфілармоніі. БКМ — назва падраздзялення, якое ажыццяўляе запрашэнне і планаванне гастроляў камерных выканаўцаў, ансамбляў і мастацкіх калектываў філарманічнага жанру, заключэнне дагавораў з канцэртнымі арганізацыямі, забеспячэнне гастрольна - канцэртнай дзейнасці на Беларусі і за яе межамі вядучых камерных выканаўцаў рэспублікі (як тых, што працуюць у БКМ штатна, так і прадстаўнікоў музычных тэатраў, кансерваторыі і г. д.).**

**Бюро камернай музыкі знаходзіцца на самастойным эканамічным балансе: смета, як і мае быць, уключае даходную і затратную часткі. Канцэртная зала Белдзяржфілармоніі, таксама самастойнае структурнае падраздзяленне, не мае самастойнага балансу: зале даводзяцца паказчыкі толькі па даходах. Аднак кіраўніцтва залы, фарміруючы яе канцэртную дзейнасць, мае права само запрашаць (і запрашае) выканаўцаў. Затраты ж, што робяцца супрацоўнікамі залы і ўключаюць у сябе, прынамсі, аплату гарантыйнага кошту канцэртаў, гасцініцы, транспарту для абслугоўвання артыстаў, кладуцца (разам з даходамі, вядома) на БКМ.**

**Абсурд?**

**Невыкананне залай плана па той частцы канцэртаў (а, значыць, і даходаў і колькасці гледачоў), што ўключана ў план БКМ (а гэта каля 90 працэнтаў усіх канцэртаў, якія плануюцца зале), аўтаматычна цягне за сабой невыкананне плана БКМ. Для кампенсацыі магчымых страт, як і мізэрнай датацыі, БКМ утварае «аварыйны рэзерв», наладжваючы гастролі тэатраў, загадзя прадугледжваючы значнае перавыкананне планавых заданняў. Аднак страты аказваюцца часам проста неспадзяванымі (а з арганізацыяй пры... Міністэрстве культуры БССР гасразліковага прадпрыемства «Белтэатр» і «аварыйная крыніца дабрабыту» знікла).**

**Не даводзіцца паказчык па затратах і другому самастойнаму падраздзяленню нашай філармоніі — гастрольна-канцэртнаму аддзяленню па Мінску і Мінскай вобласці (?!). У выніку БКМ, «пастаўляючы» выканаўцаў, заключаючы дагаворы з канцэртнымі арганізацыямі аб умовах гастроляў (дагавор уключае і фінансавы бок), функцый непасрэднай рэалізацыі гастрольнага плана не мае: ладзіць канцэрты (шукае пляцоўкі, заключае з іх гаспадарамі гарантаваныя дагаворы, прадае білеты на канцэрты калектываў, робіць затраты і г. д.) Мінскае аддзяленне. Аднак паказчык канчатковага выніку плануецца БКМ, з усімі наступствамі!**

**Недарэчнасці структуры замінаюць міжрэспубліканскаму абмену філарманічнымі калектывамі (аб праблеме абмену ўвогуле яшчэ скажу). Кожны мастацкі калектыў Белдзяржфілармоніі знаходзіцца на самастойным эканамічным балансе. У выпадку абмену, дапусцім, сімфанічнага аркестра БССР на сімфанічны аркестр Горкаўскай філармоніі гарантыйны кошт канцэртаў нашага аркестра, што пералічваецца Горкаўскай філармоніяй філармоніі Беларускай, паступае на ягоны баланс, у той час як затраты, уключаючы суму гарантаванага кошту канцэртаў Горкаўскага аркестра, панясе бюро камернай музыкі, адпаведна яго функцыям. Для БКМ, зразумела, гэтыя гастролі не будуць абменнымі і абернуцца вялікімі непапраўнымі выдаткамі, невыкананнем плана. А ладзіць абмен паасобных камерных выканаўцаў на калектывы немагчыма: 10 канцэртаў калектываў адпавядаюць у сярэднім 40 канцэртам паасобных выканаўцаў.**

Прыклады можна працягваць. Ды і сказанага дастаткова, каб пераканацца: недарэчная структура тармозіць развіццё канцэртнай дзейнасці, робіць яе безаблічнай, размывае адказнасць і садзейнічае бескантрольнаму растрачванню фінансавых сродкаў. А сумяшчэнне ў сценах адзінай канцэртнай арганізацыі філарманічнага і эстраднага накірункаў, непасрэднае ўтрыманне філармоніі за кошт эстрады — вянец пачварнай структуры — робіць вырашэнне праблем філарманічнага жанру і зусім немагчымым.

●

Адчужэнне людзей ад філарманічнага мастацтва, музыкі (не эстраднай, вядома) складвалася дзесяцігоддзямі. Нямала напісана пра неабходнасць далучэння да мастацтва з маленства. І гэта, канечне, слушна. Ды практычна нават навучэнцы (і педагогі) музычных школ (і вучылішчаў, і кансерваторыі) не ходзяць, за рэдкім выключэннем, на канцэрты. Бяруся сцвярджаць, што многія з іх проста не любяць музыку. Пытанне, відавочна, у тым, як абудзіць цікавасць да мастацтва. Гэта — неад'емная частка агульных праблем адукацыі, школы, культуры, што вырашаюцца сёння нашым грамадствам. Таму, скажам, колькасць музшкол або школ з музычным ухілам у іх цяперашнім стане не толькі не вырашае праблему эстэтычнага выхавання, але, зразумела, і не перашкаджае працэсу адчужэння ад філарманічнага мастацтва.

Развіццю гэтага працэсу спрыяе і наяўная сістэма арганізацыі гастрольна - канцэртнай дзейнасці ў рэспубліцы. Як, напрыклад, арганізуюцца канцэрты выканаўцаў камернага жанру? Сутнасць метаду той арганізацыі трапна вызначаецца словам «навязванне». Навязванне працінае ўвесь шлях выканаўцы да гледача: ад планавання да пошуку пляцовак і «прыводу» гледачоў да месца канцэрта.

Так сталася, што амаль усе творчыя сілы рэспублікі знаходзяцца ў БДФ, у Мінску. І першая перашкода, якую трэба пераадолець пры планаванні іх працы ў рэспубліцы, гэта... абласныя філармоніі: яны могуць «узяць» або «не ўзяць» выканаўцу. Наступны этап навязвання — размеркаванне абласным філармоніям выканаўцаў, якіх «пераканалі» прыняць, паміж раз'язднымі няштатнымі адміністратарамі. І, нарэшце, «задзелка» тымі адміністратарамі канцэртаў, г. зн. пошук пляцовак і вымольванне ў прафсаюзных функцыянераў грашовых пералічэнняў, часам сімвалічных, за канцэрты, часам таксама сімвалічныя (бо проста не адбываюцца).

Яшчэ адзін шлях навязвання — натуральны спадарожнік двухадзінай структуры — продаж гледачам філарманічнага канцэрта ў нагрузку да эстраднага. Няштатнага ўпаўнаважанага па рэалізацыі білетаў не бянтэжыць, што выканаўца — буйны майстар: ён выбачаецца перад пакупніком за тое, што прапануе білет «на сімфонію».

Так разварочваецца дыскрэдытацыя жанру.

**Усім вядома, што цікавасць да мастацтва можа абудзіцца, калі яно прынясе чалавеку эстэтычнае задавальненне. Твор класічнай музыкі — гэта гармонія тонкіх фарбаў. Спасцігаючы яе і дамагаючыся ўвасаблення, музыкант гадзінамі не разлучаецца з інструментам. Ён упарта «выстуквае» клавішу, імкнучыся здабыць гук пажаданага тэмбру, нюанса, даводзіць да бляску найскладаныя пасажы, не спіць ночы, заглыбляючыся ў таямніцы фразіроўкі... Назапашаны эстэтычны зарад, поле асобы артыста не могуць не ўзрушыць эстэтычнае пачуццё слухача, яно не можа не адгукнуцца. Але... у заводскім цэху шуміць вентылятар, у інтэрнаце — разбітае піяніна, у вясковым клубе «не слухаюцца» змерзлыя пальцы. Згублены той самы нюанс, што складае сутнасць гэтага мастацтва. А глядач не ведае чаму, але ён не задаволены. З гэтага часу класічная музыка яго не цікавіць.**

Гэта не перабольшванне. У кожнага віду мастацтва — сваё асяроддзе існавання. Слухаць класічную музыку ў шуме ці іграць на інструменце, калі не адказваюць клавішы, — тое самае, што дзівіцца на жывапіс у цемры або пісаць акварэллю на пяску.

Ды належных умоў для далучэння да скарбаў музыкі наша практыка арганізацыі канцэртаў стварыць не можа. Раз'яздныя няштатныя адміністратары толькі «задзелваюць» канцэрты — знаходзяць выпадковыя пляцоўкі (абы прынялі, тут ужо «не до жиру»), але падрыхтоўчай работы да канцэрта не праводзяць: яна вымагае часу, а ў адміністратара штодня канцэрты ў розных населеных пунктах, часта — па некалькі на дзень. На месцы ж займацца падрыхтоўчай работай няма каму. Як правіла, «задзелваюцца» канцэрты амаль перад пачаткам гастроляў, і выканаўца, бывае, да самага выезду не ведае, дзе ён будзе іграць. Часам «задзелка» працягваецца і тады, калі артыст ужо ў дарозе. Няведанне маршрута, кантынгенту слухачоў, а, здараецца, і імправізаванасць выступлення, вымушаюць выканаўцу іграць спехам складзеную нізку твораў.

Канцэрты камерных выканаўцаў, як правіла, «закрытыя», г. зн. праводзяцца для работнікаў пэўнага прадпрыемства, навучэнцаў канкрэтнай установы і г. д. Інфармацыі пра іх у горадзе, населеным пункце няма. Арганізацыя адзінкавых адкрытых канцэртаў у абласных цэнтрах — на нізкім узроўні. Здавалася б, ідэальным асяроддзем для ўвасаблення музыкі можна назваць Канцэртную залу БДФ, ды яна нярэдка бывае напаўпустою. А адкуль узяцца меламанам, калі робіцца так многа, каб людзей ад музыкі адлучыць?

●

Вялікі ўрон філарманічнаму мастацтву, відавочна, нанесены адкрыццём філармоній у абласных цэнтрах Беларусі. Як ужо гаварылася, яны зрабіліся тормазам для канцэртнай дзейнасці ў рэспубліцы вядучых яе выканаўцаў. А камерныя выканаўцы з іншых рэспублік прымаюцца абласнымі філармоніямі ў якасці «даважка» да эстрады, у нагрузку да яе. Ідзе сапраўдны гандаль: за колькі прынятых камерных канцэртаў можна набыць той ці іншы эстрадны шлягер.

Абласныя філармоніі замінаюць і арганізацыі шырокага міжрэспубліканскага абмену, які, з мяркуемым спыненнем фарміравання ўсесаюзнага гастрольна - канцэртнага плана, будзе асноўнай формай арганізацыі гастрольна-канцэртнай дзейнасці ў краіне. Самі абласныя філармоніі весці міжрэспубліканскі абмен не могуць праз адсутнасць практычна ўласных выканаўцаў. Прымаць жа гастралёраў, запрошаных БДФ у парадку абмену, адмаўляюцца, бо выконваюць план філарманічных канцэртаў за кошт артыстаў, прынятых самастойна ў нагрузку да эстрады. Між тым, пры прыёме канцэрта ў парадку абмену затраты на яго ніжэйшыя, чым затраты на канцэрт, наладжаны па-за абменам, — на велічыню гарантыйнага кошту, бо пры абмене сумы гарантыйнага кошту ўзаемна пагашаюцца.

І яшчэ праблема. Праблема планавання дадатковых канцэртаў выканаўцам і калектывам, што запрашаюцца на працягу года для выступленняў у Канцэртнай зале БДФ. Пры фарміраванні ўсесаюзнага плана канцэрты большасці з іх уключаліся ў гастрольныя маршруты па рэспубліцы. Адменяць усесаюзны план — і планаваннем усіх гэтых канцэртаў будзе займацца БДФ. І тут яна зноў сутыкнецца з непераадольнай перашкодай — абласнымі філармоніямі.

Такі нярадасны лёс філарманічнага жанру. Яго падзяляюць і выканаўцы. Не ўсе з іх вытрымліваюць выпрабаванне горкім усведамленнем сваёй непатрэбнасці, ненатольнасцю прагі раскрыцця свайго творчага патэнцыялу. З'ехала ў Грэцыю (і зусім не толькі ў сувязі з замужжам) выдатная беларуская цымбалістка А. Ткачова. Скрыпічнае мастацтва рэспублікі пазбавілася цудоўных музыкантаў — Р. Нодэля і А. Крамарова. З песімізмам разважаюць сёння пра будучыню сваёй канцэртнай кар'еры многія, у тым ліку вядучыя, музыканты Беларусі.

Наўрад ці варта засяроджвацца зараз на пытанні аплаты працы служыцеляў муз: аплата іх працы адпавядае тым мізэрным фінансавым субсідыям, што вылучаюцца з бюджэту на гэту сферу духоўнага жыцця.

●

На вялікі жаль, праблемы філарманічнага жанру не зрабіліся прадметам пільнага клопату Міністэрства культуры БССР. Наадварот. З аднаго боку, прынятыя МК БССР або па ягоным прадстаўленні рашэнні (адкрыццё абласных філармоній) без уліку канкрэтных

Вершаказы — жанр, які ўзнік на сутыку верша і «каза» і ў якім галоўная дзейная асоба — слова: яно спавядаецца, яно апавядае свой радавод і такім чынам творыць свой партрэт.

У вершаказаў свая рытміка, свае рыфмы, свая вобразная сістэма, але найбольш яны падобны на версэты, яны, па сутнасці, — іхняе адгалінаванне.

Асобныя вершаказы, як напрыклад, «Камень», «Жалеза», «Дуб», «Дарога», «Сякера» і інш., ужо друкаваліся ў перыёдыцы, аднак гэта — першая публікацыя, дзе яны «ўсведамляюць», хто яны і як яны называюцца.

Аўтар.

Алесь РАЗАНАЎ

# У ГОРАДЗЕ ВАЛАДАРЫЦЬ РАГВАЛОД

## Вершаказы

### Бераг

Бераг, як павадыр, вядзе раку да самага мора, сочачы ўдзень і ўначы, каб яна не спынялася па дарозе, не збочвала, не забывалася пра мэту, аберагаючы яе самую ад яе памкненняў, ад яе нораву, ад яе «пачуцця», і разам з тым «па-стараверску» застаецца на аднойчы абраным баку, на аднойчы знойдзеным месцы, разважаючы пра асіметрычны закон Бэра, паводле якога рака заўсёды аддае перавагу аднаму берагу, і правяраючы гэты закон на сабе.

На беразе растуць бярозы і берасты.
Над берагам лётаюць ластаўкі-беражанкі.
Пры беразе бярложыцца Бярэсце: у ім берасцейцы п'юць брагу і пішуць берасцяныя граматы.
А ўздоўж берага, па рацэ, плывуць чаўны-дубы, чаўны-берасцянкі і бярвёны-плыты.

Рака хісткая, бераг устойлівы, рака — небяспека, бераг — абарона ад гэтай небяспекі, рака — бег, бераг — бог, і плыўцы, звярэджаныя стыхіяй, бяруцца аберуч грэбці да берага, і Берынгі, выпраўляючыся ў марскія і акіянскія падарожжы, сваім неабвешчаным гербам маюць яго — бераг.

### Дождж

Дождж даўгачаканы, даўгажаданы. Ён «доіцца» з неба і дагаджае траве, дрэвам, усёй зямлі.

Дождж прыходзіць як боскі адказ на стараславянскую — «старасялянскую» — малітву: «Хлеб наш насущный даждь нам днесь».

Дождж добры, калі ён у меру — у «досыць» — і калі ў пару — у сяўбу, а не ў жніво і ў дажынкі.

Дождж падарожнічае ўдоўжкі і ўшыркі, без сцежак і без дарог, і там, дзе ён пабывае, жыццё адраджаецца нават з прысаку, нават з жуды.

### Серп

Сярпом «спорваюць» свірэпу, скрыпень, асот, аднак гэта не асноўная яго справа — усёй сваёю няпростасцю ён прыстасаваны, каб «спрагацца» з рэспектным, з «божым» — са збажыной: жытам, пшаніцай, просам.

Яго даймае сверб дзейнасці: ён і цярплівы, і руплівы, і не прыстане, пакуль не складзе ўсе сцябліны на дол, пакуль не спярэсціць снапамі ўсяе дзялянкі.

Яго кавалі мужчынскія рукі, а сябруе ён з рукамі жаночымі, нібы серафім, акрыляючы іх.

Серп страсны, серп востры і таму абдымкі, у якія ён захоплівае сцябліны, не ўтрымліваюць гэтых сцяблін, расцінаючыся яго вастрынёй і страснасцю: ён бярэ ўсё сабе, а пакідае ўсё перавяслу.

Каласы кажуць, што серп — смерць, што ён супраць іх, а зерне — што серп справядлівы і што ён спрыяе яму зрабіцца аладкамі і праснакамі.

Тою ўладай, якая даецца яму на час жніва, серп усталёўвае на полі свой лад, сваю рэспубліку, у якой ён не res (рэч) і не servus (раб), а прынцэпс — спераду ўсіх, першы між роўных.

І хоць гэта рэспубліка існуе толькі адзін прыпар, толькі адну пару, яна называецца па-ягонаму: жнівень, серпень.

Калі серп вісіць у каморы, у свірне альбо на гарышчы — ён шэры, калі абтанцоўвае поле, танцуючы «Польку» альбо «Сербіянку»,— сярэбраны, і месяц-маладзічок прызнае ў ім свайго стрыечнага брата.

### Горад

Горад горды і высакародны: ён стаіць на высокім месцы — на ўзгорку, на грудзе — і, адгароджваючыся ад навакольнага асяродку вежамі і сцяною, не адлучаецца ад яго, а вылучаецца з яго — як яго цэнтр, сярэдзіна, сарцавіна.

Ён — бесперастаннае пераўтварэнне дольняга ў «горнае», мінулага ў «градучае», ён — іхнія народзіны, і таму ўсе позіркі скіроўваюцца да яго, і таму ўсе дарогі сыходзяцца ў ім, і таму ўсім крывічам і радзімічам ён, нібы ўзнагарода, родны і дарагі.

Горад загартаваны ў горне розных нягод і прыгод, ён перагараджае ордэну і ардзе дарогу да валадарства, і калі на ўсё горла ворагі прадракаюць: «Гора — гораду!» і абрушваюць на яго град камянёў і стрэлаў, горад адказвае ім пагардай.

Да горада горнуцца вёскі, лясы, пасады, палі, агароды, і ён з'ядноўвае іх у радзіму, а разнаісную грамаду — смердаў, рамеснікаў, гандляроў — гуртуе ў народ.

І нават калі горад знішчаецца дашчэнту, згарае да гарадзішча, народ і радзіма становяцца тым радовішчам, з якога ён адраджаецца зноўку.

У горадзе валадарыць Рагвалод, горад радуецца Рагнедзе.

# ПІШУ З ДАЛЁКАЙ ЯКУЦІІ...

(Пачатак на стар. 5).

На месца знішчанай беларускай культуры новая культура не прыйдзе. Прыйдзе малакультур'е, касмапалітычны сурагат культуры. Паспрабую абгрунтаваць сваё сцвярджэнне.

Асновай любой культуры з'яўляецца мова. Мова — не толькі сродак зносін і мыслення. Гэта яшчэ і будаўнічы матэрыял мастацкай літаратуры. Літаратура ж, у сваю чаргу, апладняе ўсё астатняе мастацтва: тэатр, кіно, размоўныя жанры эстрады — праз драматургію; музыку — праз тэксты песень, опер, аперэт, араторый, кантат; выяўленчае мастацтва абапіраецца на літаратурныя сюжэты, тое ж самае — балет і пантаміма, у аснове якіх ляжаць яшчэ і літаратурныя лібрэта. Мастацкая літаратура, можна сказаць, стварае кола нацыянальных сюжэтаў і тэм, якім карыстаецца ўсё мастацтва. Такім чынам, мастацтва немагчыма без высокаразвітой, высакаякаснай нацыянальнай літаратурнай мовы. Але літаратурная мова ўвесь час жывіцца народнай мовай і гістарычнай. Мова, пазбаўленая дыялектызмаў, народных выразаў і гістарызмаў — гэта стэрылізаваная, спакладзеная мова.

Якой жа мовай карыстаюцца творцы — рускамоўныя беларусы? Менавіта такой, спакладзенай. Яны ж не могуць карыстацца ні народнымі, ні гістарычнымі скарбамі беларускай мовы, бо гэта багацце зусім іншай моўнай сістэмы, да таго ж, усе гэтыя словы рускамоўнаму чытачу прыйдзецца тлумачыць. Перад літаратарам устае невырашальная праблема: стаць чалавекам з арлоўскімі, курскімі, цвярскімі каранямі ён не ў стане, а карыстацца сваім, карэнным не дазваляе чужая, хоць і ўспрынятая ім як свая, мова.

**Перад такой праблемай апынуўся ў свой час і я. Я з дзяцінства пісаў на дзвюх мовах. Першы рускі верш надрукаваў у 12 год, беларускі — у 15. Потым паступіў у БДУ — на хімічны факультэт, згодна з тагачаснай модай. Пісаць працягваў на дзвюх мовах. Друкаваўся ў «Чырвонай змене», «Знамени юности», «Маладосці», «Нёмане». Але ў сувязі з тым, што вучыўся на хімфаку — на рускай мове, ды яшчэ пісаў на хімічныя тэмы, з цягам часу мне пачало здавацца, што я проста не здолею выказаць па-беларуску ўсё, што ў маёй галаве. І стаў пісаць пераважна па-руску.**

**Нельга сказаць, што гэта не прынесла плёну. Маю першую кнігу вершаў заўважылі амаль што ўсе літаратурныя выданні Мінска, была рэцэнзійка нават у Маскве. У 1964 годзе ў часопісе «Юность» была надрукавана паэма «Живые голоса». Друкаваўся і ў іншых усесаюзных часопісах. Але з цягам часу прыйшло расчараванне.**

**Я адчуў раптам, што далейшага росту майго як творцы не будзе, і што віной таму — мая руская мова. Чыста літаратурная, залізаная. Узбагачаць яе тым вясковым матэрыялам, які ведаю з маленства? Але хто будзе друкаваць рускія вершы, перасыпаныя беларускімі словамі? Дый як гэта будзе выглядаць? Каму будзе патрэбна такая паэзія? Ні сабе, ні куме, ні рускаму, ні беларусу...**

**Дадам дарэчы, што адчуванне гэтае ўзнікла зусім не на Беларусі, а ў Горкаўскай вобласці, куды я трапіў згодна з размеркаваннем як хімік. Менавіта тут, сярод прыродных рускіх, я зразумеў, што я — не рускі, а хтосьці іншы, а РУСКАЯ МОВА — ЯНА ПЕРШНАПЕРШ НЕ УСЕАГУЛЬНАЯ. А МОВА РУСКАГА НАРОДА, ЯКІ І НЯСЕ ЗА ЯЕ ГАЛОЎНУЮ АДКАЗНАСЦЬ. А мы — навошта мы рускай мове? Яна ў беларусах патрэбы не мае. Яна і без нас вялікая, праўдзівая і свабодная, як казаў Тургенеў. І нікому з рускіх не трэба, каб я пісаў свае вершы па-руску. Сваіх стае.**

**Пасля Горкаўскай вобласці была Масква, Літінстытут. Тут і выспела канчаткова маё рашэнне вярнуцца да роднай мовы. Выпусціўшы другі рускі зборнік (1969), трэці я напісаў па-беларуску. А выйшаў ён у той час (1973), калі я жыў ужо ў Якуціі.**

З 1965 года я жыву за межамі Беларусі. Прыязджаю самае большае на два тыдні, спыняюся ў гасцініцах. Да нядаўняга часу ў Якуцку не меў аніводнага знаёмага, з якім мог бы перакінуцца словам па-беларуску. Але роднай мове болей не здраджваю і ўпарта пішу на ёй, хаця мае творы друкуюцца на ёй і рэдка, і далёка не ўсе. Гэта нічога. Толькі б не быць далакопам роднай мовы.

Што ж нам рабіць далей, каб абсягі нашай рэспублікі не сталі Курапатамі нацыянальнай мовы?

У апошні час дастаткова часта даводзіцца чуць катэгарычнае патрабаванне строга следаваць прынцыпу добраахвотнага вывучэння нацыянальных моў. Выглядае на першы погляд гэты прынцып прывабна: яшчэ б, добраахвотнасць! Дэмакратыя! Але гэтую «дэмакратыю» мы ведаем добра. Яна руйнуе нашу мову вось ужо дзесяткі гадоў.

Ходзяць добрыя хлопцы і дзяўчаты з нефармальных суполак па кватэрах, угаворваюць аддаваць дзетак у беларускія класы... Якую цяжкую місію яны ўзялі на сябе! Ну як давесці, што гэтая мова патрэбна дзіцяці, калі на ёй немагчыма атрымаць ні вышэйшую, ні нават сярэднюю спецыяльную адукацыю?

Наш суродзец не дурань, ён бачыць, што ў рускую ВНУ лягчэй паступаюць тыя, хто лепш валодае рускай мовай. Дык навошта яго золатка будзе сушыць галаву беларушчынай, калі яна ў рускім сачыненні толькі павялічыць колькасць памылак? Каб застацца на падсобных работах?

Светам правіць практычны інтэрас, і Беларусь у гэтым не выключэнне. Сталіністы, бюракраты ведалі, што рабілі, калі знішчалі беларускую вышэйшую і сярэднюю спецыяльную адукацыю. У спалучэнні з прынцыпам добраахвотнасці гэта якраз тое, што патрабуецца, каб у наша адукаванае стагоддзе адпрэчыць народ ад мовы, якая не дае практычнага шанцу.

Стварылі ненармальныя ўмовы, ды яшчэ балбочуць, што беларусы лічаць сваю мову горшай!

Лічу, што трэба перш-наперш, пакуль не позна, пакуль яшчэ ёсць настаўнікі, перавесці на беларускую мову да 80 працэнтаў школ, згодна з нацыянальнай доляй беларусаў у рэспубліцы. У рэштцы ўвесці беларускую мову ў якасці **абавязковага** прадмета. Не павінна быць несправядлівага становішча, калі адзін школьнік вывучае дзве мовы, а другі — адну. Веданне мовы — багацце, якое насіць не на карку. І прыйдзе час, калі і рускія жыхары Беларусі скажуць «дзякуй» за тое, што іх не пазбавілі ўдачы ведаць дзве мовы. Няўжо рускі штосьці страціць, калі зможа прачытаць у арыгінале цікавую беларускую кнігу, паглядзець у тэатры выдатны беларускі спектакль, чэрпаць навіны са «Звязды» і «ЛіМа», сам пісаць у гэтыя выданні, нарэшце, вучыцца ў беларускіх ВНУ? Так-так, у беларускіх ВНУ, г. зн. у ВНУ з беларускай мовай навучання. Веру, што іх уваскрашэнне не за гарамі.

Лічу, што трэба перавесці на беларускую мову ўсе пядінстытуты, прычым неадкладна. Новай беларускай школе спатрэбіцца шмат беларускамоўных настаўнікаў. На беларускай мове ў пядінстытутах павінны выкладацца ўсе прадметы, а не толькі беларуская мова. Наспеў час, каб прыняць тэрміновыя захады і для стварэння беларускіх універсітэтаў — беларускіх па сутнасці, а не па назве. Універсітэты ў Мінску, Гомелі, Гродне павінны стаць сапраўднымі храмамі роднай мовы і культуры.

На беларускую мову павінен перайсці і тэатральна-мастацкі інстытут, асабліва яго тэатральная палова. Тады акторы не будуць давіцца словамі ні на сцэне, ні на экране.

З цягам часу трэба падумаць і аб пераходзе на беларускую мову і тэхнічных ВНУ, падрыхтаваўшы падручнікі і кадры.

Вяртаючыся да Якуціі, павінен зазначыць, што тут шмат хто з прыезджых цікавіцца якуцкай мовай. І гэтая цікавасць часткова задавальняецца: выдаюцца самавучыцелі, размоўнікі. Рускі часопіс для дзяцей «Колокольчик» друкуе «Словарик дружбы» — якуцкія словы і выразы з перакладам. У друку выказваецца прапанова аб увядзенні якуцкай мовы як прадмета ва ўсіх рускіх школах Якуцка. Сям-там ужо наладжваюцца курсы якуцкай мовы для дарослых.

Наогул, што датычыць якутаў, то ў іх, мне здаецца, усё ў парадку. Распрацавана праграма навучання **ўсіх** якуцкіх дзяцей якуцкай мове, і праграма гэта выконваецца. У Якуцку адчыняюцца класы, дзе якуцкую мову нароўні з дзецьмі-якутамі вывучаюць і іншыя. Павялічваецца час гучання якуцкай мовы па радыё і тэлебачанні. На якуцкую мову дубліруюцца фільмы. На ўсіх крамах горада і нават кіёсках вывешаны шыльды, дзе адначасова з рускай і на якуцкай паведамляецца, калі гэтыя крамы працуюць і калі ў іх перапынак. Газеты, у тым ліку і рускія, ахвотна друкуюць лісты з прапановамі надання якуцкай мове статуса дзяржаўнай, пашырэння правоў аўтаномнай рэспублікі да правоў саюзнай.

Развіваецца, сталее культура. Сенсацыяй стала запрашэнне якуцкага тэатральнага рэжысёра Андрэя Барысава ў МХАТ, дзе ім з вялікім поспехам пастаўлена «Развітанне з Мацёрай».

Дык не будзем жа меней разумнымі, чым якуты. Захаваем свае карані і вытокі, самых сябе.

г. Якуцк.

# ФРЭСКІ НА СТАРОЙ СЦЯНЕ

## Лёс мастакоў Хрыстафора і Пятра ДАРКЕВІЧАЎ

СТАРЫ віцебскі дворык. Затуманенымі вокнамі глядзіць на яго будынак, у якім некалі знаходзілася мастацкае вучылішча. І сёння, скрозь гады, я, здаецца, выразна бачу твары людзей, чую іх галасы. Тут вучыліся і выкладалі ў 20—30-я гады многія дзеячы беларускага савецкага мастацтва. І, напэўна, мала каму вядома, што аднойчы ў вучылішчы з'явіўся і паступіў на скульптурнае аддзяленне юнак, якога цяпер ведае ўвесь свет,— народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў.

— Вось у тым падвальчыку была наша майстэрня,— расказваў ён мне ў час аднаго з нядаўніх прыездаў у горад.— Я, праўда, нядоўга тут правучыўся: адмянілі стыпендыю — і прыйшлося вярнуцца дамоў, у родную вёску...

У старым дворыку — цішыня. Мы стаім з мастаком Пятром Явічам ля пакарабачанай часам сцяны. На ёй пакуль яшчэ можна адрозніць чатыры фрэскі. Я даўно хачу даведацца, хто і калі іх выканаў, чые твары тут намаляваны. І раптам высветлілася, што адказаць на гэтыя пытанні можа мой даўні знаёмы, старэйшы віцебскі мастак Пётр Максавіч Явіч.

**«Упершыню я стаяў у гэтым дворыку ў 1934 годзе, калі паступіў у вучылішча. У тыя дні пісаў з натуры ўсё, што бачыў вакол. І разам з іншымі студэнтамі малюнкі свае паказваў выкладчыкам.**

**Асабліва прыемна было прыносіць іх маладому выкладчыку Хрыстафору Даркевічу. Помню, калі паказаў яму першы малюнак, ён здзівіўся, што я такія кветкі пішу, хоць нічога ў іх арыгінальнага не было: кветкі як кветкі. Але нешта, напэўна, заўважыў у малюнку мой настаўнік.**

**Потым ужо я прыносіў яму ўсё, што пісаў. А ён цярпліва растлумачваў, што атрымалася, а што трэба перарабіць. І галоўнае — заўсёды паказваў, як іменна трэба змяніць малюнак, каб ён выйграў, а фарбы заззялі па-новаму, па-асабліваму...**

**Побач з Хрыстафорам Яўгенавічам я часта бачыў яго брата Пятра Яўгенавіча. Ён выкладаў гісторыю мастацтваў. Прычым, не толькі ў нас, а яшчэ і ў педінстытуце, у БДТ-2, як тады называўся коласаўскі тэатр, у кінатэхнікуме.**

**Абодва мае выкладчыкі былі выключна інтэлігентнымі, дэмакратычнымі ў адносінах са студэнтамі. Некаторыя з іх да гэтага часу жывуць у Віцебску і добра помняць сваіх настаўнікаў».**

**(З успамінаў мастака П. М. Явіча).**

**«У тыя часы, здаецца, Пётр Даркевіч быў адзіным прафесійным мастацтвазнаўцам у горадзе. А я вучылася ў кінатэхнікуме і слухала яго лекцыі разам з беларускімі паэтамі Андрэем Ушаковым (у яго тады ў Віцебску выйшла кніжка «Праца і маладосць») і Рыгорам Жалезняком (і ў яго ў той час выйшлі ў Віцебску зборнікі «Першы вытап»—у сааўтарстве з Б. Люгоўскім і «Вясновыя будні»). Я вучылася на тэхнічным аддзяленні. Яны абодва — на сцэнарным. І разам мы сядзелі на лекцыях Пятра Яўгенавіча. Розніца год была не вельмі вялікая, ды і не бянтэжыла ні яго, ні нас. І малады выкладчык часта запрашаў малодшых таварышаў да сябе дамоў. Там я пазнаёмілася і пасябравала з яго жонкай Ірынай.**

**Пятра Яўгенавіча мы ўсе проста любілі. Ён гаварыў, пакурваючы сваю любімую люльку, а мы слухалі, разявіўшы рот, расказы аб вялікіх мастаках і іх бессмяротных творах».**

**(З успамінаў настаўніцы А. С. Лосевай).**

**«Хрыстафор Яўгенавіч вёў у нас малюнак і жывапіс. І ўсе практычныя навыкі мне прывіў менавіта ён.**

**Па-мойму, якраз у той час мой настаўнік захапіўся партрэтам. Помню яго Аляксея Стаханава — мы нават неслі гэты партрэт на першамайскай дэманстрацыі.**

**Абодва браты зніклі з вучылішча адначасова. Тады ж прапаў назаўсёды графік Яўген Мінін, аўтар цудоўных гравюр, прысвечаных старому Віцебску. А студэнта Голада, як шэптам перадавалі адзін аднаму ў вучылішчы, арыштавалі за тое, што ён напярэдадні сказаў «сакраментальную фразу»: «Які добры чэшскі аловак...» — успамінае П. М. Явіч.**

**«У 1937 годзе, па-мойму, гэта было ў дні зімовых канікулаў, мы неяк зайшлі кампаніяй студэнтаў і выкладчыкаў у кафэ (такія ў нас былі таварыскія адносіны). Як заўсёды, сядзелі, заслухаўшыся расказамі Пятра Яўгенавіча, які быў дзіўным апавядальнікам.**

**Да століка, за якім мы сядзелі, раптам падышоў нейкі незнаёмы, як я запомніла, вельмі суровага выгляду чалавек. Не вітаючыся, не просячы прабачэння, адразу ён звярнуўся да Пятра Даркевіча і запатрабаваў: «Пакажыце, што ў вас у папцы?..» Гэта было сказана строга, нават жорстка. Пётр Яўгенавіч адкрыў папку і паказаў: у ёй ляжалі малюнкі студэнтаў... І незнаёмец пайшоў, пасеяўшы ў нашых душах трывогу...**

**Можа, гэта і было тым пачаткам, за якім вясной паследавала самае страшнае...»**

**(З успамінаў А. С. Лосевай).**

**«27 красавіка 1937 года ноччу прыйшлі трое ваенных (муж не спаў, ён часта па начах дома працаваў), зрабілі вобыск, усё ў кватэры перавярнулі. Потым мужа ўвялі. Дзеці плакалі (у нас іх двое — сын Яўген, 1928 г., і дачка Ірына з 1932 г.).**

**У гэту ж ноч быў узяты і яго брат Пётр. Пасля арышту мужа ў мяне адабралі адзін пакой (а было два). На работу мяне нідзе не бралі як жонку «ворага народа». Нарэшце ўдалося ўладкавацца рабочай у лазні, дзе працавала да яго рэабілітацыі...**

**Муж і яго брат сядзелі ў НКУС (гэта на тым месцы, дзе цяпер універмаг). Мне дазволілі перадаваць яму толькі бялізну, махорку і запалкі. Пісаць ні яму, ні мне не дазвалялі.**

**Адзін раз яго бачыла, калі яго вазілі мыцца ў турму. Я стаяла супраць варот, ён убачыў мяне, напэўна, нешта хацеў крыкнуць, але канвайры (іх было двое) стукнулі яго прыкладамі па галаве, і ён упаў на дно машыны...**

**Калі яго перавялі ў турму, то хутка мне сказалі, каб я прынесла цёплыя рэчы, бо яго будуць высылаць. Больш я аб мужы і яго браце доўга нічога не ведала.**

**У 1960 годзе я падала прашэнне аб пераглядзе справы майго мужа, таму што заўсёды лічыла яго невіноўным. І вось 13 красавіка 1961 года за № 212 з Мінска прыслалі даведку за подпісам намесніка старшыні Ваеннага трыбунала Беларускай ваеннай акругі падпалкоўніка юстыцыі Унукава аб тым, што пастанова ад 20 кастрычніка 1937 года ў адносінах Даркевіча Хрыстафора Яўгенавіча адменена і справа за адсутнасцю саставу злачынства спынена. Даркевіч Х. Я. рэабілітаваны пасмяротна».**

**(З пісьма А. А. Даркевіч, жонкі Хрыстафора Даркевіча. г. Разань).**

**«Мой бацька нарадзіўся ў г. Веліжы Смаленскай губерні ў 1902 годзе ў мнагадзетнай сям'і. Дзед у 1929 годзе быў раскулачаны і сасланы ў Сібір, дзе памёр ад голаду.**

**Бацька закончыў мастацтвазнаўчае аддзяленне Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта і з 1927 года на працягу дзесяці год выкладаў гісторыю мастацтваў у Віцебскім мастацкім вучылішчы, да самага арышту.**

**Помню яго цудоўную бібліятэку з рэдкімі выданнямі па мастацтве, якая згарэла ў час вайны разам з нашым домам, калі горад акупіравалі фашысты.**

**Артыкулы бацькі друкаваліся ў беларускім часопісе «Полымя». Ён вёў у горадзе вялікую асветную работу — лекцыі, даклады сярод настаўнікаў, медработнікаў, чырвонаармейцаў. Выступаў у абарону помнікаў архітэктуры, якія ўзрывалі яшчэ да вайны (Успенскі сабор і інш.). У сувязі з гэтым падвергся ганенням за абарону «рэлігійнага цемрашальства».**

**Бацька быў арыштаваны 27.4.37 года. Адкрытага суда не было, прыгавор — 10 год без права перапіскі. Рэабілітаваны «за нядоказам саставу злачынства» 6.9.57 года (Вярхоўны суд БССР). Першапачатковае пасведчанне аб смерці ад 7.1.58 г. аказалася лжывым: памёр ад менінгіту 17.11.45 г. На самай справе прыгавор быў вынесены 4.11.37 г. і ў той жа дзень бацька быў расстраляны. Абвінавачанне па 58 артыкулу — контррэвалюцыйная дзейнасць. Гэтыя апошнія звесткі атрыманы мной у УКДБ СССР па г. Маскве і Маскоўскай вобласці 11.1.89 г. пасля майго запыту ў Мінск.**

**Бацька быў беспартыйны. Я яго зусім не памятаю. Па ўспамінах маці і ведаўшых яго жыхароў Віцебска, гэта быў жыццярадасны і добры чалавек, вельмі таварыскі. Усе, хто яго ведаў, адносіліся да яго з вялікай цеплынёй і сімпатыяй».**

**(З пісьма В. П. Даркевіча, сына Пятра Даркевіча, доктара гістарычных навук. г. Масква).**

Хрыстафор ДАРКЕВІЧ.

Пётр ДАРКЕВІЧ.

**«Даркевіч Хрыстафор Яўгенавіч нарадзіўся ў 1900 г. у в. Міхалева Смаленскай губерні. У акадэміі мастацтваў у Ленінградзе яго настаўнікамі былі мастакі А. Рылоў і Г. Савіцкі. Пасля вучобы жыў і працаваў у Віцебску. Удзельнічаў у выстаўках з 1932 года. Сярод яго работ: «Дэманстрацыя», «Саўгас «Сасноўка», партрэты А. Пушкіна, М. Горкага, Я. Купалы, А. Александровіча. Выканаў фрэскі на будынку вакзала станцыі Сіроціна».**

**(З бібліяграфічнага даведніка «Мастакі народаў СССР»).**

У даведніку «Мастакі народаў СССР» дадзеныя аб Даркевічу Пятру Яўгенавічу адсутнічаюць.

Мы стаім з Пятром Максавічам Явічам у старым віцебскім дворыку. У будынку, дзе размяшчалася мастацкае вучылішча, цяпер музычная школа.

...Вясенняя раніца. Цішыня. І не верыцца, што паўстагоддзя назад усё тут поўнілася шумам і мітуснёй, гутаркамі і спрэчкамі аб творчасці, аб усім, чым жыла ў тыя дні ўвайшоўшая ў гісторыю культуры віцебская мастацкая школа, яе ў будучым вядомыя дзеячы беларускага мастацтва, а пакуль студэнты і маладыя выкладчыкі.

На старой сцяне — чатыры фрэскі.

«Гэта работа зроблена студэнтамі.

Я помню, як яны выконвалі яе пад кіраўніцтвам свайго настаўніка Хрыстафора Даркевіча. Тут жа побач быў і Пётр Даркевіч. Гэта ён падказаў, якімі павінны быць верхнія фрэскі — дзве мужчынскія галавы, вобразы Мікеланджэла.

Ну, а крыху ніжэй — студэнты адлюстравалі партрэты саміх мастакоў, нашых настаўнікаў Хрыстафора і Пятра Даркевічаў...» — расказвае П. М. Явіч.

Пятру Явічу нядаўна споўнілася 70 год. І на юбілейнай выстаўцы ён цёпла і сардэчна гаварыў аб сваіх настаўніках, успомніў добрым словам братоў Даркевічаў.

Мастак лічыць, што трэба спяшацца, каб аднавіць фрэскі на старым будынку. Ён гатовы сам узяцца за гэту справу. Патрэбна толькі зацікаўленасць аддзела культуры і таварыства па ахове помнікаў. Ды яшчэ дапамога цяперашніх студэнтаў мастацка-графічнага факультэта, нашчадкаў усяго лепшага ў творчасці слаўных папярэднікаў віцебскай школы.

А пакуль па памяці Пётр Явіч выканаў два малюнкі — на іх браты Хрыстафор і Пётр Даркевічы. Такімі помніць іх мастак, такімі іх убачыў я. Такімі няхай прыйдуць яны да нашчадкаў, наведвальнікаў музея віцебскай мастацкай школы, які рана або позна адкрыецца ў старажытным горадзе.

**Давід СІМАНОВІЧ.**

Малюнкі Пятра ЯВІЧА.

г. Віцебск.

*Інтэрв'ю ў нумар*

# НОВАЕ АБ'ЯДНАННЕ ЛІТАРАТАРАЎ

**Як паведаміў усесаюзны друк, пры Ваенным выдавецтве Міністэрства абароны СССР створана ваенна-патрыятычнае літаратурнае аб'яднанне «Отечество». Наш карэспандэнт меў гутарку з грамадскім прадстаўніком аб'яднання «Отечество» ў Мінску, пісьменнікам Анатолем СУЛЬЯНАВЫМ.**

— Анатоль Канстанцінавіч, стварэнне падобнага аб'яднання — хутчэй за ўсё пацвярджэнне таго, што ўзрастае цікавасць да ваенна-патрыятычнай літаратуры, а калі глядзець шырэй — набывае сапраўдную вагу праўдзівае, дасканалае мастацкае слова пра ўсё, што тычыцца багатай гісторыі Радзімы, у тым ліку і такіх момантаў у жыцці грамадства, калі неабходна было змагацца з чужынцамі?

**— Сапраўды, у апошні час пачало выдавацца больш кніг па гісторыі народаў нашай краіны, твораў, якія адлюстроўваюць гераічнае мінулае. І ўсё ж, будзем шчырымі, падобных выданняў не хапае. Асабліва напісаных на высокім ідэйна-мастацкім узроўні, пазбаўленых суб'ектывізму і павярхоўнасці. У мэтах найбольш аператыўнага выдання ваенна-патрыятычнай літаратуры і прынята рашэнне стварыць пры Ваенным выдавецтве Міністэрства абароны СССР літаратурнае аб'яднанне «Отечество». У свой час Ваенвыд выпускаў зборнікі серыі «Ваенныя прыгоды». Цяпер мяркуецца крыху змяніць іх тэматыку, зрабіць большы ўхіл у бок гістарычнасці, адлюстроўваць вядомыя і малавядомыя падзеі мінулага народаў Савецкага Саюза. У гэтых зборніках будуць паказаны і многія бітвы, што засведчылі вялікую мужнасць і гераізм народа. Мяркуецца таксама расказваць пра асобных людзей, што праславіліся сваімі ратнымі подзвігамі. Выдавецтва зацікавяць і творы, аўтары якіх паспрабуюць па-свойму расказаць пра наведванне асобных экзатычных куткоў зямнога шара, узновяць падарожжы, у час якіх не абыходзілася і без пэўнай рызыкі. А возьмем з'явы прыроды, пра якія пакуль што вельмі цяжка нешта дакладна сказаць. Чаму б не надрукаваць і такія матэрыялы?**

— Арыенціроўка на прыгоды?

**— А чаму і не?! Тут для кожнага, хто па-сапраўднаму любіць гісторыю, шырокае поле дзейнасці. На вялікі жаль, мы пакуль што вельмі мала ведаем пра жыццё правіцеляў у розныя часы. Дварцовыя ж перавароты — таксама магчымасць пабольш даведацца пра мінулае. Нішто само па сабе не бывае і нішто само па сабе не ўзнікае. За тымі ж дварцовымі інтрыгамі стаялі канкрэтныя людзі. Не сакрэт, што ў прыгодніцкім жанры можна гаварыць пра самыя сур'ёзныя справы. Ды і навошта тут далёка за прыкладамі хадзіць. Гэта вельмі добра даказаў сваёй творчасцю наш незабыўны Уладзімір Караткевіч.**

— Відаць, неабходны і творы, якія б праўдзіва расказвалі пра мірныя будні Узброеных Сіл СССР, тым больш, што сёння...

**— Сёння шмат пішацца пра службу ў арміі, але ў пераважнай большасці яна падаецца аднабакова, ледзь не ў рэзка адмоўным аспекце. Зусім не таму, што значную частку свайго жыцця аддаў арміі, а ў абарону, як кажуць, справядлівасці, хачу сказаць, што і тут, як звычайна, мы кідаемся ў крайнасці. Канечне ж, ёсць і так званая дзедаўшчына, і нестатутныя ўзаемаадносіны, але ёсць жа і паўсядзённы гераізм абаронцаў Радзімы.**

— Хто можа стаць членам літаратурнага аб'яднання «Отечество»?

**— Кожны, хто можа ярка, вобразна, у займальнай форме расказваць аб падзеях мінулага і сённяшнім дні, паважае і любіць Узброеныя Сілы СССР. Перавага пры адборы рукапісаў, безумоўна, будзе аддавацца маладым аўтарам. Канечне, калі яны валодаюць адпаведным талентам. Што тычыцца прызнаных майстроў слова, дык для іх падрыхтавана серыя «Залатая паліца прыгод».**

— Звычайна кожнае творчае аб'яднанне мае свой статут...

**— Аб'яднанне «Отечество» — грамадская арганізацыя літаратараў, якія прысвяцілі сваю творчасць патрыятычнай тэме ў вострасюжэтным, прыгодніцкім жанры. Статут аб'яднання ўхвалены міністрам абароны СССР, зацверджаны кіраўніцтвам Ваеннага выдавецтва. Мяркуецца, што «Отечество» наладзіць шырокую грамадскую і дабрачынную дзейнасць, каб папоўніць фонд Цэнтра рэабілітацыі воінаў-інтэрнацыяналістаў. Будуць ствараца патрыятычныя марскія і авіяцыйныя клубы для падлеткаў і юнацтва. Аб'яднанне возьме шэфства над суворaўскімі і нахімаўскімі вучылішчамі, СПТВ, школамі, прыме ўдзел у ваенна-патрыятычных акцыях ЦК ВЛКСМ і ДТСААФ СССР.**

— А як стаць членам «Отечества»?

**— Для ўступлення ў літаратурнае аб'яднанне «Отечество» неабходна прадставіць заяву з рукапісам, два фотаздымкі, кароткую аўтабіяграфію з указаннем сацыяльнага становішча, літаратурных спраў, творчых планаў, дамашняга і службовага тэлефонаў і адраса.**

**Адрас ВПЛА «Отечество»: 103160, Масква, К-160, Ваенвыд для ВПЛА «Отечество». Тэлефон: 195-20-24. Можна звяртацца і да мяне, як да грамадскага прадстаўніка ў Мінску, тэлефон — 36-51-46.**

**Гутарыў Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

## ВЛАСТ
## (Вацлаў ЛАСТОЎСКІ)



## Нашы публікацыі

**Усё новыя і новыя імёны, творы, факты вяртаюцца ў літаратуру. Зрэшты, з'явіўшыся аднойчы, яны і не знікалі, толькі пра іх не дазвалялася гаварыць, а калі і гаварылася, дык не тое, чаго яны варты.**

**Дайшла чарга і да Вацлава Ластоўскага... Хто ён, кім быў на самай справе?**

**Нарадзіўся Вацлаў Юстынавіч Ластоўскі 20 кастрычніка 1883 года ў засценку Калеснікі на Дзісеншчыне ў сям'і дробнага арандатара-беззямельніка. Скончыў народную школу ў Пагосце, але, будучы ад прыроды надзеленым вялікімі здольнасцямі, самавукам набыў немалыя веды. Спрабаваў здаваць экзамены на атэстат сталасці, нейкі час слухаў «зайцам» лекцыі ў Пецярбургскім універсітэце (1904—1905 гг.).**

**Сваё жыццё ён звязаў з нацыянальна-вызваленчым рухам, рабіў усё, што было ў яго змозе, каб беларускі народ атрымаў дзяржаўнасць. Працаваў сакратаром рэдакцыі «Нашай Нівы» (1909—1914 гг.), рэдагаваў газету «Гоман» (1916—1917 гг.). Прымаў актыўны ўдзел і ў рабоце беларускіх партый—Беларускай сацыялістычнай грамады, членам якой быў з 1906 па 1917 год, партыі беларускіх эсэраў (з 1919 г.). З снежня 1919 года ўзначальваў раду міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР). У 1923 г. выйшаў з урада БНР, заняўся навуковай і літаратурнай дзейнасцю. Выдаў, будучы ў эміграцыі ў Коўне, «Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік» (1924 г.), «Гісторыю беларускай (крыўскай) кнігі» (1926 г.). Быў фактычна рэдактарам часопіса «Крывіч» (1923—1927 гг.). Яшчэ раней, у 1910 годзе, у Вільні выдаў «Кароткую гісторыю Беларусі» — першую гісторыю Беларусі, напісаную на беларускай мове,—і зборнік сваіх фальклорных запісаў «Прыпеўкі (Песні-песень)» (Вільня, 1918 г.). Складаў падручнікі для беларускіх школ («Першая чытанка», «Незабудка», «Сейбіт», «Хрэстаматыя беларускай літаратуры», «Што трэба ведаць кажнаму беларусу» і іншыя).**

**Пабываўшы ў 1926 г. у Мінску на Акадэмічнай канферэнцыі па пытаннях мовы, В. Ластоўскі пісаў потым у сваіх уражаннях з паездкі ў Савецкую Беларусь: «...адроджаны беларускі народ штораз больш выказуе волі да народнай еднасці ў сваей уласнай дзяржаве. І хоць яшчэ многа можна пажадаць, што да абойму дзяржаўных правоў сучаснай Радзянскай Беларусі, у якой задалёка пасунута Сувязная цэнтралізацыя, залішне вялікая пасляваенная руіна, засвежы яшчэ ўплыў русіфікацыі, але ў даны гістарычны момант шансы аб'яднання беларускіх зямель на старане Радзянскай Беларусі. Пагромамі беларускага руху, праследваннямі і здзекамі Варшава не можа адвярнуць вачэй заходніх беларусаў ад Менска, каторы мае ўжо асновы для незалежнага народна - дзяржаўнага жыцця, мае свабоду і матэрыяльныя засабы развіваць сваю культуру на сваей уласнай народнай астоі». («Крывіч», № 12, 1927 г.). Таму ён і прызнаў Савецкую ўладу, павініўся перад ёю за свае ранейшыя памылкі, атрымаў дараванне і вярнуўся ў Савецкую Беларусь як паўнапраўны яе грамадзянін. Працаваў дырэктарам Беларускага дзяржаўнага музея (1927 г.), неадменным сакратаром Беларускай Акадэміі навук (1928—1930 гг.). У 1928 годзе В. Ластоўскі быў выбраны акадэмікам БАН.**

**У 1930 годзе ён разам з іншымі вучонымі і пісьменнікамі быў арыштаваны і без суда высланы за межы БССР. Загінуў пасля паўторнага арышту ў 1938 годзе.**

**У чэрвені 1988 г. з-за адсутнасці складу злачынства крымінальная справа ў адносінах Ластоўскага В. Ю. была спынена.**

**Як літаратар Вацлаў Ластоўскі выступаў пад сваім сапраўдным прозвішчам, а таксама пад псеўданімамі Власт, В. Л-скі, В. Л., Ю. Верашчака і інш. Пісаў вершы, апавяданні, аповесці, нарысы, крытычныя артыкулы. Першы, хто заўважыў і высока ацаніў талент В. Ластоўскага, быў М. Багдановіч. У аглядзе беларускай «краснай пісьменнасці» за 1911—1913 гг. пад назваю «Тры гады», які быў змешчаны ў «Калядньй пісанцы» 1913 г., ён гаварыў: «Власт надрукаваў усяго 3—4 рэчы, але кожную можна ўзяць за прыклад, як трэба пісаць. Асабліва хораша напісаны апавяданні «Сож і Няпро»,—вельмі прыгожая казка-легенда (гэтага дасюль яшчэ не было, ды і наогул спатыкаецца не часта), і, далей,«Дзень рожавай кветкі», што нагадвае лепшыя з апавяданняў, здабыўшых усясветную славу дацкаму пісьменніку Андэрсану».**

**Літаратурна-мастацкія творы В. Ластоўскага глыбока звязаны з фальклорам, з мінулым народа, яго гісторыяй. Арыгінальнасць і непаўторнасць яго таленту яскрава праявіліся ў навукова-фантастычнай аповесці «Лабірынты» — адной з самых дасканалых і лепшых у беларускай прозе.**

**Вельмі каштоўнымі з'яўляюцца і яго ўспаміны пра Максіма Багдановіча. Пераацаніць гэтую працу сёння, напярэдадні стогадовага юбілею выдатнага паэта-класіка, проста немагчыма, асабліва калі ўлічыць, як мала наша літаратура мае звестак і ўражанняў непасрэдна ад сустрэч і размоў з паэтам—літаральна лічаныя адзінкі. Каштоўнасць гэтай працы яшчэ і ў тым, што на яе старонках паўстае жывы паэт з яго думкамі і поглядамі на многія з'явы жыцця і літаратуры, малююцца і тыя ўмовы, у якіх ён жыў, друкаваў свае *творы, побыт і ўзаемаадносіны ў самой рэдакцыі* «Нашай Нівы».**

**Хочацца спадзявацца, што ўслед за першай невялікай публікацыяй з'явяцца ў друку новыя публікацыі, якія імя В. Ластоўскага паставяць на належнае яму месца ў нашай літаратуры і навуцы.**

**Барыс САЧАНКА.**

## На радуніцу

Над рэчкаю, паміж балот,
магільны груд зямлі;
валтоўкамі заве народ грудкі,
бо волатаў славуты род,
між бронзавых аздоб,
злажыў тут свой прысок.
Вясной,
спраўляючы дзядоў,
мы, жыхары дрыгвін,
спяшым яйко разбітае
ўкапаць
на прашчурных касцях.
А робім то на знак,
што ў нас плыве іх кроў,
што мы,—
даўлетных волатаў,
ў ярме змалеўшыя, —
нашчадкі...

[1923 г.]

●

Формаў трупехлых я вораг
дасконны,
сцежак стаптаных не зношу
ў тварэнні;
новым імкненням даць
новыя формы,
новыя словы і дум
выражэння
Стаўлю я мэтай.

[1923 г.]

## Сож і Дняпро

Сярод глухіх пушч, цёмных бораў, на прыгорку, сталі калісь старыя-прастарыя харомы вялікага валадара, сівавалосага старца *Рыдана*. З канца ў канец зямлі слыў Рыдан багаццем нялічаным, а над усе багацці славілася скрытая за дванаццаццю дзвярамі, дванаццаццю замкамі залатая Рыданава карона. Як адмыкалі замкі, адчынялі дзверы і выносілі тую карону на свет, то, калі на свеце была ноч, яна днём станавілася, а калі была зіма, то перамянялася ў лета; — так зіхацелі дарагія каменні на Рыданавай залатой кароне.

Завідавалі суседнія валадары і князі гэтай кароне і пастанавілі дабыць яе ў Рыдана. Сазвалі варажбітаў і знахароў і загадалі ім прыдумаць спосаб, каб украсці карону з Рыданавага скарбца. Варажбіты і знахары думалі тры дні і тры ночы і прыдумалі разрыў-траву, каторай, калі дакрануцца замкоў, то самі адчыняюц-

# Мае ўспаміны аб М. Багдановічу

Паяўленне творчасці Максіма Багдановіча ў крыўскай (беларускай) мове цесна звязана з рэдакцыяй тыднёвай беларускай часопісі «Наша ніва», якая выходзіла ў Вільні да восені 1914 года.

Дзеля гэтага, для лепшага выяснення некаторых момантаў з маіх успамінаў, лічу патрэбным найперш кароткімі рысамі ўвесці чытача ў круг унутранага жыцця рэдакцыі і парушаўшых яе сіл і імкненняў.

1909 год быў асабліва трудным у развіцці крывічанскага (беларускага) адраджэння. Рэвалюцыйны ўздойм 1905—1906 гг. астаўся недзе далёка па-за сінімі лясамі. Маладая сялянская дэмакратыя, за годы наступіўшай пасля ўздойму рэакцыі, была разбіта. Адны сядзелі ў турмах (Я. Колас, А. Бурбіс і інш.), другія былі сасланы (Прушынскі, Лёсік і іншыя), трэція дапасоўвалі свае сілы да варункаў паднявольнага жыцця, чацвертыя адкрыта пайшлі ў варожы адраджэнню абоз, далучаючыся да расійскай і польскай рэакцыі.

З сіл, якія дзеялі ў 1905 годзе, пры крывічанскім (беларускім) адраджэнні асталіся нячысленныя адзінкі, дый тыя неарганізаваныя, з рознароднымі імкненнямі і разуменнем ролі беларускага (крыўскага) адраджэння ў жыцці народа і для яго будучыні.

Склад рэдакцыі «Наша ніва» ў 1909 годзе быў гэткі: А. Уласаў, браты Іван і Антон Луцкевічы, Ядвігін Ш. (Лявіцкі), Янка Купала, В. Ластоўскі і, дарыўкамі — Язэп Манькоўскі (Янка Окліч) ды Чыж (Альгерд Бульба), а напачатку лета 1909 г. прыбыў яшчэ С. Палуян.

Гэты склад рэдакцыі ў 1909 і 1910 гг. рэзка распадаўся на дзве групы, каторыя былі дамэтна ахарактарызаваны свежа прыехаўшым з Кіева С. Палуянам «верхняй» і «ніжняй» паламі. Да «верхняй» палаты належалі: А. Уласаў, браты Луцкевічы і, калі бывалі, — Чыж і Манькоўскі. «Ніжняя» палата складалася з Ядвігіна Ш., Купалы, Ластоўскага і Палуяна, а ў канцы 1909 г. да яе далучыўся мастак-маляр Я. Драздовіч. Рэдакцыя ў цэлым ніколі не сыходзілася. На Віленскай № 20, дзе памяшчалася рэдакцыя, магазын ад вуліцы займала «ніжняя» палата, святліцу ад падворку мела ў сваім выключным панаванні «верхняя» палата. Паміж сабою працаўнікі гэтых дзвюх «палат» рэдка сустракаліся; у тэхнічных справах рэдакцыі зносіліся праз замкнутыя на ключ дзверы па шчэлцы над парогам. Праз гэту шчэлку перасылаліся туды і назад рэдакцыйныя матэрыялы і карэспандэнцыя.

За зачыненымі і завешанымі цяжкай драпэрыяй дзвярыма ў гасподзе «верхняй» палаты вяршыліся «высокія» палітычныя матэрыі. Адгалоскі шырокіх планаў «верхняй» палаты даходзілі ў «ніжнюю» з трэціх і пятых рук, часта ў хаатычнай форме. Адно толькі было пэўным, што там ішла буйная ігра са значнымі стаўкамі з боку уніяцкай іерархіі і некаторых другіх, сільных у тыя часы, палітычных краёвых чыннікаў. Ад вуліцы ж у «ніжнюю» палату ішла публіка «чорная» і «шэрая». Ясна, што пры такім падзеле, «верхняя» і «ніжняя» палаты думалі па рознаму, жылі рознымі ідэаламі, насілі ў сабе зародкі розных кірункаў нацыянальнай мыслі.

На пачатку 1909 г. Максім Багдановіч прыслаў некалькі лісцікаў сваіх вершаў, падпісаных поўным уласным прозвішчам і імем. Вершы для кожнага нумару «Нашай нівы» падбіраў Янка Купала, бо акром Я. Коласа, Купалы і яшчэ 2—3 паэтаў, 99% вершаў, надасланых у рэдакцыю, былі з дэфектамі. Павіннасцю Я. Купалы было папраўляць іх перад здачай у друк. Друкаваліся ж адзін-два вершы кожнага новага «паэты», каб заахвоціць яго да пісання. Былі ці не былі зроблены якія папраўкі ў вершах «Над магілай» і «Прыйдзе вясна», я не памятаю, можа памятае сам Я. Купала, але гэта былі адны з першых вершаў, і надрукаваныя пад праўдзівым прозвішчам і імем аўтара.

На пачатку траўня месяца таго ж года Максім Багдановіч зноў прыслаў у «Нашу ніву» маленькі сшыточак новых сваіх твораў, які абыймаў 8-9 вершаў. Нябожчык Ядвігін ахрысціў гэты сшыточак «дэкадэншчынай». Яго апінія падзялялася «вярхоўнай палатай». Іншага погляду трымалася аб новым пісьменніку «ніжняя» палата, а ў першы чарод Я. Купала, які інтуітыўна вычуў у гэтых першых паэтыцкіх спробах у Максіме Багдановічу сапраўднага мастака. Спамянуты сшытак вярнуўся з перагляду «верхняй палаты» ў «ніжнюю» перакрэслены сінім алаўком з надпісам рукой А. Уласава «В архів». Пад перакладам Н. Святагора «Дзве песні» быў надпіс рукой А. Луцкевіча «можо надруковаць пад псэўдонімам»: палітыка «верхняй» палаты строга прытрымлівалася лініі нераскрывання сваіх супрацоўнікаў, каб манаполь прадстаўніцтва руху быў выключна ў яе руках.

«Дзве песні» пайшлі ў друк з папраўкамі ў мове Я. Купалы, але з іншым подпісам: у карэктуры Ядвігін падпісаў верш прыдуманым ім для Максіма Багдановіча псеўданімам «Максім Крыніца».

Праз некалькі тыдняў пасля надрукавання верша «Дзве песні» Максім Багдановіч прыслаў яшчэ некалькі новых вершаў і ліст, у якім пратэставаў, што яго перарабілі ў «Максіма Крыніцу». Але вершы былі зноў «дэкадэнскія» і дзеля гэтага трапілі ў тую ж папку, дзе быў папярэдні сшыток з надпісам «В архів». Там яны *пралежалі* да канца жніўня, калі іх выцягнуў на свет С. Палуян, які, прачытаўшы вершы, з надзвычайным захапленнем стаў бараніць іх спярша перад Ядвігіным, а пасля перад «верхняй» палатай, з радоў якой за надрукаванне некаторых вершаў першы выказаўся Чыж, а пазней А. Луцкевіч. У выніку ў № 35—36 (падвойным) з перапраўкамі С. Палуяна пад праўдзівым ужо прозвішчам аўтара былі надрукаваны два вершыкі пад агульным агалоўкам «Лясун» (б. 516), у № 38 — «Край мой радзімы», у № 39 — «З песняў беларускага мужыка», далей у № 41 — два вершы з цыклу «Вадзянік», у № 42 — «На чужыне», у № 43 — «Пугач», у № 44 —пераклад з Гейнэ, у № 46 — павіншаванне «Нашай ніве», у № 47 — «Разрытая магіла», у № 50 — верш пасвячоны С-ну, № 51-52 — «Цемень».

Пасля надрукавання «Край мой радзімы» і вершаў з цыклу «Вадзянік» у рэдакцыйным складзе, акром Ядвігіна, які ўпорна казаў «а ўсё ж гэтыя вершы не для народу», усе аднагалосна выражалі прызнанне пісьменніцкага таленту М. Багдановіча. С. Палуян завязаў з ім частую перапіску на нацыянальна-літаратурныя тэмы. Пасля ж выезду С. Палуяна назад у Кіеў і яго трагічнай смерці перапіску з Багдановічам прадаўжаў аўтар гэтага нарысу.

Ядвігін меў рацыю, калі казаў, што вершы М. Багдановіча будуць незразумелыя чытачу «Нашай нівы». Пераканацца ў гэтым мне давялося летам 1910 года, калі з Менска, пачародна, прыязджалі ў Вільню Альберт Паўловіч і Галубок. Абодва паэты нападалі на безсмястоўнасць вершаў М. Багдановіча, а асабліва—А. Паўловіч, які злосна выкпіў, перафразоўваючы паасобныя звароты вершаў М. Багдановіча, каторага стала называў не па прозвішчу, а «ваш Лесавік». Усе гэтыя нападкі прыходзілася выслухаць мне, як сакратару рэдакцыі, прычым ніякія аргументы ў абарону М. Багдановіча не мелі ўплыву. Вуснамі супрацоўнікаў Багдановіча гаварыла іх абражаная аўтарская амбіцыя, што ў нашай мініяцюрнай часопісі, замест іх твораў, займаецца месца пад вершы Багдановіча. Што нападкі з боку менчукоў былі няшчырымі, відаць з таго, што, у мэтах канкуравання з Багдановічам за месца ў часопісі, А. Паўловіч пачаў надсылаць замест сваіх вясёлых і дасціпных жартаў вершы на сур'ёзныя тэмы. Але з А. Паўловіча лепшы гумарыст, як філосаф і эстэт, і таму не ўдалося яму выціснуць з «Нашай нівы» творчасці М. Багдановіча, тым больш, што з кожнай новай прысылкай вершаў, у развіцці яго таленту адчуваўся значны поступ.

На вясну 1912 года М. Багдановіч пісаў у рэдакцыю «Нашай нівы», што ён хацеў бы ў гэтым годзе выкарыстаць свае канікулы на першую паездку на бацькаўшчыну і прабыць дзе-колечы на вёсцы, каб азнаёміцца з мовай і бытам таго народу, на служэнне якому хацеў пасвяціць свае сілы. Па нарадзе, якая адбылася паміж братамі Луцкевічамі і А. Уласавым, М. Багдановічу адпісаў А. Луцкевіч, запрашаючы на лета да свайго дзядзькі, дробнага шляхціца, які меў свой фальварак недзе між Вілейкай і Менскам.

У чэрвені месяцы прыехаў М. Багдановіч у Вільню. Пры першай сустрэчы з ім мне ўразіліся яго вочы з даволі праніклівым поглядам, але калі ён гаворачы запаляўся, вочы яго глядзелі не на зне, а ўнутр, быццам былі звернуты ў мозг.

Праездам у вёску М. Баг-

ца, ды сон-траву, зярняткамі каторай, калі пасыпаць, то ўсё наўкруг засынае. Прыдумаўшы гэта, паслалі зладзеяў красці залатую Рыданаву карону. Тыя, прыйшоўшы пад харомы, сыпанулі сон-зелле, і ўся варта паснула; крануліся разрыў-травой замкоў, і замкі паспадалі. Тады ўзялі яны залатую Рыданаву карону і пусціліся назад.

Устаў раніцай сівы Рыдан, падышоў да акна, ажно глядзь: усе варты покатам спяць, увесь народ у сне беспрабудным валяецца. І зразумеў старац адразу, што няма ў скарбцы яго залатой кароны. Падышоў ён тады да званара, ударыў раз, ударыў два, і разбудзіліся два Рыданавы сыны: Сож і Дняпро. Звярнуўся бацька да Дняпра і кажа: «Вазьмі, сынок, сталёвую зброю, каваны меч і бяжы садамі, лугамі аж да скалістых гор: мо дагоніш цікунцоў з каронай».

Схапіўся Дняпро і чым хутчэй пабег, а Сож астаўся пры бацьку. Сеў на залаты пасад стары Рыдан і кажа сыну:

— Прылажы, сынку, вуха да зямлі, паслухай, ці бяжыць Дняпро?

Прылажыў Сож вуха да зямлі і кажа:

— Бегма бяжыць і не стаміўся яшчэ.

І другі раз кажа бацька:

— Прылажы, сынку, вуха да зямлі, паслухай!

Прылажыў сын вуха да зямлі і кажа:

— Бяжыць, але цяжка дыхае — шум зямлёй ідзе.

І ўтрэцце сказаў бацька паслухаць сыну. Сын прылажыў вуха да зямлі і кажа:

— Гул зямлёй ідзе і крык вялікі.

Тады ўстаў Рыдан з пасаду і кажа:

— Бяжы ж ты, сынку, імхамі-балотамі на падмогу яму, бо сам адзін не праб'ецца ён праз скалістыя горы.

Пусціўся Сож імхамі, балотамі на падмогу брату, а стары, не даждаўшыся, з маркоты пачаў плакаць:

— Бадай вам, дзеткі мае, слязамі разліцца!

Ды ўлучыў ён такі мамент, што сапраўды разліліся слязамі браты і стары бацька: у рэкі ўсе тры змяніліся.

Дняпро плыве садамі ды лугамі, Сож імхамі ды балотамі, а Рыдан—куды вочы глядзяць. А з таго часу ўсе сілы ляснога краю плывуць у чужое мора і там прападаюць...

## Як Кузьма стрэльбу рабіў

Што наш брат вельмі вынослівы, цярплівы, — гэта ўсім вядома. Быў у нас Кузьма каваль і заманулася яму немагчымае: самому стрэльбу скаваць. Ад рана да вечара мяхі раздзьмухаў, зялеза каваў, рулькі вярцеў і ўсе няўдачы цярпліва выносіў тры гады, небарака. Усё ніяк яму не ўдавалася зварыць зялеза роўна на ўсёй рульцы. Што не ўдасца—ён нанова яе перакоўвае, псуе, мяркуе, лютуе, усё прыгаварваючы:

— Не-ткі даканаю я цябе, гадзіна!

І такі даканаў: рульку на чацвёрты год зварыў, абтачыў, што глядзець проста люба! Ложа дапрвіў, курак даставіў. Не стрэльба, а проста здзіўленне! Трэба ж здарэнне, вазьмі ды зламіся шрубочак пры курку! Тут Кузьме раптам усё сэрца ўспыхнула: усю крыўду ўспомніў сваю доўгалетнюю і з злосці вялікай стрэльбу паламаў, горан разваліў, мех парэзаў і кузьню падпаліў.

Не дарма ж кажуць:
— Беларус цярплівы: цярпіць, цярпіць, а ўрэшце, раптам, хапае сякеру і адразу — абухом па лбе валіць!

## Баяну

Мудрыя прытчы складаў і зычна пяяў ты, Баяне!

Пяяў яшчэ ўчора на вольных, крыўскіх абшарах, пад гукі вячоўнага звону...

Дагэтуль туляюцца рэхі тых песень, — далёка ад скрушань замковых: у полі, у ройстах, у кустах лазовых, што ніцма прыпалі да ролі...

Зычаць яны ў чашках струпехлых, што ў порубах храму Сафіі, у звоне вячорным, што з вежы, над целам чужога тутка Баболі, кліча на Ave Магіа...

У показках-казках, у сэрцах збалелых, у подумах-думках нявольнага люду, глыбока таёных у сэрцы...

Вольныя песні складаў ты, Баяне, і зычна пяяў яшчэ ўчора пра гордасць народу, пра чэсць крывічанскага роду.

[1926 г.]

## У час аблогі

На грудзе, акружаным глыбокаю вадой, я горад збудаваў.

Змацаваў яго дубоваю сцяной, байніцамі, на зводах мост уздоймны палажыў.

У клеці звёз усякага дабра: —калі б на грод аблога...

І вояў здрадных, лжывых, я разлічыў, каб з вернаю дружынай толькі дзяліць мой белы й чорны дзень...

І, от, нахлынуў вораг многі...

Ударыў я ў звон трывожны, Дзынеў патужна цяжкі спіж...

Аднак, на клік мой зоўны, ніхто ка мне не паспяшыў:

У горадзе маім—такім мацоўным—адзін я быў!...

[1926 г.]

## Падарожнік

Я клункі ўжо злажыў і сукатаю кульбою падпёршыся гляджу на раздарожы. Шляхі скрозь хомарам пакрыты... А ўкруг мяне стаяць старожы гатовыя вароты расчыніць, калі я мыта аплачу душы маёй аздобамі.

Панукаю вісіць штодзенны боль няўнімны... Ідзі квяліць дзіцятка ў кадыбцы. Ідзі сычыць змяюга падкалодна. Ах, як душы ад брамаў тых халодна!..

Магілішчы кругом... за кожнай брамаю капец... Калі ж канец трудлівай будзе падарожы?

[1926 г.]

---

дановіч прабыў двое содняў у Вільні. Абедзьве ночы начаваў у рэдакцыі «Нашай нівы», якая тады месцілася на Завальнай вуліцы № 7, у тым самым памяшчэнні, дзе цяпер Беларуская кнігарня. Абедзьве ночы я правёў разам з ім, і кожны раз гутаркі нашы зацягваліся ад змяркання да світання.

Багдановіч дзяліўся сваімі думкамі і з захапленнем пераймаў ад мяне мае ведамасці з беларускай (крыўскай) этнаграфіі і гісторыі, якія я пераказваў яму, як умеў, дэманструючы быўшыя пры рэдакцыі калекцыі Івана Луцкевіча. Асабліва глыбокае ўражанне на Багдановіча зрабілі рукапісы старасвецкіх славянскіх кніг і дакументаў, а так жа слуцкія паясы, якія ён па некалькі разоў пераглядаў.

— Гэта ёсць фундамент нашага адраджэння! Гэта і за тысячу гадоў будзе сведчыць аб нас! — казаў М. Багдановіч аб помніках нашай старасвецкай культуры.

Мову М. Багдановіч знаў яшчэ дрэнна і гаворачы, збіваўся на маскоўшчыну, але чутка ўлаўліваў дысанансы, спыняўся і перапытваў: «як трэба сказаць правільна», «прашу папраўце мяне».

М. Багдановіч прыехаў у Вільню ўжо як актыўны і свядомы працаўнік беларускага (крыўскага) адраджэння, глыбей сягаючы думкай у будучыню нашага народу, чым мы, працаўнікі, згрупаваныя ў цэнтры. Гэтыя яго думкі аб адраджэнні і былі галоўнай тэмай нашых начных бясёд.

Мыслі яго былі больш-менш гэткія. Адзіная аснова нашага адраджэння — гэта сялянства. Усё, што па-за сялянствам,— чужое і варожае адраджэнню. Мозгам кожнай нацыі ёсць яго інтэлігенцыя, —і, вось, першым і найважнейшым нашым заданнем павінна быць узгадаванне інтэлігенцыі, выведзенай з сялянскіх мас. М. Багдановіч верыў у інтэлект. Ён з запалам мроіў аб тым, каб з беларускай (крыўскай) інтэлігенцыі ўзгадаваць сапраўднага генія слова, які б паказаў свайму народу не толькі красу роднай мовы, але даў бы творы з агульна людскімі цэннасцямі, каб знанне творчасці нашага генія было абавязковым для кожнага культурнага чалавека ўсяго свету. Інтэлігенцыя з народа і сама ў сабе народная, каторая будзе ў сябе ў сям'і гаварыць роднай мовай, будзе вучыць сваіх дзяцей дома спярша ў роднай мове, раней чым пасляць іх у чужую школу, — навучыць народ адносіцца з пашанай да яго пагарджанай усімі мовы, геніі ж слова павінны ўвекавечыць нашае нацыянальнае імя і паставіць яго нараўне з усімі іншымі культурнымі народамі свету.

Пераходзячы да тагачаснай беларускай (крыўскай) пісьменнасці, М. Багдановіч казаў, што, не глядзя на ўсю яе беднасць, яна мае ў сабе зародкі новых дум, новых цэннасцяў. Край беларускі—лясісты і балоцісты. Вось нам і трэба стварыць паэзію лесу, паэзію дрыгвы. Украінская стыхія — стэп, у нас стыхія — лес і балота. Тут ёсць свая адменная краса, адменная рытміка, адменны чар. Трэба іх падгледзець, знайсці і вынесці на шырокі свет...

Прабыўшы, здаецца, месяц на вёсцы, М. Багдановіч вярнуўся назад праз Вільню.

Зноў панавіліся паміж намі гутаркі на тыя ж тэмы. Ён цяпер яшчэ пэўней глядзеў у будучыню. Між іншым, прывёз з сабой праект ацэны літаратурных твораў, прыдуманы ім у часе адпачынку. Ён шукаў матэматычна правільнага і вернага спосабу ацэны гэтых твораў і прыйшоў да вываду, што такі спосаб можна знайсці, калі разлажыць твор на паасобныя абразы, звароты і словы. Адны абразы і звароты будуць належаць да катэгорыі збітых, выцертых ад доўгага ўжытку, як хадзячая разменная манета, другія будуць саўсім арыгінальнымі, не ўзятымі скульсці, не запазычанымі ад другіх, а створаныя самім пісьменнікам. Гэтая арыгінальнасць і становіць самае цэннае ў творчасці аўтара. Раўняючы творчасць двух аўтараў, трэба падлічыць суму створаных ім абразоў, зваротаў і думак, кожнага ў аддзельнасці, — і цыфравая разніца пакажа стасункову вышшасць або нізшасць аднаго і другога аўтара. Пазней М. Багдановіч уносіў карэктывы да гэтых сваіх думак: ён вымагаў не толькі арыгінальнасці, але і апрацавання арыгінальнага, шліфоўкі, што выказаў у сваім апавяданні аб Іконніку і Залатару.

На вёсцы М. Багдановіч не марнаваў часу. Ён напісаў там цыкл вершаў «Старая Беларусь», у якіх адбіліся яго настроі з пабыцця ў рэдакцыі «Нашай нівы» і цешу сябе,—часцю мае з ім начныя бясёды, акром таго — нізку вершаў «Места» і, урэшце, —«У вёсцы» і «Вераніка».

За некалькі месяцаў пасля выезду з Вільні М. Багдановіч надаслаў ў рэдакцыю «Нашай нівы» рукапіс, у якім былі сабраны яго вершы, як некаторыя з раней друкаваных у «Нашай ніве», так і нанова ім напісаныя, пад агалоўкам «Кніжка выбраных вершаў», з просьбай выпусціць асобнай кніжачкай. Рукапіс гэты пралежаў у рэдакцыі больш паўгода, бо не было грошы каб надрукаваць яго. І толькі ў 1913 годзе былі дабыты грошы на надрукаванне рукапісу. Здарылася гэта такім парадкам. Мая швагерка, літоўская пісьменніца Пеледа (Lazdynu Peleda) прывязла мне з Кейдан старое антыпедзіум з гербам «Равіч». Гэтае антыпедзіум прадаў Іван Луцкевіч нейкаму памешчыку, каторы пячатаўся гербам «Равіч» (дзева едзе на мядзведзю), за трыста рублёў. 150 рублёў з гэтых грошы пайшло на аплату друкарні за друкаванне «Нашай нівы», а другіх 150 руб. прызначаны на выданне вершаў М. Багдановіча. Вершы былі здадзены ў друкарню. У часе набору іх, перад надрукаваннем першага аркуша [...] дасталі яшчэ нейкую суму грошай ад княгіні Магдалены Радзівіл на выданне беларускіх кніжак. Пастаноўлена было паказаць спраўнасць перад княгіняй, і дзеля гэтага на агалоўнай балоне памешчаны быў знак «лебедзь», што мела азначаць герб Завішаў (Магдалена Радзівіл з дому Завішанка). Рысунак на акладку даў я са свайго сабрання. Гэты рысунак у 1905 годзе зрабіў адзін з вучняў (не памятаю яго прозвішча) Штыгліцаўскай школы. Рысунак напамінае крыху вянок, дзеля гэтага я і пастанавіў, карыстаючыся правамі выдаўца, надпісаць на кніжцы да аўтарскага яшчэ і свой агаловак «Вянок». Выходзіла нязгорш: «Вянок, кніжка выбраных вершаў». А каб апраўдацца перад чытачамі, чаму названа кніжка «Вянком», я на першым, пасля агалоўку, лісце памясціў раз'ясненне: «Вянок на магілу С. А. Палуяна (+8 красавіка 1910 г.)». Зрабіў я гэта без ведама аўтара, але асноўваючыся на яго сардэчным адношанні да нябожчыка Палуяна. Між іншым, калі кніжка выйшла, М. Багдановіч быў вельмі здаволены з майго памыслу, што выразіў у форме падзякі вершам, які павінен быць у маіх архівах. Але, прыняўшы чула агаловак, М. Багдановіч у даўжэзным лісце выказваў мне нездаволенне, што ў кніжцы прайшлі праз недагляд карэктуры даволі чысленныя памылкі, а галоўная з іх — у вершы «Вераніка». Пры ламанні верша пераблытаны парадак яго: пасля пятага шасціверша (на 11 бал.) 9,10 і 11-е шасцівершы, месца якім павінна быць на 113 балоне, пасля 8-га шасціверша.

Віна была мая, але я не чуўся вінаватым, што і тлумачыў аўтару ў сваім лісце. Аднак часова астуда ў нашых стасунках была даволі хутка згладжана. У нас з М. Багдановічам нанова завязалася перапіска, якая цягнулася да лета 1914 года.

Вось пакаротцы галоўнейшае з маіх стасункаў з Максімам Багдановічам. Яго перапіска маецца ў мяне на схове ў глухой правінцыі пад польскай акупацыяй. З часам, калі я дабуду яе, здужаю асобныя моманты гэтага нарысу шырэй асвятліць фактычным матэрыялам.

[1926 г.]

Публікацыя Б. САЧАНКІ.

---

# Аляксандр ГУТКОВІЧ



На 69-м годзе жыцця памёр драматург, рэжысёр, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР, персанальны пенсіянер рэспубліканскага значэння Аляксандр Залманавіч Гутковіч.

Аляксандр Гутковіч нарадзіўся 20 снежня 1920 г. у в. Аснеры Бешанковіцкага раёна Віцебскай вобласці. Працаваў у Вялікім драматычным тэатры імя М. Горкага ў Ленінградзе, вучыўся на рэжысёрскім факультэце Ленінградскага тэатральнага інстытута. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. У пасляваенны час вучыўся на акцёрскім факультэце Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута, працаваў акцёрам Беларускага дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа, педагогам Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача, рэжысёрам Дзяржтэлерадыё БССР.

Літаратурнай працай Аляксандр Гутковіч пачаў займацца з 1954 года. Пры яго ўдзеле напісаны п'есы «Праўда і шчасце», «Справа яе жыцця», «Андрэй Лабанаў», «Юныя мсціўцы» і іншыя. Аўтар сцэнарыяў тэлефільмаў «Уся каралеўская раць», «Атланты і карыятыды», тэлеспектакляў «Калі зліваюцца рэкі», «Трывожнае шчасце», «Сцяг брыгады». За пастаноўку спектакля «Людзі на балоце» ў 1966 годзе яму прысуджана Дзяржаўная прэмія БССР.

Аляксандр Залманавіч Гутковіч узнагароджаны ордэнамі Айчыннай вайны II ступені, Чырвонай Зоркі, медалямі.

Вобраз пісьменніка-камуніста Аляксандра Залманавіча Гутковіча назаўсёды захаваецца ў памяці тых, хто яго ведаў.

САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР
ДЗЯРЖТЭЛЕРАДЫЁ БССР

# ПАМЯЦІ СЯБРА

Памёр Арсеній Георгіевіч Астроўскі — вялікі друг беларускай літаратуры, яе актыўны прапагандыст. Арсеній Георгіевіч стаяў ля вытокаў дружбы паміж ленінградскімі і беларускімі пісьменнікамі, закладваў яе традыцыі. Да беларускай літаратуры ён далучыўся ў 1947 годзе, калі пераклаў апавяданні Янкі Брыля і Івана Шамякіна. Дзякуючы яго ініцыятыве і клопатам, у Ленінградзе выйшлі такія кнігі, як «Беларускае апавяданне», «Беларуская аповесць». Апошнія гады жыцця ён працаваў над перакладамі кнігі паэзіі Васіля Віткі.

Майстар мастацкага перакладу, ён унёс вялікі ўклад у развіццё беларуска-рускіх літаратурных сувязей, пераклаў празаічныя і паэтычныя творы дзесяткаў беларускіх аўтараў. Для яго творчай працы быў характэрны высокі прафесійны ўзровень, тонкае пранікненне ў сутнасць арыгінала твора, глыбокае адчуванне нашай мовы, стыхіі нацыянальнага жыцця.

Ён любіў і цаніў нашу літаратуру, культуру, нашу Беларусь. У яго тут было шмат сяброў. І да самай смерці трывожыўся, каб не парываліся беларуска-ленінградскія творчыя кантакты, каб мацнелі нашы дружба і супрацоўніцтва.

Мы любілі яго, цудоўнага чалавека, сапраўднага рускага інтэлігента, вернага, добрага сябра.

Светлая памяць аб Арсеніі Георгіевічу Астроўскім назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах, у памяці яго шматлікіх беларускіх сяброў.

Максім ТАНК, Янка БРЫЛЬ, Ніл ГІЛЕВІЧ, Іван ШАМЯКІН, Васіль ВІТКА, Анатоль КУДРАВЕЦ, Алесь ЖУК, Віктар КАРАМАЗАЎ, Янка СІПАКОЎ, Аляксей ГАРДЗІЦКІ.

**ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**

**Засталіся лічаныя дні да канца падпіскі на 1990 год.**

***Выпісвайце і чытайце «ЛіМ»—***

**грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі штотыднёвік,**

**выданне творчай і навуковай інтэлігенцыі рэспублікі, настаўніцтва і сацыяльна актыўнай моладзі.**

***«ЛіМ»— газета ўсіх,***

**каму неабыякавы лёс**

перабудовы, дэмакратычнага абнаўлення грамадства, нацыянальна-культурнага адраджэння.

***«ЛіМ»— газета ўсіх,***

**хто за галоснасць, плюралізм думак, прынцыповае вырашэнне надзённых праблем жыцця.**

# ХТО І ЯК НАС ЧЫТАЕ

□

**Добры дзень,** лімаўцы! *Піша вам* рабочы завода «Транзістар». Мне сорак год. Падпісчыкам вашай газеты стаў два месяцы назад (вельмі шкадую, што не падпісваўся раней), але думаю, што застануся ім надоўга. Павага і падзяка вам за прынцыповасць, кампетэнтнасць, неаднабаковасць у падачы разнастайных тэм і праблем *нашага* жыцця. Вы мне адкрылі вочы на пытанні нацыянальнай самасвядомасці, на стан роднай мовы і культуры.

**М. КАЛЯСЕНЬ.**
г. Мінск.

□

**Да вас звяртаюцца** члены КПСС, ветэраны працы, пенсіянеры з Віцебска. Нам вельмі падабаецца «ЛіМ». Перш за ўсё, відаць, за аб'ектыўнасць. Мы, вашы пастаянныя чытачы, заўсёды з нецярпеннем чакаем суботы, калі прыходзіць чарговы нумар. У гэтым годзе мы нават сваіх знаёмых сагітавалі выпісаць «ЛіМ»...

**І. ГОЛУБ,**
**П. КАМОСКА.**
г. Віцебск.

□

**Падпісаўся на «ЛіМ»,** але хацеў бы падзяліцца сваімі заўвагамі і сумненнямі. Падняўшыся на грэбень духоўнага руху ў Беларусі, «ЛіМ», памойму, — ці то ад самазаспакоенасці, ці то ад «указуючага пярста зверху» — зніжае часам патрабавальнасць да сябе, змяшчае неабавязковыя матэрыялы. Няма нумара, каб не адкрыўся мне новы, цікавы факт, новы погляд на падзеі. Аднак часта ад знаёмства з нумарам застаецца адчуванне недагаворанасці, таптання на адных і тых жа тэмах без іх паглыблення і развіцця. Або ўзяць некаторыя рэплікі з прычыны, уздагон...

Вы зараз недзе пасярэдзіне паміж голасам і безгалоссем. Вось і гадаю: а што ж заўтра?

**А. КАТЛЯНІК.**
г. Мінск.

□

**З'яўляюся** даўнім чытачом вашай газеты і з прыемнасцю адзначаю, што «ЛіМ», мабыць, самае дэмакратычнае выданне ў рэспубліцы. Гэта не толькі мая думка, так лічаць многія.

**П. СУЛІМА.**
г. Брэст.

□

**Піша вам** ветэран Вялікай Айчыннай вайны, удзельнік вызвалення Беларусі, член КПСС з 1943 года. Чытаю «ЛіМ» і лічу — газета правільна робіць, што імкнецца стаяць на перадавых рубяжах барацьбы за перабудову.

**Г. ЖЫЛІН.**
г. Баранавічы.

□

**Шмат гадоў** я чытаю «ЛіМ», бо гэта мая газета — як работніка культуры і мастака па адукацыі. Той, хто нападае на вашу газету, балюча б'е і па мне. Цяжка пераацаніць значэнне газеты для развіцця нашай нацыянальнай культуры, для яе адраджэння.

**М. ЖАБІНСКАЯ.**
г. Мінск.

# ХТО НАС ДРУКУЕ



Лінатыпістка Т. ЮРКЕВІЧ



Вёрстка нумара. А. АКУНЕВІЧ і Р. ГУЗЯЛЕВІЧ



Мантажыстка Н. ПЯТРОВА



Друкар В. БАРКУН

Фота Ул. КРУКА.


«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

АТ 00379 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Індэкс 63856 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.
ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў і грамадскай думкі — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.